# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

**ГАЛОЎНАЕ Ў НУМАРЫ:**






ВЕРАСЕНЬ 1934 г. **18**

**Журнал ЦК КП(б)Б**

Выдавецтва ЦК КП(б)Б газ. „Звязда"

# Змест



# Дошка

## ЗА БАЯВУЮ РАБОТУ ПА ПАДРЫХТОЎЦЫ ДА 3-га УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ ЗАНОСІМ НА ДОШКУ ГОНАРУ:

**«СЦЯГ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ»**—шматтыражку віцебскай швэйнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі»—рэдактар **ПЛЯЎМЕНБАЎМ.**

Вялікую аператыўна-масавую работу разгарнула газета па падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. 12 новых штодзёнак, 80 новых рабкораў—рэзультат гэтай падрыхтоўкі. Зараз на фабрыцы выдаецца 97 насценгазет і налічваецца 1.000 рабкораў.

10 рэдактароў штодзёнак прапушчаны праз курсы па тэхніцы газетнай справы, арганізуецца 8-мі месячная рабкораўская школа на 50 чалавек. 2 рэдактары штодзёнак—Іванова і Вількіна вылучаны на работу ў шматтыражку.

Пры актыўным удзеле шматтыражкі разгортваецца спаборніцтва нізавых газет на лепшую барацьбу за колькасныя і якасныя паказальнікі промфінплана. Ход спаборніцтва шырока асвятляецца на старонках шматтыражкі, штодзёнак, у спецыяльным бюлетэні шматтыражкі, «ЧЫЯ МАЙ ВЫШЭЙ».

Па ініцыятыве штодзёнак сталінскіх брыгад на фабрыцы выпушчаны аблігацыі якасці «ЗА ГОНАР ФАБРЫЧНАЙ МАРКІ» ў спаборніцтве паміж швэйнымі фабрыкамі БССР і Украіны.

***

По прадстаўленню палітсектара МТС Наркамзема БССР заносім на Дошку гонару газету палітаддзела Аршанскай МТС **«ЗА БОЛЬШЭВІЦКІЯ КАЛГАСЫ»**—рэдактар тав. **ХАНІН.**

Ва ўсіх 67 калгасах зоны дзейнасці Аршанскай МТС выходзяць насценгазеты. Газета завязала цесную сувязь з селькорамі, калгаснікамі-ўдарнікамі. За 2 месяцы яна атрымала 358 пісем ад селькораў.

У сувязі з падрыхтоўкай да з'езда рабселькораў газета правяла ў 7 сельсоветах селькораўскія злёты. Ва ўсіх калгасах праведзены сходы па пытанню падрыхтоўкі да з'езда. На 5 пленумах сельсоветаў заслуханы даклады рэдактароў калгасных і брыгадных насценгазет. За апошні час газета «За большэвіцкія калгасы» змясціла 11 аглядаў калгасных і брыгадных насценных газет.

Зараз пры палітаддзеле арганізоўваецца габінет вучобы рэдактара і селькора.

***

По прадстаўленню парткома менскага машынабудаўнічага завода імя Варашылава і шматтыражкі **«ВАРАШЫЛАВЕЦ»** заносім на «Дошку гонару» штодзёнку цэха шырспажыву гэтага завода—рэдактар тав. **БРАЎДЭ.**

Штодзёнка выходзіць рэгулярна, добра тэхнічна афармляецца. За час падрыхтоўкі да з'езда да ўдзелу ў газеце прыцягнута 12 новых рабкораў. Рэдкалегія штодзёнкі выпускае спецыяльны юмарыстычны мастацкі бюлетэнь **«Б'ЕМ ПА ШЛЯПАХ».**

Аператыўная баявая работа штодзёнкі дапамагла кіраўніцтву цэха дабіцца поўнага выканання промфінплана апошняга квартала.

Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ВЕРАСЕНЬ № 18

Выходзіць 2 разы ў месяц

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*

Адрас рэдакцыі і выдавецтва МЕНСК, Савецкая, 63 тэл.—22412



А. СТЭЦКІ

## ПАД СЦЯГАМ СОВЕТАЎ, ПАД СЦЯГАМ СОЦЫЯЛІЗМА *)



А. СТЭЦКІ

### З'ЕЗД—ВЯЛІКАЯ ПАДЗЕЯ Ў НАШАЙ ЛІТАРАТУРЫ

З'езд совецкіх пісьменнікаў праходзіць з выключным поспехам і акружан вялікай увагай нашай краіны.

Яшчэ некалькі месяцаў таму назад знаходзіліся людзі, якія сумняваліся, ці трэба наогул збіраць гэты незвычайны з'езд, ці выйдзе з яго што-небудзь. Нават напярэдадні з'езда былі такія размовы.

Але вось з'езд адкрыўся. З'езд рушыўся. Ён узяў велізарны разбег. Зараз мы ўжо знаходзімся на трынаццатым дні гэтага з'езда, а між тым, ні наш паважаны старшыня, ні флегматычны член прэзідыума т. Дзем'ян Бедны, ні рушны Барыс Пастэрнак—ніхто не ведае, як зараз спыніць гэты з'езд,— такую безліч творчых пытанняў ён падняў, такую творчую энергію ён развіў у сваім ходзе.

З'езд, несумненна, з'явіцца і з'яўляецца ўжо зараз велізарнай падзеяй у нашай літаратуры. Усе адчуваюць, пісьменнікі асабліва, што пасля з'езда літаратура стане іншай, яна падымецца на новую ступень. І будучы гісторык літаратуры, зразумела, будзе весці літаратурнае летавылічэнне ад і да першага з'езда совецкіх пісьменнікаў. **(Аплядысменты).**

Таварышы! На гэтым з'ездзе—пісьменнікі ўсіх народаў Совецкага Саюза. Тут сабраліся прадстаўнікі самай кваліфікаванай інтэлігенцыі народаў Совецкага Саюза.

Яны прышлі сюды, на з'езд, з усімі пытаннямі, якія іх хвалююць. На самым з'ездзе—і ў дакладзе Аляксея Максіма-

*) Прамова т. Стэцкага на першым усесаюзным з'ездзе совецкіх пісьменнікаў.

віча, і ў дакладах прадстаўнікоў паасобных рэспублік Саюза ССР—быў выпукла прадстаўлен увесь той багацейшы вопыт, уся тая культурная спадчына, якая ёсць у нашых рэспубліках. З'езд навочна паказаў, што ў нашай брацкай сям'і жывуць народы, якія стогоддзямі і тысячагоддзямі вылічаюць сваю культуру. Мы выйдзем, несумненна, узбагачаныя з гэтага з'езда.

Ужо да з'езда была праведзена вялікая работа па азнаямленню з літаратурай народаў Совецкага Саюза. Але з таго, што мы пачулі на з'ездзе, можна сказаць, што мы знаходзімся толькі ў пачатку гэтай вялікай работы па азнаямленню і збліжэнню пісьменнікаў народаў Совецкага Саюза аднаго з другім, па азнаямленню пісьменнікаў з усёй той рознастайнай, багатай культурай народаў совецкай краіны, шырокае і выразнае ўяўленне аб якой дае першы з'езд совецкіх пісьменнікаў.

Тут выступалі прадстаўнікі розных народаў Совецкага Саюза, прадстаўнікі розных літаратурных плыней. Усе яны па-свойму, на свой літаратурны лад, ставілі творчыя пытанні. Але ўсіх іх яднала адно, усе іх выступленні вярцеліся вакол таго, за што змагаецца наша краіна—вакол **справы соцыялізма. (Апладысменты).**

Мы можам з поўным правам сказаць, што гэты з'езд, на які сабраліся прадстаўнікі лепшай часткі інтэлігенцыі народаў Совецкага Саюза, няміма свайго літаратурнага значэння, мае буйнейшае **палітычнае** значэнне, бо гэты з'езд афармляе і замацоўвае ўжо даўно пачаты працэс аб'яднання **інтэлігенцыі народаў Совецкага Саюза пад сцягам Советаў, пад сцягам соцыялізма. (Апладысменты).**

## НАША ЛІНІЯ—ГЭТА ЛІНІЯ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА РЭАЛІЗМА

На з'ездзе адбывалася жывая творчая дыскусія. Тут былі закрануты ўсе пытанні літаратурнай творчасці. У гэтым карэннае адрозненне ад тых часоў, калі літаратурны рух накіроўваўся РАПП'ам. Вы помніце, што РАПП меў сваю «генеральную лінію», свайго «генеральнага сакратара», сваю «генеральную платформу», якую прабавалі навязаць усім пісьменнікам. Вы помніце таксама жорсткія спрэчкі, якія ішлі вакол кожнай крошкі і кожнай коскі гэтай платформы.

Зараз гэтага няма. На першым з'ездзе совецкіх пісьменнікаў адбываецца свабодная творчая дыскусія, свабоднае абмеркаванне ўсіх творчых пытанняў. На гэтым з'ездзе не выносіцца ніякіх рэзалюцый па творчых пытаннях, якія былі-б абавязковы для кожнага пісьменніка.

Калі абмяркоўвалася праграма работ з'езда і высоўваліся дакладчыкі на гэтым з'ездзе, то аргкамітэт, разумеецца, гэту праграму з'езда і дакладчыкаў узгадняў з нашай партыяй. Я думаю, што гэта ні для каго не сакрэт. Але гэта зусім не значыць, што кожны даклад з'яўляецца якімсьці канонам, якойсьці платформай, дзе кожная коска, кожнае слова не падлягае ніякай змене і абавязкова к няўхільнаму выкананню. Гэтага няма, таварышы. Гэта было-б сцясненнем творчай ініцыятывы.

У нас няма таксама ніякіх рашэнняў партыі і ўрада аб тым, каб даваць афіцыяльныя характарыстыкі і ацэнкі паасобным пісьменнікам, выдаваць празаікам і паэтам свайго роду ордэны, знакі выдатнасці, знакі заахвочвання або знакі ганьбавання і хулы розных ступеней. Я не ведаю таксама ніякіх рашэнняў партыі і ўрада аб «кананізацыі» Маякоўскага.

Маякоўскі — магутны паэт, паэт рэволюцыі, але ў нас няма рашэнняў аб тым, каб раўняць усю нашу совецкую паэзію толькі па Маякоўскаму. І калі т. Бухарын у сваім дакладзе даў ацэнку паасобным творам і творчасці паэтаў, то ён гэта зрабіў зноў такі ў парадку пастаноўкі творчых пытанняў на з'ездзе. Гэта зусім не значыць, што кожны паэт на гэтым з'ездзе атрымаў ад партыі ці ўрада свой знак адрознення, з якім ён павінен з гэтага з'езда пайсці. Гэта было-б праяўленнем найвялікшага бюракратызма, а вы ведаеце, што няма больш непрымірымага барацьбіта з бюракратызмам, чым наша партыя.

**У нас ёсць грамадская думка, крытыка, чытачы, якія выраслі за апошнія гады і якія самі вельмі добра разумеюць, які твор каштоўны, варты пахвалы, а які твор варты ганьбавання.**

Але, калі ў нас у літаратуры ідзе

свабоднае творчае спаборніцтва, жывое абмяркаванне творчых пытанняў, **то гэта зусім** не значыць, што ў нас няма ніякай лініі ў літаратуры. Не, таварышы, у нас ёсць лінія ў літаратуры, і аб гэтым гаварылася амаль ва ўсіх выступленнях на з'ездзе. Аб гэтым гаварылася і ў дакладзе Алексея Максімавіча і ў выступленні сакратара ЦК тав. Жданава. Наша лінія — гэта соцыялістычны рэалізм **(Аплады смен ты).**

Вы самі сказалі ў сваёй рэзалюцыі, што вы хочаце стварыць творы, прасякнутыя духам соцыялізма. Вось лінія совецкай літаратуры. А ва ўсім астатнім — свабоднае творчае спаборніцтва.

У нас занадта многа мудруюць па поваду соцыялістычнага рэалізма. Соцыялістычны рэалізм зусім не прадстаўляе сабой якісці набор інструментаў, які выдаецца пісьменніку для стварэння мастацкіх твораў. Некаторыя пісьменнікі патрабуюць, каб ім была дана ва ўсіх дэталях тэорыя соцыялістычнага рэалізма.

Вы—прадстаўнікі лепшай часткі інтэлігенцыі. «Каму многа дано, з таго многа і патрабуецца». І калі гавораць, што нам трэба паказаць соцыялістычны рэалізм, то тут, на з'ездзе пісьменнікаў, адказ можа быць толькі адзін: соцыялістычны рэалізм можа быць лепш за ўсё паказан у тых мастацкіх творах, якія ствараюць совецкія пісьменнікі.

## СОВЕЦКІЯ ПІСЬМЕННІКІ АКРУЖАНЫ ЛЮБОЎЮ І КЛОПАТАМІ ПРАЦОЎНЫХ

Адзначальнай рысай з'езда совецкіх пісьменнікаў з'яўляецца тая напружаная ўвага, якой яго акружыла ўся наша краіна. Нямала гаварылася аб тым, што ў краіне Советаў зніклі перагародкі, якія ў мінулым аддзялялі мастака ад народу. Але я думаю, што многія з пісьменнікаў ва ўсёй сіле ўпершыню адчулі гэта тут, на з'ездзе совецкіх пісьменнікаў. Толькі тут многія з вас адчулі, якой любоўю і якой увагай наш народ акружае **сваю совецкую інтэлігенцыю,** з якімі клопатамі ён да яе адносіцца. Вы бачыце, як уся краіна сочыць за работамі з'езда, як чула рэагуе яна на кожнае выступленне пісьменнікаў. Гэта было ярка прадэманстравана тут, на з'ездзе, у выступленнях шматлікіх дэлегацый рабочых, калгаснікаў, прадстаўнікоў Чырвонай арміі і флота, моладзі, работнікаў другіх галін мастацтва.

Гэта мы бачылі ў Маскоўскім парку культуры і адпачынку, у Зялёным тэатры, дзе сабраліся дзесяткі тысяч масквічоў... 

Гэта мы бачылі ў Маскоўскім парку культуры і адпачынку, у Зялёным тэатры, дзе сабраліся дзесяткі тысяч маскоўскіх пролетарыяў для таго, каб горача вітаць з'езд совецкіх пісьменнікаў. І калі прысутныя на гэтым свяце пісьменнікі ўбачылі дзесяткі тысяч гледачоў, гэты велізарны амфітэатр пад адкрытым небам, месяц, які вісеў над гэтым амфітэатрам (прычым пісьменнікі пыталіся, наўжо і гэты месяц падвешан там дырэктарам парка), то ў многіх з іх нявольна ўсталі ў ваабражэнні незабыўныя карціны антычнай Грэцыі, дзе мастацтва было неразрыўна звязана з народам. «А добра-б на гэтай сцэне паставіць «Эдыпа»,—вырвалася тады ў А. Талстога. «Або наладзіць спаборніцтва паэтаў і песняроў»,—дадаў хтосці.

Ці не здаецца вам, таварышы, што цяпер, на другой ступені гістарычнага развіцця, у век электрычнасці, радыё, у век соцыялізма і совецкай улады ў нашай краіне, **да нас** прыйшлі лепшыя часы мастацтва, калі народ і мастак складаюць адно цэлае. У нас знікаюць патроху літаратурныя снобы, якія ў гасцінных, шчыльна зачыніўшы дзверы, аглушаюць адзін другога вітыеватымі тырадамі. У нас народ ведае **сваіх** пісьменнікаў. Ён абмяркоўвае на фабрыках і ў калгасах, у дамах і клубах Чырвонай арміі кожны новы твор. У нас кожная добрая песня у момант аблятае ўсю краіну ад Беларусі да берагоў Ціхага акіяна.

І не дарма тут, на з'ездзе, і ў дакладзе А. М. Горкага, і ў выступленнях пісьменнікаў так многа гаварылася аб народнай творчасці. Так, у нас народ зноў вылучае сваіх песняроў, сваіх мастакоў. Кожны год падымаюцца новыя і новыя сілы, новыя пісьменнікі, якія выходзяць з асяродзішча рабочых і калгаснікаў, і якія часамі першым-жа сваім творам становяцца вядомымі ўсёй краіне.

Тав. Стаўскі сёння расказваў аб гэтых маладых пісьменніках, якіх становіцца ўсё больш з кожным годам, бо

расце наша культура.

З другога боку, і тыя мастакі, якія раней былі абасоблены, цяпер прышоўшы к пролетарыяту, прыняўшы платформу совецкай улады, сталі блізкімі і роднымі для нашага народу.

Калі тут выступалі прадстаўнікі фабочых і калгаснікаў, яны нам гаварылі: апішыце наш рост, нашу барацьбу за соцыялізм.

Кожны чалавек, які з гэтай трыбуны вітаў з'езд, пачынаючы ад маскоўскай калгасніцы, гаварыўшай бліскучай малюнічай мовай, і канчаючы майстрам завода імя Сталіна, створан рэволюцыяй, загартоўваўся ва ўпартай барацьбе за таржаство соцыялізма.

Мне ўспамінаюцца некаторыя мудраванні нашых крытыкаў, якія часам ходзяць вакол ды каля некаторых асноўных палажэнняў, якімі кіруюцца нашы пісьменнікі, і сваімі разважаннямі прабуюць выпустошыць сэнс гэтых палажэнняў. Вядома палажэнне Энгельса аб тым, што мастаку неабходна паказваць тыповыя характары ў тыповых абставінах. І вось, калі гаварыць аб тых характарах прадстаўнікоў рабочых, калгаснікаў, Чырвонай арміі, якія з'яўляліся тут на гэтай трыбуне, то ніхто, як яны, не апраўдаюць з такой нагляднасцю гэтага палажэння Энгельса. Бо гэтыя характары былі створаны ў тытанічнай класавай барацьбе, якая разгортвалася ў нашай краіне ўсе гэтыя гады.

Некаторыя разважаюць так: ну, з першым палажэннем Энгельса адносна тыповых характараў мы можам пагадзіцца. Што датычыць другога палажэння адносна тыповых абставін, то гэта, уласна кажучы, ні к чаму. Гэта з'яўляецца, па-мойму, буйнейшай памылкай. Мы не можам зразумець і мы не можам паказаць ні аднаго характара, не паказваючы таго, як гэты чалавек змагаўся, з якімі перашкодамі, з якімі ворагамі, і як ён у гэтай барацьбе загартоўваўся.

Уся наша партыя, партыя Леніна—Сталіна, вырасла і загартавалася ў барацьбе за соцыялізм. У гэтай барацьбе загартаваўся і рабочы клас. Нашы мастакі павінны даць адчуць і зразумець гэта ў сваіх творах. Яны павінны знайсці часам невялічкія дробныя рысы, якія найлепш адцяняюць увесь гэта асноўнае ў станаўленні, у стварэнні характараў у нашай краіне.

## ЧЭЛЮСКІНЦЫ — ВОБРАЗ ГЕРАІЧНАГА ПРОЛЕТАРЫЯТА

Тут выступаў Отто Юльевіч Шмідт. Ён сказаў нешта простае на першы погляд, але вельмі значнае, на што, як мне здаецца, нашым пісьменнікам трэба звярнуць сур'ёзную ўвагу. Отто Юльевіч сказаў:

**«У Арктыцы, на льдзіне, у найтруднейшых, трагічных абставінах у людзей паявіліся тыя якасці, якія раней знаходзіліся ў іх у скрытым стане, але якія былі выхаваны краінай Советаў».**

Перада мною кніга, якую трэба раздаць дэлегатам з'езда, на якую, я думаю, вы ўсе звернеце ўвагу. Аб гэтай кнізе, на жаль, ніхто не гаварыў на з'ездзе. Гэта кніга называецца «Як мы вырataвалі чэлюскінцаў». Героі Советскага Саюза не сталі чакаць, калі нашы пісьменнікі натхняцца і апішуць іх подвіг на ледзяных палях Арктыкі. Яны **самі** ўзяліся за справу і на працягу двух месяцаў **самі** напісалі гэту кнігу. Тут у простых, няштучных словах кожны з лётчыкаў—Ляпідзеўскі, Леванеўскі, Слепнёў, Молакаў, Каманін, Вадап'янаў, Даронін расказваюць аб сваім жыцці, як яны вучыліся, як тварылі свае гераічныя подвігі.

Гэта выдатная кніга. Гэта—кавалак жыцця. Гэта адна з самых цікавых кніг, якія з'явіліся за апошні час. З'яўленне яе гаворыць аб тым, што наш народ вылучыў такіх герояў, якія не толькі робяць подвігі, але ўмеюць расказваць і аб сабе, і аб подвігах. Гэта новае з'явішча ў нашай літаратуры.

Калі вы прагледзіце гэту кнігу, вы ўбачыце, што гэта за людзі. Адзін нарадзіўся ў падмаскоўнай вёсцы, другі—пад Ленінградам, трэці—у Палтаве. Іх жыццёвы шлях быў розны. Многія з іх не сустракаліся адзін з другім да Ванкарэма і Уэлена. Але папаўшы туды, яны сталі дзейнічаць разам, як сталёвы атрад рэволюцыі. **(Апладысменты).**

Хто стварыў іх? Прачытаўшы гэту кнігу, вы ўбачыце, што гэтых людзей стварыла рэволюцыя.

І калі наш народ ушаноўваў чэлюс-

кінцаў, то ён ушаноўваў у іх не толькі іх асабістую мужнасць і гераізм. Можа быць, у пісьменніка, які пачне апісваць гэты подзвіг, ён абрысуецца як адзін з прыкладаў асабістага гераізма, асаб'стай мужнасці, якіх даволі многа. Гэта было-б найвялікшай памылкай. Не, кожны з гэтых людзей мае сваю гісторыю. І тое, што рабілася на льдзіне, таксама мае сваю гісторыю. І калі наша краіна ўшаноўвала герояў Арктыкі, краіна бачыла ў іх свой вобраз, яна бачыла ў тым, што адбывалася на льдзіне, вобраз усёй краіны Саветаў, вобраз гераічнага пролетарыята. Там сказаліся дзве якасці, якія адрозніваюць нашы працоўныя масы—сказаўся гераізм, які праявіў наш народ пад кіраўніцтвам рабочага класа, калі ён упершыню ў гісторыі пракладаў дарогу к новаму будучаму, новаму ладу, і сказалася **найвялікшая арганізаванасць,** без якой гэты гераізм адарваўся-б ад зямлі, быў-бы безгрунтоўным, без якой не маглі быць створаны ўсе гэтыя вялікія справы

**НАПІШАМ ТВОРЫ, ВАРТЫЯ НАШАЙ ВЫДАТНАЙ ЭПОХІ.**

Гэта мае велізарнае значэнне для мастака, для мастацкай творчасці. Адзін з класікаў, які даўно памёр, але «прысутнічае» на дадым з'ездзе, сказаў, што рэалізм, які не бачыць далей кончыка свайго носа, горш усякай шалёнай фантастыкі, **бо ён слеп.**

Прыклад чэлюскінцаў вучыць мастака, што нельга абмяжоўвацца адной фатаграфіяй, нельга абмяжоўвацца знадворным апісаннем падзей. Мастак павінен знайсці такія рысы, якія выявілі-б сувязь з'яў, якія-б паказалі, адкуль вырас чалавек, адкуль узяліся тыя якасці, якія дазволілі тварыць цуды гераізма, цуды арганізаванасці, якімі захапляўся ўвесь свет.

Тут многа гаварылася аб тым, што наша мастацтва павінна быць багата зместам. Гэта зусім правільна. У нас цяпер ужо няма адкрытых абаронцаў фармалізма. Праўда, знаходзяцца яшчэ людзі, якія заклінаюць фармалізм, і ў той-жа час працягваюць яго ў сваіх творах або ў крытыцы. Такога роду выпадкі, на жаль, яшчэ бываюць. Але ў барацьбе з беззмястоўным мастацтвам, з мастацтвам, якое з'яўляецца адлюстраваннем гніення і распаду буржуазнага свету, мы ўжо атрымалі рашаючую перамогу. І наш мастак усведамляе, што ён павінен у сваім творы даць не проста прыгожую разетку, а **даць багаты зместам** твор, які-б натхняў, клікаў і вабіў наперад. Мне здаецца, што мастак шукае тады, калі ён творыць, калі ён стварае свой твор і калі ён усе сілы напружвае для таго, каб вобразы яго твору, кожная думка, кожнае пачуццё, кожнае слова, дайшлі да сэрца чытача. І ў гэтых адносінах А. М. Горкі дае нам прыклад. Яго творы ўсе зроблены так, што іх вельмі добра разумее масавы чытач. Там адточана кожнае слова і кожная фраза, там любоўна зроблен кожны вобраз, і ўсё накіравана да таго, каб гэты твор знайшоў водгук у сэрцы чытача. Іменна да гэтага павінен імкнуцца кожны сапраўдны мастак.

Таварышы, тут выступала многа прадстаўнікоў нашых новых чытачоў. Яны прыходзілі з усіх канцоў нашай савецкай краіны. Яны выходзілі на гэту трыбуну і гаварылі: мы вас, савецкіх пісьменнікаў, любім, мы вас шануем, але мы чакаем ад вас, што вы дасце нам новыя песні, новыя творы, у якіх выліўся-б паток новых пачуццяў і думак. Мы хочам, каб вы пісалі творы, якія-б натхнялі, клікалі наперад, у якіх было-б адлюстравана ўсё наша асляпляюча-маляўнічае шматграннае гераічнае жыццё і работа. Яны прыходзілі сюды, на трыбуну з'езда савецкіх пісьменнікаў і звярачалі да з'езда савецкіх пісьменнікаў, да лепшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі свае надзеі і патрабаванні.

Адказ можа быць толькі адзін: так, мы створым новае мастацтва, мастацтва свабоднага народу. Так, мы створым мастацтва соцыялізма. **(Бурныя апладысменты).**

# ПЕРАВЫБАРЫ СОВЕТАЎ
## І ЗАДАЧЫ БОЛЬШЭВІЦКАГА ДРУКУ

«Выбары ў советы—масавая палітычная кампанія, найшырэйшы агляд перамог соцыялістычнага будаўніцтва. Выбары—магутная зброя арганізацыі мільённых мас рабочых, калгаснікаў і совецкай інтэлігенцыі на далейшую барацьбу за пабудову соцыялізма і ўмацаванне советаў—органаў дыктатуры пролетарыята». (Са звароту ЦВК СССР аб выбарах у советы).

Правядзенне гэтай вялікай палітычнай важнасці справы ставіць асабліва адказныя задачы перад усёй пролетарскай грамадскасцю, перад усім друкам.

Перавыбары советаў будуць праходзіць пад лозунгамі барацьбы за паспяховае выкананне планаў другой пяцігодкі. Вырашэнне гэтых задач праходзіць ва ўмовах вострай класавай барацьбы.

Вышыбленыя з каляіны апошнія астаткі паміраючых класаў: прамыслоўцы і іх чэлядзь, гандляры і іх прыспешнікі, былыя дваране і папы, кулакі і падкулачнікі, былыя белыя афіцэры і ўраднікі, былыя паліцэйскія і жандары, усялякага роду буржуазныя інтэлігенты шавіністычнага толку і ўсе іншыя антысовецкія элементы... распаўзліся па нашых заводах і фабрыках, па нашых установах і гандлёвых арганізацыях, па прадпрыемствах чыгуначнага і воднага транспарта і галоўным чынам па калгасах і соўгасах. Распаўзліся і схаваліся яны там, накінуўшы маску «рабочых» і «сялян» **(Сталін).**

Прышлі-ж яны туды для таго, каб «паскудзіць і шкодзіць рабочым, калгаснікам, совецкай уладзе, партыі. І яны паскудзяць як толькі могуць, дзейнічаючы ціхай сапай».

Супраціўленне класава-варожага ахвосця будзе праяўляцца асабліва востра ў часе перавыбараў советаў. Яны будуць усімі сіламі імкнуцца пралезці ў советы для таго, каб тварыць там сваю варожую справу.

У гэтых умовах выключна адказныя задачы стаяць перад друкам.

Друк у бягучую перавыбарчую кампанію павінен праявіць асаблівую актыўнасць і аператыўнасць як у асвятленні падрыхтоўкі да перавыбараў і самой перавыбарчай кампаніі, так і ў разгортванні соцыялістычнага спаборніцтва выбаршчыкаў на паспяховае выкананне вытворчых планаў, на выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай.

Выбарчая кампанія гэтага года павінна быць праведзена такім парадкам, каб советы яшчэ больш і лепш кіравалі ўзросшым гаспадарчым і культурным жыццём. Дасягнуць-жа гэтага можна толькі выключна пры ўмове нагалоўнага ўдзелу выбаршчыкаў у перавыбарах советаў, шырока разгарнуўшы крытыку і самакрытыку.

Цяпер як ніколі востра стаіць пытанне аб падборы ў советы людзей падрыхтаваных палітычна, здольных працаваць і кіраваць гаспадарча і культурна. Нельга кіраваць прадпрыемствам, не ведаючы вытворчасці, таксама як нельга правільна кіраваць і калгасамі, не ведаючы сельскай гаспадаркі.

Падбор кадраў і барацьба з цякучасцю сярод работнікаў советаў набывае зараз асабліва важнае значэнне. Да гэтага часу ў радзе советаў наглядаюцца факты вельмі частай змены асноўных работнікаў. У 1933 годзе, напрыклад, па БССР за год змянілася 60,4 проц. усіх старшынь сельсоветаў і каля 50 проц. сакратароў.

Усё гэта адбываецца з прычыны таго, што падбору кадраў ва многіх месцах яшчэ не надаецца належная ўвага.

Прарывы ў рабоце советаў некаторыя кіраўнікі тлумачаць тым, нібы не хапае работнікаў. На 17 з'ездзе ВКП(б) тав. Кагановіч даў жорсткі адпор падобным настроям. «Калі гавораць, што ў нас няма людзей,—заявіў тав. Кагановіч,—гэта няправільна. Людзі ёсць і талантлівыя людзі, трэба ўмець іх вылучаць, падняць, паставіць на належнае месца. Трэба ўмець па-сапраўднаму імі кіраваць».

Указанне тав. Кагановіча мае асабліва важнае значэнне пры перавыбарах советаў.

Гэтым аглядам і праверкай у першую чаргу павінен заняцца друк. На старонках раённых газет, шматтыражак і насценных газет трэба шырока паказаць пролетарскай грамадскасці, выбаршчыкам не толькі як працаваў совет ці яго асобнае звяно, секцыя, дэпутацкая група, але як працаваў у паасобку кожны член совета, як ён выконваў наказ выбаршчыкаў і на справе ажыццяўляў дырэктывы партыі.

Трэба зараз-жа разгарнуць шырокую пролетарскую крытыку і самакрытыку работы советаў і кожнага яго члена ў паасобку. Трэба паказаць выбаршчыкам як совет арганізаваў соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, як ён змагаўся за выкананне промфінплана, за паляпшэнне якасці прадукцыі, наладжанне гарадской гаспадаркі і жыллёвага будаўніцтва, за паляпшэнне культурна-бытавога абслугоўвання працоўных.

На вёсцы друк павінен паказаць, як советы змагаюцца за своечасовае і поўнае выкананне калгаснікамі і працоўнымі аднаасобнікамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў і за далейшую калектывізацыю.

На старонках газет трэба шырока разгарнуць абмен вопытам работы. Даць слова ў газеце лепшаму старшыні, сакратару, члену совета. Няхай яны самі раскажуць выбаршчыкам аб тым, як совет змагаўся за ажыццяўленне дырэктыў партыі, якія формы і метады прымянялі для таго, каб вывесці свой раён, сельсовет у перадавыя.

Да апошняга часу раённыя газеты не аддавалі патрэбнай увагі сельскім советам. Мы прагледзелі раённыя газеты «Калектывіст» (Уваравічы), «Калгасны сцяг» (Камарын), «Калгасны сцяг» (Чавусы), «Калгасная праўда» (Гарадок). Ні ў адной з гэтых газет мы не знайшлі разгорнутых матэрыялаў аб рабоце советаў.

**Мала гэтага, ні адна з указаных газет нават не ўключылася ў паход імя VII з'езда советаў.**

Ёсць факты і іншага парадку. Некаторыя раённыя газеты на словах уключыліся ў паход імя **VII з'езда,** надрукавалі самаабавязацельствы асобных сельсоветаў і калгасаў і на гэтым супакоіліся. Мала прыняць добрае абавязацельства. Трэба прасачыць, каб гэта абавязацельства было выканана. Галоўнае—праверка выканання.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія советаў яшчэ больш узніме палітычную актыўнасць і энтузіязм шырокіх працоўных мас на барацьбу за поўнае і паспяховае выкананне праграмы другога года другой пяцігодкі.

## ПАБУДУЕМ ЗВЯНО АГІТСАМАЛЕТАЎ ІМЯ III З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ БССР

Набліжаецца III усебеларускі з'езд рабселькораў. Гэты з'езд будзе мець вялізарнае значэнне ў далейшым росце і ўмацаванні ўсяго рабселькораўскага руху і друку БССР. Задача кожнай газеты, кожнага рабселькора-ўдарніка—як мага лепш падрыхтавацца да з'езда, адзначыць падрыхтоўку да з'езда новымі вытворчымі перамогамі.

31 жніўня Барысаў наведаў агітсамалёт агітаблёту, арганізаванага рэдакцыяй журнала «Бальшэвіцкі друк» і менскім аэраклубам. Прабыванне агітсамалёта ў горадзе выклікала вялікі энтузіязм у масах рабкораў прадпрыемстваў, узмацніла падрыхтоўку да рабселькораўскага з'езда.

У адзнаку надыходзячага з'езда рабселькораў і першага агітаблёту, арганізаванага журналам «Бальшэвіцкі друк», прапануем пачаць збор сродкаў на пабудову звяна агітсамалётаў імя III з'езда рабселькораў БССР. Сярод рабселькораў і працоўных горада і раёна мы пачалі ўжо збор сродкаў. Выклікаем паследваць нашаму прыкладу ўсе цэнтральныя, раённыя, фабрычна-заводскія і палітаддзельскія газеты БССР.

Рэдакцыі барысаўскіх газет: «БОЛЬШЭВІК БАРЫСАЎШЧЫНЫ», «ЧЫРВОНЫ БЯРЭЗІНЕЦ», «ГУТА», «УДАРНІК», «ЗА ЛЕС».

# ПАКУЛЬ У РЭДАКЦЫЮ НЕ ПАСТУПІЦЬ ЗВОДКА...

**«ЗА БОЛЬШЭВІЦКІЯ ТЭМПЫ»** — орган Веткаўскага РК КП(б)Б і РВК; **«ЧЫРВОНЫ СЦЯГ»** — Орган Чырвонапольскага РК КП(б)Б і РВК; **«СТАЛІНСКІ ПРЫЗЫЎ»** — орган Касцюковіцкага РК КП(б)Б

У рэдакцыі нягласна прынялі рашэнне: ні слова не пісаць аб ходзе мясапаставак па раёну. Што прымусіла рэдактара прыняць такое, па меншай меры незразумелае рашэнне?

Нам дакладна вядомы два факты. Па-першае, Веткаўскі раён увесь час ганебна зрывае мясапастаўкі. Па-другое, раённая газета **«За большэвіцкія тэмпы»** і яе адказны рэдактар тав. **Длугашэўскі** па меры сваіх сіл і магчымасцей стараюцца ўтаіць адставанне раёна па мясапастаўках. Рэдакцыя рашыла быць да канца паслядоўнай: ні слова аб ходзе мясапаставак у раёне.

24 верасня публікуецца пастанова бюро ЦК КП(б)Б аб мясапастаўках і адгрузцы мяса Ленінграду. Цэнтральны Камітэт адзначае, што рад раёнаў ігнаруюць рашэнні пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб мясапастаўках, не разумеюць, што мясаздача такая-ж важнейшая справа, як і хлебапастаўкі.

> **«...рад раёнаў: Лёзненскі, Бешанковіцкі, ВЕТКАЎСКІ, Хойніцкі і інш. прадаўжаюць займацца адпіскай, славеснай дэкларацыяй, заклінаннем замест большэвіцкай арганізацыі справы мясапаставак.**
>
> **У рэзультаце квартальны план выканан на 64,2 проц., а такія раёны, як Лёзненскі, Бешанковіцкі, Веткаўскі выканалі 21—31 проц., па сутнасці справы сарваўшы выкананне квартальнага плана па раёну».**

Веткаўская газета перадрукавала пастанову бюро ЦК у нумары за 28 верасня. Якія-ж вывады робіць газета? Такія, як і раней: ні слова не пісаць аб ходзе мясапаставак па раёну.

За гэтым нумарам выходзяць чарговыя тры нумары веткаўскай газеты. Але зноў—літаральна ні радка аб мясапастаўках. Усё тое-ж непарушнае маўчанне. Якая ганебнейшая, палітычная блізарукасць!

Каму на руку такая пазіцыя веткаўскай газеты? Адказ можа быць толькі адзін. Газета адкрыта патурае сабатажнікам мясапаставак.

Урок веткаўскай газеты павінен улічыць увесь друк БССР. Мясапастаўкі—адна з важнейшых гаспадарча-палітычных задач. Кожная газета павінна праявіць максімум аператыўнасці і энергічнасці, разгарнуць найшырэйшую масава-растлумачальную работу, настойліва дабівацца, каб кожны калгас, калгаснік і аднаасобнік поўнасцю і ў тэрмін выканалі свае абавязацельствы перад дзяржавай па мясапастаўках.

***

Газета «За большэвіцкія тэмпы» не з'яўляецца выключэннем. Недаацэнка мясапаставак уласціва і раду іншых газет. Рэдакцыі гэтых газет усё яшчэ не ўяснілі выключнага гаспадарча-палітычнага значэння мясапаставак.

Канкрэтная справа часта падмяняецца шуміхай, агульнымі разважаннямі, дэкларатыўнасцю. Многія газеты ўспа-

мінаюць пра мясапастаўкі толькі ў сувязі з чарговай зводкай.

Гатова зводка. Лічбы сігналізуюць аб прарыве. Рэдакцыя зьмяшчае невялікую заметку, пабудаваную па прынцыпу агульных разважанняў: «выканаць план», «мабілізаваць усе сілы» і т.д. і т. д. Потым пакуль у рэдакцыю не паступіць чарговая зводка, газета маўчыць.

Іменна так робіць, напрыклад, газета **«Чырвоны сцяг»** (Чырвонапольскі раён).

Чырвонаполле сур'ёзна адстае па выкананню плана мясаздачы. Раённая газета не ўтойвае, што мясапастаўкі праходзяць зусім нездавальняюча.

> **«За ганебныя тэмпы выканання квартальнага плана паставак мяса наш раён занесен у лік зрыўшчыкаў мясапаставак. Гэта зусім заслужана».**

Далей газета называе адстаючыя сельсоветы:

> **«Злачынна зрываюць план сельсоветы: Кажэмякінскі, Н.-Елькянскі, Гарэзінскі, Беразяцкі, Сабалеўскі, Мхініцкі...».**

Праз пяць дзён, 18 верасня, рэдакцыя зьмяшчае чарговую зводку аб ходзе мясапаставак па раёну і рэдакцыйныя каментарыі. Фігуруюць тыя-ж самыя сельсоветы:

> **«Па раду сельсоветаў не паступіла ні аднаго кіло — па Кажамякінскаму, Н.-Ельнянскаму, Гарадзецкаму, Сабалеўскаму, Мхініцкаму і Гарэзінскаму».**

І так кожны раз. Зводка, спіс найбольш адстаючых сельсоветаў і некалькі агульных заклікаў. Усё тая-ж нязменная карціна. Ні адной спробы назваць сабатажнікаў па прозвішчу, выкрыць канкрэтныя прычыны адставання, дабіцца, каб злосныя нездатчыкі былі прыцягнуты да адказнасці.

30 верасня газета, сігналізуючы аб зрыве квартальнага плана мясапаставак (ні адзін сабатажнік не выкрываецца, прыводзяцца толькі лічбы па некалькіх найбольш адстаючых сельсоветах), заключае:

> **«Для таго, каб пакрыць недабор па мясапастаўках і забяспечыць своечасовае выкананне плана мясапаставак у IУ квартале 1934 года, трэба пакончыць з апартуністычнымі разважаннямі самацёкам, ператварыць задачу своечасовага выканання плана мясапаставак у першачарговую задачу ўсёй партарганізацыі, сельсоветаў, калгасаў, комсамола пад знакам таго, што выкананне плана мясапаставак ёсць справа ўсёй працоўнай грамадскасці раёна, бо выкананне абавязковых паставак мяса ёсць закон, выкананне яго абавязкова...»**

Яшчэ не скора паставіць кропку рэдактар чырвонапольскай газеты. Загаварыўся ён, не разумеючы, што наўрад ці знойдзецца хоць адзін чытач, у якога хопіць сіл і цярпення да канца прачытаць падобную фразу.

Як толькі справа даходзіць да фактаў, як толькі трэба называць жывых людзей, рэдакцыя чырвонапольскай газеты пускаецца ў плаванне (у моры агульных фраз).

> **«Як з зрыўшчыкамі, так і з тымі, хто сваімі ліберальнымі адносінамі да зрыўшчыкаў дапамагае ім зрываць мясапастаўкі, павінна быць абвешчана самая рашучая барацьба».**

«Чырвоны сцяг» такім чынам, толькі зьбіраецца «абвясціць рашучую барацьбу», а ў якасці зброі выбірае агульныя абязлічаныя формы, ад якіх сабатажнікам мясапаставак ні горача, ні холадна.

***

Касцюковіцкая газета **«Сталінскі прызыў»** не ў прыклад чырвонапольскай газеце, гаворыць толькі пра факты, або, як выражаецца сама рэдакцыя, пра «карэнні сабатажа».

Рэдакцыя прымяняе правільны метад: яна зьмяшчае матэрыялы па аднаму

сельсовету, у якіх даецца поўны аналіз, угрунтаваны канкрэтнымі фактамі, выкрываюцца злосныя нядатчыкі, арганізатары кулацкага сабатажа.

Бярэм заметку **«Вось дзе карэнні сабатажа»** («Сталінскі прызыў» за 4 жніўня). Гутарка ідзе пра Прусінскі сельсовет. Газета паказвае, чаму сельсовет выканаў квартальны план толькі на 10 проц., хто сабатуе мясаздачу, хто з'яўляецца злосным нядатчыкам і т. д.

Што-ж далей? На жаль, нічога. Далей праходзіць тыдзень, другі, трэці, месяц, а газета маўчыць, нібы ў рот вады набраўшы. Праз месяц, паўтара змяшчаецца новая заметка, але ўжо аб іншым сельсовеце. Затым — тое-ж доўгае маўчанне. Зусім зразумела, што касцюковіцкая газета проста не мае ніякага ўяўлення аб асноўных прынцыпах аператыўнасці ў друку.

Не так трэба змагацца за выкананне плана мясапаставак. Задача ў тым, каб штодзенна і аператыўна асвятляць ход мясапаставак, пераносіць вопыт перадавікоў у адстаючыя сельсоветы і калгасы, не толькі рашуча выкрываць сабатажнікаў, але і дабівацца, каб кожны злосны нядатчык быў прыцягнут да судовай адказнасці, сачыць, каб мяса, якое здаецца па цвёрдых пастаўках, было самай высокай якасці.

# ЛЁС АДНЭЙ ДЭКЛАРАЦЫІ

орган Лепельскага РК КП(б)Б
**«КАЛГАСНАЯ ПРАЎДА»**

Што было-б, калі-б мы прад'явілі лепельскай раённай газеце абвінавачанне ў тым, што яна зусім не змагаецца за выкананне планаў вуглездабычы? Рэдактар **«Калгаснай праўды»** тав. **Бароўскі** стаў-бы рашуча і зусім законна пратэставаць. Што за недарэчныя абвінавачанні? Спрадвеку ў Лепелі не здабываўся вугаль.

Вы правы, тав. Бароўскі, зусім правы. Вугаль у Лепельскім раёне не здабываюць. Давайце ў такім выпадку пагутарым аб тым, чым у Лепелі, калі не займаюцца, то **павінны** займацца, напрыклад, аб жывёлагадоўлі.

Праглядаем нумар за нумарам лепельскай газеты. Жывёлагадоўлі у ёй аддана столькі-ж увагі, колькі, скажам, пытанням... вуглездабычы. Праўда, аб здабычы вугалю газета зусім нічога не піша, але і аб жывёлагадоўлі яна піша не на многа больш.

Да жніўня «Калгасная праўда» пытаннямі жывёлагадоўлі зусім не займалася. Нельга-ж браць пад увагу тое, што калі-ні-калі, адзін раз у два-тры месяцы, на старонках «Калгаснай праўды» з'яўлялася заметка пра тую ці іншую калгасную таварную ферму.

Але вось у жніўні рэдакцыя загаварыла. І як? Поўным голасам, прасякнутым самакрытыкай. У нумары за 2 жніўня змяшчаецца артыкул **«Кулакі на фермах Лепельшчыны»**. Ужо сам загаловак паказвае, у чым справа.

На фермы пралезлі кулацкія элементы, якія знішчаюць калгаснае стада, разбураюць фермы. У раёне ідзе масавы забой цялят, раённыя арганізацыі зусім не кіруюць жывёлагадоўляй. Аб усім гэтым гаворыцца ў артыкуле.

Але... мы вымушаны расчараваць чытача. Артыкул гэты не вынік пільнасці і работы рэдакцыі лепельскай газеты. Лепельская газета маўчала-б і далей, калі-б у «Звяздзе» не з'явіўся вышэйпамянёны артыкул «Кулакі на фермах Лепельшчыны».

Перадрукаваўшы гэты артыкул, рэдакцыя ад сябе дадала, што райком і палітаддзел МТС прызналі ўказанні «Звязды» «своечасовымі і зусім правільнымі», што з гэтага часу трэба рашуча ўзяцца «за штодзеннае кіраўніцтва фермамі», разгарнуць «сапраўдную барацьбу за кармовую базу».

Гэта дэкларацыя была зроблена 2 жніўня.

Чакаем спраў. Чакаем тыдзень, другі, трэці. Перагортваем 22 нумары «Калгаснай праўды», выпаўшыя пасля 2 жніўня і да 1 верасня. Ніякіх змен. Тое-ж маўчанне, што і ў ліпені. Тая-ж злачынная бестурботнасць. Рэдакцыя

змясціла толькі некалькі выпадковых заметак пра асобныя фермы.

Ні слова аб тым, як раённыя арганізацыі выпраўляюць дапушчаныя памылкі. Ні слова аб тым, што робяць раённыя арганізацыі, каб забяспечыць сытую і цёплую зімоўку жывёле.

З 1 па 12 верасня вышлі 10 нумароў «Калгаснай праўды». Ва ўсіх гэтых нумарах пытанням жывёлагадоўлі прысвечаны толькі тры заметкі, кожная па 5-10 радкоў.

У першых двух заметках гаворыцца, што ў калгасах «Чырвоны ўсход» і «Ўдарнік» разгарнулі сіласаванне. У трэцяй заметцы паведамляецца, што «ў калгасе «Росквіт» нічога не робяць, каб забяспечыць жывёлу кармамі».

Вось і ўсё, што сказала газета. Далей — традыцыйнае маўчанне. Рэдакцыя «Калгаснай праўды» адмахнулася ад усіх жыццёвых пытанняў жывёлагадоўлі, як ад нейкай другараднай бескарыснай справы.

Бюро ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове аб падрыхтоўцы жывёлагадоўчых соўгасаў і калгасных жывёлагадоўчых ферм да зімоўкі жывёлы падкрэсліла, што Лепельскі раён асабліва адстаў на гэтым участку.

Што зрабіла рэдакцыя «Калгаснай праўды» пасля гэтага папярэджання.

Пастанову бюро ЦК «Калгасная праўда» перадрукавала ў нумары за 19 верасня. Але толькі перадрукавала. Газета не палічыла патрэбным даць рэдакцыйны артыкул, выкрыць прычыны адставання і мабілізаваць усю партыйную арганізацыю, увесь калгасны актыў на выкананне задач, пастаўленых бюро ЦК КП(б)Б. А гэта тым больш было неабходна і абавязкова, што ў пастанове гутарка ішла аб Лепелі, як асабліва адстаючым раёне.

Выходзяць нумары за 20, 21, 22 верасня. І зноў — ні слова аб ходзе падрыхтоўкі да зімы, ні слова аб жывёлагадоўлі.

Толькі 23 верасня змяшчаецца невялікая падборка, пабудаваная па прынцыпу: аб усім патрошку. У некалькіх дробных заметках рэгіструюцца факты дрэннай падрыхтоўкі да зімы на асобных фермах. І на гэты раз—ніякага жадання паказаць, што робяць раённыя арганізацыі, каб забяспечыць сытую і цёплую зімоўку жывёле.

Рэдакцыя яўна замазвае сапраўднае становішча ў раёне. Яе дэкларацыя насля артыкула «Кулакі на фермах Лепельшчыны» была толькі спробай пусціць пыл у вочы, прыкрыць фразамі сваё нежаданне змагацца за ўздым жывёлагадоўлі, прыкрыць сваю шкодную недаацэнку гэтай важнейшай задачы.

# За завесай аншлагаў

**«ПРЫМЕЖНЫ КАЛГАСНІК».**
орган Ушацкага РК КП(б)Б і РВК.

45; 43,6; 43,5; 26 і т. д.

Кожная з гэтых лічбаў паказвае, колькі (у працантах) паднята ільну са сцелішчаў па сельсоветах Ушацкага раёна.

Лічбы гавораць самі за сябе. Лён пералежвае. У раёне дапускаюцца вялікія страты ўраджаю.

У дзесяці апошніх нумарах раённай газеты **«Прымежны калгаснік»** кожны раз на першай паласе змяшчаецца вялікі аншлаг, прысвечаны ільну. Але ні ў адным з іх ні слова не гаворыцца аб тым, каб хутчэй падняць лён са сцелішчаў.

Няўжо-ж газета не бачыць, што ў раёне лён пералежвае, што да 1 кастрычніка па раёну паднята са сцелішчаў толькі 73,8 проц. ільну. Бачыць. Лічбы, аб якіх мы гаварылі вышэй, узяты са зводкі, надрукаванай у самой газеце.

На старонках газеты можна таксама знайсці асобныя заметкі, дзе гаворыцца аб фактах пералежвання ільну.

29 верасня газета, напрыклад, пісала:

> **«Пералежванне ільну — удар па якасці. Праўленне калгаса «Першамайск» з гэтым зусім не лічыцца. Больш шасці тыдняў лён ляжыць на сцелішчы, а паднята толькі тры га. Значная частка ільну гніе».**

У калгасе «Сусветны Октябр», як сігналізуе газета, пералежвае звыш 50

проц. ільну. Такое-ж становішча і ў калгасе «Чырвонае Зарэчча». І так. рэдакцыя газеты «Прымежны калгаснік» добра ведае, што ў раёне стварылася сур'ёзная пагроза ўраджаю ільну, што значная частка ільну пералежвае на сцелішчах.

Трэба было з нумара ў нумар узмацняць барацьбу за неадкладны пад'ём усяго ільну, за бесперапынную і высокаякасную апрацоўку і здачу ільнопрадукцыі. Тым больш што і апрацоўка і здача ільну ў раёне праходзяць зусім нездавальняюча. На 1 кастрычніка раён выканаў план здачы ільновалакна толькі на 0,5 проц. План па трасце выканан усяго на 8,9 проц. Амаль самыя горшыя паказальнікі па групе ільнаводчых раёнаў.

Але ўжо з наступнага нумара, не гледзячы на такія ганебныя лічбы, настрой газеты рэзка мяняецца. Аддзел, прысвечаны ільну, пераносіцца на чацвертую старонку і змяшчаецца ў кутку для падвёрсткі («Прымежны калгаснік» за 30 верасня).

У аддзеле змяшчаюцца пяць невялікіх заметак. Здзіўляе выключна спакойны рэгістратарскі тон. Там, дзе трэба рашуча выкрыць сабатажнікаў ільноздачы, газета займаецца, напрыклад, такімі разважаннямі:

> «Брыгадзір Кірпічонак (гутарка ідзе аб Зарачанскім калгасе) недаацэньвае важнасці забеспячэння соцыялістычнай прамысловасці ільнопрадукцыяй».

Брыгада Кірпічонка абавязана здаць 25 цэнтнераў трасты. Яшчэ, аднак, не паступіла ні аднаго кілограма. Якая-ж тут недаацэнка? Справа ідзе пра яўны сабатаж абавязацельстваў перад дзяржавай.

Або ўзяць заметку аб Гарадзецкім сельсовеце. Гэты сельсовет увесь час

> «...плянецца ў хвасце па выкананню гаспадарча-палітычных кампаній.
>
> ...План пад'ёму ільну са сцелішч выканан толькі на 25 проц.
>
> ...У калгасе «Комінтэрн» апрацоўка ільну пушчана на самацёк. Лён пералежвае».

Далей пералічваюцца аналагічныя факты. Якія-ж вывады робіць «Прымежны калгаснік»? А вось паслухайце:

> «Своечасовая апрацоўка ільну —задача палітычнай важнасці, і за яе выкананне павінен кожны змагацца».

А своечасовая і поўная здача высокаякаснай ільнопрадукцыі хіба не з'яўляецца першачарговай гаспадарча-палітычнай задачай?

Нарэшце, што значыць, пералічыўшы абураючыя факты злачыннага псавання ільну, абмежавацца ў якасці вывадаў толькі агульнай фразай? Хіба так трэба выкрываць тых, хто зацягвае апрацоўку і здачу ільну, хто свядома дапускае псаванне ўраджаю? Як бачыце, самакрытыка ў газеце да канца абязлічана. Аб усім патроху і ні пра каго канкрэтна.

У перадавым артыкуле «Наперад, да новых перамог», змешчаным у гэтымжа нумары, аб ільне гаворыцца толькі ў адным прадапошнім абзацы. У той час, як Ушачы ганебна адсталі і па апрацоўцы, і па здачы ільну, рэдакцыя «Прымежнага калгасніка» лічыць магчымым абмежавацца толькі адной агульнай фразай з нікчэмным намёкам на самакрытыку:

> «Не ўсё добра ў нас з апрацоўкай і загатоўкамі ільну».

У наступным нумары—такое-ж становішча. Некалькі заметак пра асобныя калгасы плюс аншлаг. Няма чырвонай дошкі, на якую-б былі занесены лепшыя калгасы і брыгады, сапраўдныя перадавікі апрацоўкі і здачы ільну. Няма чорнай дошкі, на якую-б былі занесены найбольш адстаючыя сельсоветы і калгасы. Няма ні слова аб рабоце раённых арганізацый, аб тым, што яны робяць, каб забяспечыць своечасовае і поўнае выкананне плана ільназдачы ў раёне.

Газета не паказвае арганізацыі працы на асноўных працэсах апрацоўкі ільну, не змагаецца за высокую прадукцыйнасць, не папулярызуе вопыт ударнікаў ільну. Калі яна гэта і прабуе рабіць, то не ідзе далей самых агульных разважанняў:

> «Лён—гэта наша золата, сырэц для прамысловасці. Наш савецкі лён павінен быць лепшым у свеце. Такі лозунг калгаснікаў-ударнікаў. Лён з плошчы 98 гектараў быў своечасова выцераблен, абмалочан і разаслан.
>
> На сёнешні дзень увесь лён падняты са сцелішч і разгорнута ручная апрэ-

**цоўка... Першага кастрычніка чырвоным абозам калгас здгружае ільнавалакно».**

Так, з дазволу сказаць, перадае газета вопыт перадавога калгаса «Комунар». Хіба так трэба паказваць лепшы вопыт. Што могуць канкрэтна пераняць адсюль іншыя калгасы? Чаму павучыцца, калі газета абмяжоўваецца толькі агульнымі разважаннямі, рэгістрацыяй фактаў. А між іншым артыкул аб гэтым калгасе займае амаль усю першую паласу.

«Прымежны калгаснік»—газета ільнаводчага раёна—павінен цвёрда ўясвіць, што на адных агульных разважаннях далёка не заедзеш, што трэба разгарнуць шырокую самакрытыку, трэба нястомна выкрываць кожнага, хто зрывае ільнаапрацоўку і ільназдачу, трэба канкрэтна вучыць адстаючыя калгасы, як змагацца за лён, узбройваць іх вопытам перадавікоў.

# Нявыкананае абяцанне

**«ЗА ЎДАРНЫЯ ТЭМПЫ»,**
орган парткома і заўкома Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната.

У ліпені на **Бабруйскім лесакамбінаце праводзіўся масавы палітдзень.** Пытанняў на сходзе было задана столькі, што адказаць на ўсе не было ніякай магчымасці.

На дапамогу парткому прышла газета камбіната **«За ўдарныя тэмпы».** Яна арганізавала працяг палітдня на сваіх старонках. Ініцыятыва вельмі каштоўная.

Паглядзім, як газета справілася з гэтай ініцыятывай.

Адкрываючы працяг палітдня газета абяцала сваім чытачам:

> **«Наш палітдзень будзе закончаны тады, калі мы не толькі адкажам на ўсе пытанні рабочых, але ДАБ'ЕМСЯ ПОЎНАЙ РЭАЛІЗАЦЫІ ЎСІХ УЗНЯТЫХ ПЫТАННЯЎ».**

(падкрэслена намі.—**Рэд. «Б. Д.»).**

Абяцанне абавязвае, яго трэба выконваць. Гэтага не зразумеў рэдактар газеты «За ўдарныя тэмпы» т. **Лунін.**

Сярод пытанняў, якія задавалі рабочыя ў часе палітдня, былі:

> **«Якія меры прымаюцца для пакрыцця стандартнага цэха ад дажджу?**
>
> **Чаму даюць мала ардэроў для водпуску дроў рабочым?**
>
> **Чаму дзецям не адпускаюць дзіцячага абутку і вопраткі?**
>
> **Што вы думаеце зрабіць з пабудовай цёплага памяшкання для аддзелачнікаў бапцэха? Хутка зіма.»**

Калі-б т. Лунін сур'ёзна ўдумаўся ў характар гэтых пытанняў, ён зразумеў-бы, што абмяжавацца звычайнымі адказамі на іх нельга. У гэтых пытаннях адчуваецца трывога рабочых у сувязі з надыходзячай зімой, трывога за падрыхтаванасць да зімы самога завода, рабочых кватэр і т. д.

Шматтыражка абавязана была чула прыслухацца да голасу рабочых, выканаць сваё абяцанне аб поўнай рэалізацыі ўзнятых імі пытанняў.

Гэта значыць, газета павінна была праверыць, што робіцца па забеспячэнню дзяцей рабочых абуткам і вопраткай, у якім становішчы цэхі, кватэры рабочых, як забеспячана прадпрыемства і рабочыя апалам, ці арганізаваны рамонтныя майстэрні і т. д.

І не толькі праверыць, але і шырока паставіць гэта пытанне на сваіх старонках, перад заводскімі арганізацыямі, дабіцца практычных рэзультатаў.

Газета гэтага не зрабіла. Яна абмяжавалася толькі лаканічнымі адказамі на пытанні.

Адказаць на пытанні трэба было, але-ж гэта толькі палова справы.

На палітдні рабочыя толькі задавалі пытанні. У жніўні яны пачалі ўжо скардзіцца на дрэнную падрыхтоўку да зімы. 22-га жніўня вышаў чарговы 35 нумар газеты «За ўдарныя тэмпы». На старонках газеты рабочы Ніколаенка расказвае, што інтэрнат лесацэха № 1 рамантуецца чарапашымі тэмпамі. Рабочыя жывуць на двары. Рабочыя Кузьміч, Цішкоў і Галубец заяўляюць, што ў стандартным цэху разбіты вокны, паламаны дзверы, а ў паасобных памяшканнях цэха і дзвярэй няма. Дах у цэ-

ху працякае. Усё гэта пагражае тым, што паўторацца леташнія памылкі, калі з-за несвоечасовай падрыхтоўкі да зімы зрывалася выкананне промфінплана.

Падрыхтоўцы да зімы прысвечан і перадавы артыкул гэтага нумара. З артыкула мы даведваемся, што:

> **«У сваёй адозве да ўсіх рабочых дрэваапрацоўчай прамысловасці БССР і ўсёй прамысловасці Бабруйскага раёна агульнакамбінацкі злёт знатных людзей, старых кадравікоў, лепшых ударнікаў з усёй рашучасцю, большэвіцкай настойлівасцю патрабаваў ад прафсаюзнага, партыйнага і гаспадарчага кіраўніцтва з усёй сур'ёзнасцю падыйсці да справы падрыхтоўкі камбіната і рабочага калектыва да зімы».**

Аб тым, як выканала кіраўніцтва камбіната гэта патрабаванне рабочых, сведчыць 37 нумар газеты за 7-е верасня.

> **«14 верасня прэзідыум ЦСПСБ слухае даклад камбіната аб падрыхтоўцы да зімы. Пастаноўка даклада на прэзідыуме выклікана нездавальняючым ходам падрыхтоўкі да зімы па камбінату»,—**

— піша газета.

Мала таго, яна сёння прымушана заявіць, што рамонт інтэрнатаў фабзавуча да 1-га верасня не скончан. Заняткі ў сувязі з гэтым сарваны.

> **«Кравецкай майстэрні на камбінаце, так і няма».**

Як бачыце, «За ўдарныя тэмпы» піша аб падрыхтоўцы да зімы, выкрывае прарывы на гэтым участку. Але бяда ў тым, што сігналы газеты астаюцца толькі сігналамі.

Напомнім, што заметкі рабочых Ніколаенка, Кузьміча і іншых былі змешчаны 22 жніўня. Да 7 верасня, калі вышаў 37 нумар «За ўдарныя тэмпы» прайшло 2 тыдні. У гэтым нумары ёсць аддзел: «Па слядах допісаў». Але ні аднаго слова аб тым, што зроблена па заметках Ніколаенка, Кузьміча, Ціткова, Галубца, ні аднаго слова аб тым, ці адрамантаваны вокны і дзверы, дах у стандартным цэху,—у гэтым аддзеле няма.

Газета «За ўдарныя тэмпы» не змагаецца за дзейснасць сваіх выступленняў аб падрыхтоўцы да зімы.

14 верасня пленум ЦСПСБ заслухаў даклад бабруйскага лесакамбіната аб падрыхтоўцы да зімы. Работа фабзаўкома і дырэкцыі лесакамбіната прызнана нездавальняючай. Пленум патрабаваў ад профарганізацыі і дырэкцыі камбіната неадкладна ліквідаваць адставанне ў падрыхтоўцы да зімы. Ён указаў, што «работа па падрыхтоўцы да зімы не вычэрпваецца толькі рамонтам кватэр, абутку, вопраткі і т. д. Побач з гэтымі мерапрыемствамі павінна быць разгорнута работа па падрыхтоўцы цэхаў, заводскіх двароў і ўсіх культурна-бытавых устаноў (клубы, яслі, медпункты і т. д.)».

Пастанова пятага пленума ЦСПСБ павінна паслужыць праграмай практычнай работы шматтыражкі і ўсяго камбінацкага друку і рабкораў па падрыхтоўцы да зімы.

# Абавязацельствы і справы

**«ЧЫРВОНАЯ АКУЛЯРНІЦА»**
Орган парткома і фабкома віцебскай акулярнай фабрыкі

З ліпеня **«Чырвоная акулярніца»** надрукавала артыкул Мацэвіча і Нарцішка «Прэса і штампы» і паабяцала чытачоў: «Працяг у наступным нумары». Бярэм наступны нумар за 11 ліпеня. На другой старонцы па подпісах «Марцэвіч і Нарцішка» мы пазнаем працяг артыкула, але ўжо пад загалоўкам «Канструкцыя прэса». Пад артыкулам зноў: «Працяг у наступным нумары». Уважліва прагладаем наступныя нумары—24, 25, 26 і т. д., нідзе працягу няма. Забыла рэдактар «Чырвонай акулярніцы» т. **ПІРУЦІНА** змясціць працяг. Рабочыя і работніцы акулярнай фабрыкі так і не даведаліся да канца аб «Прэсах і штампах».

З-га ліпеня «Чырвоная акулярніца» выступае з заклікам уключыцца ў конкурс на лепшы тэхгурток. Справа вельмі добрая і патрэбная. Зразумела, у газеце змяшчаюцца пэўныя самаабавязацельствы і т. д. Праз 6 дзён выходзіць чарговы нумар. Зноў самаабавязацель-

ствы але ўжо па ўключэнню ў конкурс... на лепшую брыгаду. Новы нумар газеты і зноў конкурс, але ўжо на лепшую штодзенку. Новы конкурс, значыць новыя заклікі, самаабавязацельствы.

Але папрабуйце даведацца па газеце, што зроблена па абвешчаных конкурсах: хто вышаў у перадавыя, хто адстае? Нічога гэтага вы ў ёй не знойдзеце.

Мы прывялі гэтыя два прыклады для таго, каб паказаць, як не трэба працаваць. Замкнуўшыся ў кола конкурсаў, самаабавязацельстваў, «Чырвоная акулярніца» выпусціла важнейшую задачу сёнешняга дня—падрыхтоўку да зімы.

Яшчэ 10 жніўня ў газеце «Віцебскі пролетарый» змешчана адозва дэпутацкай групы і старых рабочых акулярнай фабрыкі да ўсіх прадпрыемстваў Віцебска. У гэтай адозве яны пісалі:

**«На фабрыцы рамантуюць кватэры. 7 тыс. рублёў адпушчана на рамонт кватэр. Вылучэм брыгаду кантролю за якасцю рамонту. Школьнікі, дзеці ўдарнікаў, якія нуждаюцца ў абутку, будуць ім забяспечаны. Сіламі членаў горсовета абследвана становішча 60 рабочых кватэр. Мы прапануем абвясціць паход за арганізацыю сустрэчы зімы імя XI з'езда советаў БССР».**

Гэту вялікую палітычную справу, паднятую лепшымі ўдарнікамі і старымі кадравікамі фабрыкі, «Чырвоная акулярніца» не здолела падхапіць. Газета нават не надрукавала гэтай адозвы, абыйшла яе моўчкі.

Можна падумаць, што на акулярнай фабрыцы ўжо да зімы поўнасцю падрыхтаваны, што ўжо задаволены ўсе патрэбы рабочых у сувязі з надыходзячай зімой.

Але дамо слова самім рабочым фабрыкі. Работніцы Кошалева і Тупічкіна звярнуліся з пісьмом у рэдакцыю «Чырвонай акулярніцы». Яны пісалі:

**«Мы жывем у новым доме «Чырвоная акулярніца» з мая месяца 1934 года. У летні час у гэтых кватэрах яшчэ магчыма жыць, а да зімы нашы кватэры зусім непадрыхтаваны. Няма вады, света, складскіх памяшканняў...»**

Гэта пісьмо сведчыць аб тым, што на акулярнай яшчэ далёка не падрыхтавался да зімы. Можна было думаць, што гэты сігнал парушыць спакой газеты. Нікольні. «Чырвоная акулярніца» 1-га верасня змясціла пісьмо тт. Кошалевай і Тупічкінай і гэтым абмежавалася.

Некалькі раней (25 жніўня) у газеце была змешчана заметка: «Ачысціць фабрыку ад бруду». У гэтай заметцы, між іншым, пісалася:

**«Вось і другая работніца Гусакова: кватэра брудная, парасё трымае ў пакоі, падлога ніколі не мыецца».**

Ці не ад таго, тав. Пруціна, Гусакова трымае парасё ў пакоі, што хлеўшка няма, што ніхто не дапамог Гусаковай прывесці ў парадак кватэру. Гэта «Чырвоную акулярніцу» не цікавіць. Яна толькі фіксуе факт, не залазіць глыбей, не высвятляе прычын.

Дзве дробныя заметкі—вось, па сутнасці, усё, што ёсць у газеце па пытанню падрыхтоўкі да зімы.

Апусціць на старонках газеты такое важнейшае пытанне, як падрыхтоўка да зімы, як барацьба за паляпшэнне культурна-бытавых умоў рабочых і работніц, значыць не разумець палітычных задач сёнешняга дня, значыць быць адарваным ад інтарэсаў рабочых мас. Гэта трэба зразумець рэдактару «Чырвонай акулярніцы» і зрабіць адсюль адпаведныя вывады: узначаліць абвешчаны старымі рабочымі фабрыкі паход імя XI з'езда советаў БССР за арганізаваную сустрэчу зімы.

Ацяпленне цэхаў, прывядзенне ў парадак пад'язных шляхоў, фабрычнага двара, складаў; рамонт кватэр рабочых, падрыхтоўка сараяў, гароднехавальняў, забеспячэнне рабочых апалам, гароднінай, рамонт абутку і вопраткі і т. д.—гэтымі пытаннямі газета павінна займацца, штодзенна штогадзінна, не гаворачы ўжо аб тым, што гэтыя пытанні не павінны зыходзіць зараз са старонак газеты. Газета павінна быць асабліва чулай да пісем і скарг рабочых. Кожную скаргу, кожную заяву рабочага ці работніцы трэба праверыць, дабіцца неадкладнага прыняцця патрэбных мер.

Сотні рабкораў, рабочых-ударнікаў газета павінна ўцягнуць у работу па кантролю над рэалізацыяй пастановы ЦК аб падрыхтоўцы да зімы.

## АРТЫКУЛЫ

Юр. ТАКАРЧУК

# Разгорнем кантрольную работу друку разам з профсаюзамі, комсамолам і „лёгкай кавалерыяй“

Тав. Л. М. Кагановіч у сваёй прамове на пленуме Камісіі партыйнага кантроля пры ЦК ВКП(б) даў разгорнутую праграму кантрольнай работы профсаюзаў, комсамола і друку.

Тав. Кагановіч падкрэсліў, што «... **кантрольная работа прафесіянальных саюзаў, яго «лёгкай кавалерыі» і друку неадлучная частка ўсяго кантролю. Нельга паспяхова правяраць выкананне рашэнняў Цэнтральнага Камітэта партыі і ўрада без прыцягнення да гэтай работы шырокай совецкай грамадскасці».**

І далей тав. Л. М. Кагановіч з вычарпальнай яснасцю вызначыў цэнтральныя пытанні кантрольнай работы.

«Асноўным зместам усёй кантрольнай работы як Камісіі партыйнага кантроля, так і масавых арганізацый — профсаюзаў, комсамола, друку — павінны быць пытанні абслугоўвання мас. Гэта — пытанні снабжэння, гандлю, вытворчасці і якасці тавараў шырокага спажывання. Гэта — пытанні жылля, комунальнага і культурнага абслугоўвання, заработнай платы, нармавання і арганізацыі працы, соцыяльнага страхавання і аховы працы. Гэта — разгляд і задаваленне справядлівых скаргаў і заяў рабочых, служачых, калгаснікаў, усіх працоўных».

Асобныя раённыя і фабрычна-заводскія газеты БССР па-дзелавому ўзяліся за ажыццяўленне ўказанняў тав. Кагановіча. Разам з профсаюзнымі і комсамольскімі арганізацыямі, з «лёгкай кавалерыяй», з рабкорамі і селькорамі гэтыя газеты разгарнулі шырокую работу. Зроблен, праўда, толькі пачатак, але важна тое, што гэтыя газеты практычна на справе ўзяліся за работу па масаваму кантролю, за выкананне задач, пастаўленых тав. Л. М. Кагановічам.

Мы ўжо асвятлялі вопыт работы **«Большэвіка Барысаўшчыны».** Гэты вопыт трэба пераняць усім раённым, фабрычна-заводскім, транспартным і палітаддзельскім газетам. У аснову сваёй работы па масаваму кантролю разам з профсаюзнымі і комсамольскімі арганізацыямі і «лёгкай кавалерыяй» «Большэвік Барысаўшчыны» палажыў імена тыя пытанні, аб якіх гаварыў тав. Кагановіч, — «пытанні абслугоўвання мас».

Асабліва трэба адзначыць праведзеную рэдакцыяй работу па барацьбе з абважваннем і абмерваннем спажыўца.

Рэдакцыя арганізавала масавую праверку работы ОРС'аў, ЗРК, магазінаў, сталовых, якія абслугоўваюць барысаўскіх рабочых. У праверцы прынялі непасрэдны ўдзел профсаюзы, комсамол, рабкоры, «лёгкая кавалерыя». Былі выяўлены факты злачыннага абважвання і абмервання спажыўца, факты парушэння совецкай палітыкі цэн.

Потым былі арганізаваны паказальныя працэсы, і жулікі, якія ашуквалі спажыўца, злачынцы, якія парушалі совецкую палітыку цэн, панеслі належнае пакаранне.

Або ўзяць вопыт работы «Большэвіка Барысаўшчыны» па падрыхтоўцы да зімы. І ў гэтай вялікай важнасці справе газета праявіла аператыўнасць, напорыстасць, масавасць. Да работы прыцягнут шырокі рабкораўскі актыў, работнікі масавага кантролю, комсамольцы, «лёгкія кавалерысты». Пры іх дапамозе газета выявіла, як завод, фабрыка рыхтуюцца да зімы, што робяць фабрычна-заводскія арганізацыі, каб забяспечыць своечасовы рамонт кватэры рабочага, рамонт абутку і вопраткі, снабжэнне апалам.

Мы не збіраемся ідэалізаваць барысаўскую газету. У ле рабоце ёсць яшчэ

вельмі сур'ёзныя істотныя недахопы. Яна яшчэ зусім слаба дапамагае нізавому друку, нездавальняюча кіруе работай фабрычна-заводскіх газет. Але ўсё-ж «Большэвік Барысаўшчыны» ўзяўся за справу, дабіўся ўжо некаторых поспехаў, наладжвае работу па масаваму кантролю разам з профсаюзнымі, комсамольскімі арганізацыямі і «лёгкай кавалерыяй». Гэтага яшчэ нельга сказаць, за рэдкім выключэннем, пра іншыя газеты.

Тав. Кагановіч у сваёй прамове на пленуме Камісіі партыйнага кантроля адзначыў сур'ёзныя недахопы ў рабоце друку. Элементы сенсацыйнасці, няўменне глыбока ўваходзіць у сутнасць справы, ігнараванне рабкораўскіх матэрыялаў яшчэ маюць месца ў раде газет.

«Ва ўсёй нашай кантрольнай рабоце мы ўсе, у тым ліку і наш друк, павінны памятаць адно: калі бярэшся за справу, не выскаквай з сенсацыяй. Нам не патрэбны пустыя сенсацыі ні ў рабоце кантрольнага партыйнага органа, ні ў рабоце профсаюзаў, ні ў рабоце комсамола і «лёгкай кавалерыі», ні ў газеце. Не сенсацыя патрэбна, а факты, іх разбор і выпраўленне. Вывучай справу глыбей».

Гэта ўказанне тав. Кагановіча павінна цвёрда ўлічыць кожная газета.

Галоўнае — моцна звязацца з профсаюзамі, з комсамолам і «лёгкай кавалерыяй» і разам з рабселькорамі разгарнуць сістэматычную работу па масаваму кантролю, глыбока ўваходзячы ў кожную дэталь справы, дабіваючыся вычарпальнага вырашэння кожнага ўзнятага пытання.

«Ва ўсёй сваёй рабоце заводская газета павінна быць цесна звязана з «лёгкай кавалерыяй» і з профсаюзнікамі-кантралёрамі і разам з імі кантраляваць работу заводскіх арганізацый, правяраць выкананне дырэктыў партыі і ўрада».

Трэба пашырыць і ўзмацніць рабселькораўскі актыў, выхоўваць рабселькораў, прыцягваць іх да непасрэднай работы ў газеце. **«Рабкоры павінны рабіць газету» (Л. М. Кагановіч).**

Але і па сённяшні дзень у нас яшчэ ёсць нямала рэдакцый, якія больш дэкларуюць аб рабоце з рабкорамі і селькорамі, з пісьмамі працоўных, чым практычна на справе арганізуюць рабселькораў, дапамагаюць ім, кіруюць і выхоўваюць іх.

У мінулым нумары журнала мы змясцілі матэрыялы аб становішчы нізавога друку на прадпрыемствах Бярэзінскага камбіната. 25 цэхавых і зменных газет выходзяць на камбінаце. Але хто іх робіць? Рабкоры, рабочы калектыў? Не, толькі адзін чалавек, работнік друкаванай газеты камбіната. Рэдкалегіі цэхавых газет ператвораны ў зборшчыкаў заметак. Усе-ж газеты рэдагуе і выпускае адзін чалавек. Калі зборшчыкі заметак прынясуць даволі матэрыялаў, газеты розных цэхаў і змен выходзяць. Няма матэрыялаў — газеты такcама выходзяць і, робіцца гэта проста: пад капірку пішуцца адны і тыя-ж матэрыялы, адны і тыя-ж заметкі для ўсіх цэхавых і зменных газет. Мы маем тут справу з недапушчальным скажэннем ленінскіх прынцыпаў нізавога друку, з бюракратызацыяй газетнай работы, з ігнараваннем рабкораў. Аб якой рабоце па масаваму кантролю можна гаварыць у дадзеным выпадку, калі газеты адарваны ад рабкораў, ад рабочых мас?

З такімі фактамі — а яны ў той ці іншай ступені ёсць і на многіх іншых прадпрыемствах, раёнах — трэба неадкладна пакончыць. Кожная рэдакцыя абавязана **штодзенна дапамагаць рабселькорам, вучыць і выхоўваць іх, апірацца на іх, прыцягнуць рабселькора да непасрэднай і сістэматычнай работы ў газеце.** Але гэта задача неадлучна ад другой важнейшай задачы — **паставіць у цэнтр усёй увагі пісьмы рабочых, калгаснікаў, працоўных, дабіцца найхутчэйшага і поўнага рэагавання на кожную заметку рабкора, на кожнае пісьмо.**

Перабудова профсаюзаў, іх разбуйненне, што зараз праводзіцца на аснове рашэнняў апошняга пленума ВЦСПС, значна павышаюць ролю кантрольнай работы, даюць яшчэ большыя магчымасці для шырокага разгортвання кантрольнай работы профсаюзаў і друку.

З'езд рабселькораў БССР набліжаецца. Узмоцнім-жа барацьбу за ажыццяўленне задач, пастаўленых тав. Кагановічам, наладзім і разгорнем кантрольную работу друку разам з профсаюзамі, комсамолам і «лёгкай кавалерыяй», узмоцнім кіраўніцтва і дапамогу рабселькорам.

А. Цыпіна

# СПРАВА УСЯГО ДРУКУ, УСІХ РАБСЕЛЬКОРАЎ

«Прадстаіць закупка хлеба — цяжкая і сур'ёзная задача. Тут прадстаіць упартая і энергічная работа. Ніякай самазаспакоенасці, ніякага зазнаваннення! Неабходна памятаць, што хлебазакупкі з'яўляюцца праверкай нашага ўмення арганізоўваць масы на барацьбу за выкананне важнейшых гаспадарчых заданняў».

**Гэтае** папярэджанне, зробленае сакратаром ЦК КП(б)Б т. **Гікало** ў артыкуле **«Новая хваля калгаснага прыліву», цалкам** і поўнасцю адносіцца і да нашага друку. На барацьбе за дзяржаўныя закупкі хлеба праваяраецца зараз уменне нашых газет арганізоўваць масы.

Як-жа раённыя газеты БССР арганізавалі сваю барацьбу за паспяховае выкананне важнейшага гаспадарчага задання—дзяржаўных закупак хлеба?

Трэба сказаць, што большасць газет з першых-жа дзён разгортвання хлебазакупак уключыліся ў гэту справу, асвятляюць ход хлебазакупак. Але змест матэрыялаў, змяшчаемых у газетах па пытаннях хлебазакупак, якасць гэтых матэрыялаў у большасці не адказвае тым задачам, якія ўскладзены на наш друк.

Возьмем такую газету, як **«Маяк Комуны»** (Быхаў—рэдактар т. **Левін**). З 20-га верасня, калі быхаўская газета выступіла з рэдакцыйным артыкулам аб хлебазакупках, яна праз нумар дае невялічкія падборачкі па гэтаму пытанню. Але што за матэрыялы змяшчаюцца ў гэтых падборках? Выключна інфармацыйнага характару: закуплена столькі і столькі хлеба, такі-то калгас прадаў столькі і столькі.

Або касцюковіцкая райгазета **«Сталінскі прызыў»** (рэдактар т. **Прахарэнка**). 16 верасня гэта газета выступіла з маленькай заметкай «Спыніць спекуляцыю хлебам». У заметцы гутарка ішла аб тым, што спажывецкая кааперацыя хлебазакупак яшчэ не разгарнула, затое шырока разгарнулі работу спекулянты і перакупшчыкі. Сігнал вельмі сур'ёзны і своечасовы.

23 верасня з сур'ёзнымі матэрыяламі аб спекуляцыі хлебам у Касцюковіцкім раёне выступіла «Звязда». У сувязі з гэтым «Сталінскі прызыў» 25 чае перадавы «Дакуль-жа будуць арудаваць спекулянты і перакупшчыкі».

> **«У рэдакцыі ёсць праверанныя весткі, што спекуляцыя хлебам і бульбай адбываецца не толькі ў м. Касцюковічах, але і ў м. Хоцімску. Саматэвічах, Бялынкавічах і інш. месцах. На ст. «Комунары» цэлая шайка спекулянтаў скуплівае ад калгаснікаў і аднаасобнікаў бульбу».**

Як бачыце, рэдакцыя распалагае вельмі сур'ёзнымі матэрыяламі. Які-ж вывад робіць рэдакцыя касцюковіцкай газеты? Адзначыўшы, што райміліцыя і райфінаддзел нічога не робяць па барацьбе з спекуляцыяй, газета піша:

> **«Раённыя кіруючыя арганізацыі павінны зараз-жа прыняць меры да бяздзейнікаў з райміліцыі, райфз і местсовета».**

Хто яны гэтыя бяздзейнікі, прозвішчы іх—аб гэтым газета чамусьці маўчыць.

Здавалася-б, што сур'ёзнейшыя сігналы аб спекуляцыі хлебам павінны былі прымусіць газету глыбей заняцца праверкай работы райміліцыі, райфінаддзела, праверкай работы сельсоветаў, сельпо, што яны робяць для таго, каб усе лішкі хлеба калгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў былі прададзены дзяржаве.

На жаль, гэтага газета не зрабіла. Да 30-га верасня ўключна мы знаходзім у газеце два артыкулы Брыскера аб ходзе хлебазакупак па раёну і некалькі інфармацыйных заметак аб продажы лішкаў хлеба асобнымі калгасамі.

Прывядзем яшчэ адзін прыклад. 28-га верасня сіроцінская райгазета **«Ленінскі шлях»** папулярызуе, як перадавікоў, аднаасобнікаў, якія прадалі дзяржаве па... 8, 10 кілограмаў хлеба, і рэкамендуе раўняцца па гэтых аднаасобніках. Ясна, што рэдакцыя сіроцінскай газеты нічога не зразумела ў пытанні хлебазакупак, калі дае такія ўстаноўкі.

Асобныя газеты робяць грубыя палітычныя памылкі, патрабуючы судова-адміністрацыйных мер да тых, хто не прадае лішкаў хлеба дзяржаве, змяшчаюць нямала заметак аб асобных калгасніках, выступіўшых на сходах супроць продажу хлеба дзяржаве і патрабуюць прыцягнуць іх да адказнасці.

Каму патрэбны такія заметкі. Ці так павінны газеты змагацца за хлебазакупкі?

Ні ў якім разе!

Задача раённых, палітаддзельскіх і пізавых калгасных газет заключаецца ў арганізацыі мас калгаснікаў і аднаасобнікаў на продаж лішкаў хлеба дзяржаве. А гэта значыць, што газеты ў першую чаргу павінны паставіць на сваіх старонках прапаганду значэння і неабходнасці хлебазакупак.

Да гэтага часу большасць нашых газет у сваіх артыкулах, «шапках» размаўляюць не з калгаснікам, не з працоўным аднаасобнікам, а з старшынёй калгаса, сельсовета, сельпо. Пара ўжо газетам навучыцца гаварыць непасрэдна з масамі калгаснікаў і аднаасобнікаў. Трэба шырока паказаць калгаснікам аграмадную дапамогу, аказаную дзяржавай калгасам, аграмадныя сродкі, укладзеныя ў будаўніцтва МТС, у крэдытаванне калгаснага будаўніцтва, насенныя і харчовыя пазыкі і т. д.

Трэба, далей, расказаць калгаснікам аб значэнні дзяржаўных хлебазакупак для ўмацавання палітычнай і гаспадарчай магутнасці нашай краіны, умацавання яе абароназдольнасці. І адсюль зрабіць вывад: лішкі хлеба калгаснікі і аднаасобнікі павінны прадаваць толькі дзяржаве, а не спекулянтам і перакупшчыкам.

І разам з гэтым трэба паказаць тыя выгады, якія дае продаж хлеба дзяржаве. Гэта значыць, што трэба толкова расказаць, якія тавары завезены ў кааперацыю для тых, хто прадае хлеб дзяржаве, што і дзе калгаснік і аднаасобнік можа купіць за прадаены хлеб. Праўда, некаторыя газеты ўвялі ў сябе аб'явы аб тым, якія тавары прыбылі ў кааперацыю на атаварванне хлебазакупак, змяшчаюць спісы, што і на якую суму можна купіць за прадаены хлеб. Але гэтага яшчэ мала. Да гэтага часу большасць газет усё яшчэ пішуць так: калгас прадаў столькі і столькі тон хлеба і мяркуе набыць такія і такія тавары.

А чаму-б газеце не ўзяць 1-2 калгасы, расказаць, колькі хлеба яны прадалі, колькі і якія тавары яны атрымалі **на гэты хлеб.**

Паказаць, як продаж лішкаў хлеба дзяржаве зрушыў уперад будаўніцтва ў калгасе, пашырэнне калгаснай гаспадаркі. Тое-ж самае і ў адносінах асобных калгаснікаў, аднаасобнікаў. Такі матэрыял быў-бы многа больш дзейсным, чым паведамленне аб тым, што думае набыць калгас, ці калгаснік за прадаены хлеб.

Барацьбу за продаж лішкаў хлеба дзяржаве трэба цесна звязваць з паказам росту вагі калгаснага працадня, росту калгасных даходаў. Трэба дапамагчы калгасніку падлічыць, колькі ён атрымае хлеба на свае працадні, параўнаць, наколькі больш ён атрымае, чым у мінулым годзе, дапамагчы яму падлічыць, колькі лішкаў у яго астанецца для продажу дзяржаве, што ён можа атрымаць за іх. Так, і толькі так трэба арганізоўваць прапагандысцкую і агітацыйную работу газеты.

Другая задача газеты — гэта паказ работы арганізацый, якія вядуць закупку хлеба: спажывецкай кааперацыі, Загатзярно; паказаць работу пярвічных партыйных арганізацый, парторгаў, сельсоветаў, як яны арганізоўваюць калгаснікаў і аднаасобнікаў на продаж хлеба дзяржаве.

Прыкладам таго, як трэба весці гэту работу, з'ўляецца аршанская райгазета **«Ленінскі прызыў»** (рэдактар т. **Дамарацкі**).

22-га верасня «Ленінскі прызыў» паказаў работу трох членаў сельсовета — тт. Казімірава, Сакалоўскага, Бялкова, як яны на сваіх участках арганізавалі аднаасобнікаў на продаж хлеба дзяржаве. У гэтым-жа нумары газета выкрыла дрэнную работу шапкаўскага сельпо.

27-га газета паказала работу буксірнай брыгады перадавога па продажу хлеба дзяржаве калгаса «Чырвоная

зорка» ў калгасе «6 умоў Сталіна». У наступным нумары за 28 верасня ідзе досыць шырокі паказ работы трох сельпо.

У канцы верасня «Ленінскі прызыў» правёў **рэйд брыгад друку па праверцы арганізацыі хлебазакупак у 4 сельпо**. У выніку гэтага рэйда газета дала разварот з шырокім паказам работы не толькі сельпо ў цэлым, як яны расставілі свае сілы на важнейшых участках, але і асобных работнікаў, парторгаў, старшынь сельсоветаў. У асобным артыкуле: **«Хлебазакупкі ўзначалілі комуністы»** газета паказала, як працуюць асобныя комуністы. Яна паказала лепшыя ўзоры работы асобных парторгаў — **т. Гурына** і інш.

Гэту работу газета ўмела ўвязвае з паказам росту вагі калгаснага працадня, таго, што купляюць калгаснікі за прададзены хлеб. «Хачу набыць сабе мяккі дзіван» — прыводзіць газета заяву тав. Трусава (калгас «Звязда»). «Куплю жонцы паліто, а сабе веласіпед» — выказвае свае меркаванні калгаснік Колікаў (калгас «Звязда»).

І безумоўна, гэта работа аршанскай газеты адыграла вялікую ролю ў тым, што Аршанскі раён ідзе ў радах перадавых па закупцы хлеба раёнаў.

Трэцяя задача раённага і палітаддзельскага друку — гэта барацьба з спекуляцыяй хлебам. Між тым, большасць газет гэту задачу зусім выпускаюць з віду. Выкрыццё фактаў скупкі хлеба, спекуляцыі, продажу на прыватным рынку, паказ таго, як міліцыя, фінансавыя органы, суд, сельсоветы, змагаюцца з спекуляцыяй — гэтыя пытанні выпадаюць са старонак газет. Гэта буйнейшая памылка. Барацьбу з спекуляцыяй хлебам газеты павінны арганізаваць. І разам з гэтым яны павінны настойліва растлумачваць калгаснікам і аднаасобнікам, што закупкі хлеба дазволены толькі каапераці і Заготзярно, што продаж хлеба на прыватных рынках забаронены. Трэба настойліва растлумачваць што:

«Калгаснікам і аднаасобнікам, выканаўшым свае абавязацельствы перад дзяржавай, прадастаўляецца поўная магчымасць законным шляхам прадаць спажыўкааперацыі і органам Заготзярна свае лішкі хлеба і купіць на атрыманыя грошы патрэбныя ім тавары па сходных цэнах. Уся маса сялян пойдзе па гэтаму шляху. А тыя адзінкі, якія шукаюць другога, незаконнага шляху, няхай не наракаюць на совецкую ўладу, калі яна будзе з імі паступаць так, як з спекулянтамі паступаць трэба». («Правда»).

«Ні аднаго грама зярна — спекулянту і перакупшчыку» — пад гэтым лозунгам газеты павінны весці барацьбу за продаж дзяржаве ўсіх лішкаў хлеба калгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў.

І нарэшце, перад газетамі стаіць яшчэ адна сур'ёзная задача. Выкрываючы асобныя факты апартуністычных адносін да важнейшай задачы — хлебазакупак, рашуча змагаючыся з самацёкам, газеты павінны самым рашучым чынам выкрываць і біць па маючым месца фактам «лявацкага» адміністравання, скажэнняў лініі партыі ў справе правядзення хлебазакупак.

У заключэнні неабходна спыніцца на вялікай ролі, якую павінен адыграць фабрычна-заводскі друк. Шматтыражкі, нізавы друк і рабкоры прадпрыемстваў павінны дапамагчы нізавым газетам і селькорам сваіх падшэфных калгасаў арганізаваць масы калгаснікаў на продаж лішкаў хлеба дзяржаве. Фабрычна-заводскім газетам можна і трэба арганізаваць брыгады лепшых ударнікаў, рабкораў для паездкі ў падшэфныя калгасы па хлебазакупках. Нізавы друк і рабкоры прадпрыемстваў могуць і павінны заняцца работай сваіх цэхаў ширспажыву, праверыць, што яны могуць даць для стымулявання хлебазакупак, мабілізаваць усе ўнутраныя рэсурсы для вырабу больш прадметаў шырокага ўжытку.

Трэба зразумець, што барацьба за максімальную закупку хлеба дзяржавай — справа не толькі раённых і палітаддзельскіх газет, але справа ўсяго большэвіцкага друку.

Міх. БЕККЕР

# Рэдактар шматтыражкі
## і літаратурны гурток

Ужо к з'езду пісьменнікаў масавы літаратурны рух прышоў з радам цікавых і значных паказальнікаў. Дзесяткі кніг пачынаючых пісьменнікаў, сотні літаратурных старонак у шматтыражках, творчыя рапарты літаратурных гурткоў і канферанцыі чытачоў — усё гэта з'явы аднаго і таго-ж парадку, якія сведчаць аб росце масавага літаратурнага руху.

З'езд пісьменнікаў, адыграўшы ролю своеасаблівага ўніверсітэта культуры для шырокіх мас, даў магутны штуршок масаваму літаратурнаму руху. Растуць чаргі на кнігі. Арганізуюцца новыя літаратурныя гурткі.

Якое становішча з масавым літаратурным рухам у Беларусі? У прыватнасці, у якім становішчы знаходзяцца літаратурныя гурткі?

На прадпрыемствах БССР ёсць вялікая колькасць літаратурных гурткоў са значным творчым актывам. Творчасць літаратурных гурткоў «матэрыялізавана» ў літаратурных старонках шматтыражак, літаратурных газетах і спецыяльных зборніках (альманах «Ударнікі» і інш.). Аднак, уся бяда ў тым, што армія літгурткоўцаў не атрымлівае патрэбнай дапамогі і падтрымання з боку прафесійнальных і пісьменніцкіх арганізацый. Першы агульнагарадскі злёт літгурткоўцаў горада Менска выявіў не прыемны малюнак: прафарганізацыі не дапамагаюць літгурткам, не аказваюць ім матэрыяльнай дапамогі і, што асабліва важна адзначыць, не аплачваюць кіраўнікоў.

Злёт прышоў да вывадаў, якія даўно напрошваюцца: масавы літаратурны рух трэба замацаваць, ім трэба кіраваць.

Зусім відавочна, што вялікую дапамогу гурткам могуць аказаць і рэдактары шматтыражак. Каму, як не ім, цікавіцца работай літгурткоў. Літгурткоўцы ў большасці сваёй з'яўляюцца супрацоўнікамі шматтыражак і падчас вельмі актыўнымі. Кіраўнік літгуртка менскага завода імя Варашылава тав. ЗНАЁМЫ паведамляе:

**«...Калі прагледзець нашы літаратурныя старонкі, то кожны твор, змешчаны ў іх, пабудаваны на канкрэтным заводскім матэрыяле, адлюстроўвае пэўны ўчастак канкрэтнага заводскага жыцця. Тут вам барацьба за культурную кватэру, тут і паказ старых рабочых, зараз пенсіянераў, якія бачачы, што завод не выконвае промфінплана, апіраючыся на кіёк, ідуць у цэх і з задорам, як-бы пасля другога нараджэння, аддана працуюць на карысць соцыялізма».**


Саюз пісьменнікаў — нашай газеце

**Комуністычны Інстытут журналістыкі БССР пачаў выдаваць «Літаратурную газету». На здымку 1-ы нумар «Л. Г.»**

Гэты прыклад даволі ярка сведчыць аб тым, што літгурткі не з'яўляюцца «дармаедамі» (як думаюць некаторыя профбюракраты). Літгурткі горада Менска (праўда, далёка яшчэ не ўсе) актыўна ўключыліся ў работу шматтыражак, мастацкім словам дапамагаюць змагацца за промфінплан.

Здавалася-б, агульнасць інтарэсаў павінна стварыць спрыяючую абстаноўку для сумеснай работы літгурткоў і рэдактароў шматтыражак. Яны павінны, што называецца, ісці ў нагу, дапамагаючы адзін аднаму. Але ў сапраўднасці мы наглядаем яшчэ многа ненармальнага ва ўзаемаадносінах літгурткоўцаў і рэдактароў шматтыражак.

Большасць рэдактароў падыходзяць да літгурткоў фармальна, не ўлічваючы галоўнай спецыфікі іх работы.

Рэдактару важна атрымаць ад гурткоўцаў «матэрыял», але яго не цікавіць канкрэтная работа літгуртка, перашкоды, якія ёсць у яго рабоце.

Рэдактар шматтыражкі **«Авиоприбор»** (Москва) сістэматычна прыходзіць у гурток дакладваць пра бліжэйшыя мерапрыемствы газеты. Тут-жа знаходзяцца «энтузіясты пяра», якія выказваюць сваё жаданне прыняць удзел у той ці іншай кампаніі, што праводзіцца шматтыражкай. Літгурткоўцы паважаюць свайго рэдактара, бо яны адчуваюць увесь час яго ўважлівыя і чулыя адносіны. Але ці многа ў нас такіх рэдактароў?

Многія рэдактары не знаходзяць часу для таго, каб «заглянуць» у гурток. У іх чыста спажывецкі падыход: абы пісалі ў шматтыражку, а ўсё іншае нас не датычыць.

Але якраз у тым і справа, што **рэдактар павінен цікавіцца творчым жыццём гуртка,** ён павінен глыбока ўваходзіць у яго справы, у яго практыку.

Нядаўна «Правда» пісала пра рэдактара, які «заклеймі́ў ганьбай» літгурткоўца, напісаўшага верш аб вясне і каханні. Гэты тып рэдактара, на вялікі жаль, не адзінокі. Ён рашуча бракуе ўсё, што не мае непасрэдных адносін да вытворчасці. Гэты рэдактар не церпіць абагуленых апавяданняў, навел. яму падай голую фактаграфію, апісанне «сапраўдных падзей з сапраўднымі прозвішчамі». Ён супроць вымыслу, фантазіі, рамантыкі.

Такая, з дазволу сказаць, палітыка вядзе да таго, што многія літгурткоўцы кідаюць пісаць і падчас выходзяць з гуртка.

Бясспрэчна ад гурткоўцаў трэба патрабаваць у першую чаргу паказу вытворчасці таго прадпрыемства, да якога яны прымацаваны. Але пры гэтым не трэба праяўляць паўзучага эмпірызма. Не трэба ствараць гатовых схем.

«...Літаратурная справа найменш за ўсё паддаецца механічнаму раўненню, нівеліраванню... У гэтай справе, безумоўна, неабходна забеспячэнне большага прастору асабістай ініцыятыве, індывідуальным нахілам, прастаце думкі і фантазіі, форме і зместу».

Добра будзе, калі рэдактар, як слаба арыентуецца ў літаратуры, удумаецца ў геніяльны сэнс гэтых слоў Леніна.

У многім прыходзіцца папракаць літгурткі, якія далёка не заўсёды ідуць насустрач свайму прадпрыемству. Іншыя гурткі высока забіраюцца ў паднябессе, не заўважаючы рэальнай класавай барацьбы ў сапраўднасці свайго завода, свайго калгаса.

Такім літгурткам трэба параіць спусціцца з неба на зямлю і звярнуцца да спраў і людзей свайго прадпрыемства, як да жывой крыніцы мастацкай творчасці. Але зноў такі: многае залежыць тут ад самога рэдактара, ад яго жывой ініцыятывы, ад яго актыўнасці.

І яшчэ: ці не варта нашым рэдактарам добра падумаць аб сваёй літаратурнай падрыхтоўцы.

Не сакрэт, што многія рэдактары шматтыражак мала чытаюць мастацкую літаратуру. Так званыя «радавыя» чытачы больш чытаюць і ведаюць мастацкую літаратуру, чым многія рэдактары. І калі асобныя рэдактары ўсё яшчэ дапускаюць грубыя памылкі ў адносінах літгуртка, то прычынай гэтаму іх слабая літаратурная падрыхтоўка. Трэба вучыцца, трэба стаць добрым чытачом, калі не хочаш адстаць ад жыцця. І мы мяркуем, што наведванне заняткаў літгуртка прынясе велізарную карысць рэдактарам, якія гэтым цесна зражуцца з гуртком і самі навучацца добра разумець літаратуру. Галоўнае, рэдактар шматтыражкі павінен разумець, што правільнае палітычнае выхаванне літгурткоўцаў ёсць частка праблемы выхавання кадраў для друку і патрабуе велізарнай і прытым дыферэнцыяванай увагі. Таму неабходна ўмовіцца: за работу гуртка адказвае не толькі заўком і кіраўнік, але і рэдактар шматтыражкі.

Я. ЭСТЭРКІН, Р. СІМХОВІЧ

# ЯК НЕ ТРЭБА КІРАВАЦЬ ГАЗЕТАМІ

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове аб падрыхтоўцы да ўсебеларускай нарады старшынь промарцелей і аб ходзе выканання вытворчых заданняў промкаапэрацыі адзначыў рад буйнейшых недахопаў у рабоце гэтай сістэмы.

У пастанове запісана:

«Замест большэвіцкага выканання рашэнняў майскага пленума ЦК КП(б)Б і мабілізацыі арцельных мас на аснове гэтых рашэнняў на выкананне заданняў партыі і ўрада; замест барацьбы з буйнейшымі недахопамі ў рабоце сістэмы і апаратыўнага канкрэтнага кіраўніцтва арцельнымі масамі, асобныя кіруючыя работнікі совета саюзаў і арцелей дэмабілізаваліся, дапусцілі самацёк у рабоце, тлумачачы ўсе правалы і сваё няўменне працаваць аб'ектыўнымі прычынамі».

У гэтай-жа пастанове ЦК КП(б)Б даў ясныя і чоткія ўказанні аб далейшай рабоце промкаапэрацыі, разгорнутую праграму дзейнасці партыйных і грамадскіх арганізацый сампромсаюза па разгортванню масава-палітычнай і выхаваўчай работы сярод арцельных мас.

У гэтай рабоце аграмадную ролю павінен адыграць нізавы друк саматужна-прамысловых арцелей. Значэнне нізавога друку ў сістэме промкаапэрацыі мае асаблівае значэнне. Даволі напомніць, што ў большасці члены арцелей — гэта былыя саматужнікі, сярод якіх нямала былых эксплаататараў, былых бундаўцаў, сіяністаў. Тут нізавы друк павінен быць асабліва класава-пільным, апаратыўным, зубастым.

З часу апублікавання пастановы ЦК прайшло больш за месяц. Як-жа нізавы друк сампромкаапэрацыі Менска змагаецца за рэалізацыю гэтай важнейшай пастановы? Як кіруе і дапамагае рабоце нізавых газет арцелей кіраўніцтва Белсампромсовета?

Адказам на гэта пытанне можа служыць хоць-бы прыведзеная ніжэй наша гутарка з кіраўніком культаддзела Белсампромсовета т. **ПАЎЛЕНКА.**

**МЫ:** Як часта ў арцелях выходзяць газеты?

**ТАВ. ПАЎЛЕНКА:** Раз у месяц. Такая дана ім установка.

**МЫ:** Чаму так рэдка? Такія-ж газеты не могуць быць апэратыўнымі?

**ТАВ. ПАЎЛЕНКА:** Бачыце, на культработу кожная арцель мае 150 рублёў. Нумар насценнай газеты каштуе рублёў 15...

І ён пачаў рабіць разлікі, даказваць нам, што выпуск насценгазет, рост актыўнасці рабкораў залежыць ад таго, колькі... адпушчана сродкаў на культработу.

Зусім зразумела, што такая, з дазволу сказаць, установка ёсць ні што іншае, як неразуменне ролі і задач нізавога друку, нежаданне працаваць з рабкорамі, узняць іх актыўнасць у барацьбе за ажыццяўленне пастановы ЦК КП(б)Б.

Прывядзем яшчэ адзін прыклад таго, як разумеюць кіраўнікі саматужна-прамысловага саюза разгортванне рабкораўскага руху ў арцелях.

Белсампромсовет склікаў нараду культработнікаў арцелей Менска. На гэтай нарадзе быў прынят соцдагавор на лепшую падрыхтоўку да з'езда рабсельнораў і адным з першых пунктаў у дагаворы запісана:

> «Уцягнуць усіх ударнікаў у рады рабкораў, даводзячы лік рабкораў у арцелі «Новы шлях» з 35 да 50, арцелі «Пролетарый», з 20 да 35, у арцелі «Канатнай» — з 8 да 10».

Як бачыце, своеасаблівы «промфінплан» разгортвання рабкораўскага руху.

Толькі нежаданнем арганізатараў гэтага дагавора працаваць з масамі кожна тлумачыць гэта шкоднае ўстанаўленне лімітаў росту рабкораў у арцелях.

Пяройдзем да работы саміх газет.

Па звестках Белсампромсовета ў арцелі «Чырвоны абутнік» з 1 студзеня 1934 года па ліпень выпушчана 11 агульнаарцельных насценгазет і 80 штодзёнак. Не будзе памылкай, калі мы скажам, што апрача гэтых лічб у саю-

ве аб становішчы нізавога друку нічога не ведаюць.

Рэдактар газеты **«Цвік і молат»** тав. **Пікус** заяўляе, што ніякага кіраўніцтва рэдактарамі і газетамі няма. Па заметкі не рэагуюць. Адну і тую-ж заметку прыходзіцца змяшчаць у некалькіх нумарах газеты, каб дабіцца рэагавання. Газета-ж выходзіць толькі раз у месяц.

«Чырвоны абутнік» — адна з буйнейшых арцелей у Менску. Яе абуткам карыстаюцца рабочыя Заходняй вобласці. Між тым барацьба за якасць абутку ў арцелі пастаўлена вельмі дрэнна. Большасць рамонтных майстэрань, якіх у арцелі 26, сістэматычна не выконваюць промфінплан.

Члены арцелі і сёння яшчэ не ўсвядомілі майскай і верасьнёўскай пастановы ЦК КП(б)Б аб промкааперацыі. А партгрупа арцелі не толькі не забяспечыла баявую работу нізавога друку, а, наадварот, сваёй бяздзейнасцю дала магчымасць чужакам выкарыстаць самую моцную зброю партыі ў сваіх інтарэсах.

Карыстаючыся прытупленнем класавай пільнасці з боку партгрупы, былы буйны эксплаататар **Бенцман** становіцца рэдактарам адной з штодзёнак. Вярней, гэта не газета-штодзенка, а «бюлетэнь Бенцмана». Мы прагледзелі камплект гэтай штодзёнкі, хацелі знайсці ў ёй заметкі хоць аднаго рабкора. Але дарэмныя намаганні: Бенцман можа сам аб усім пісаць, ён сам запаўняе ўсю газету. Такія словы, як партыя, комуніст, бальшэвік былому эксплаататару не па нутру. Гэтыя словы выпалі з лексікона газеты. Для іх у газеце не знаходзіцца месца. А вось за тое вы пад заметкамі можаце знайсці такія подпісы, як «А ід», (Яўрэй) і т. д.

У «асабісты орган Бенцмана» ніхто з членаў арцелі не піша. Але-ж матэрыял неабходзен, і Бенцман тады запаўняе газету сваімі асабістымі скаргамі аб няправільнай выплаце яму заработнай платы і т. д. І ўсё-ж асабістых спраў Бенцмана можа хапіць на адзін нумар. А далей што рабіць? І Бенцман прыдумаў: ён дае такую аб'яву ў газеце:

**«Тыя ўдарнікі, якія не дадуць заметку ў газету дзеля яе акуратнага выхаду, будуць перададзены ў штаб ударнікаў дзеля выключэння з ударнікаў».**

Мы пытаем, дзе партгрупа арцелі «Чырвоны абутнік», што яна робіць? Каму яна даверыла вострую зброю нашай партыі, каму даверыла выхоўваць і мабілізоўваць членаў арцелі на барацьбу за выкананне рашэнняў партыі?

Возьмем трыкатажную арцель імя Крупскай. Тут газета таксама выходзіць раз у месяц. Ею ніхто не цікавіцца, на сігналы газеты не рэагуюць. Так, газета выкрыла факт крадзяжу работніцай арцелі. Па гэтай заметцы праўленне назначыла камісію для падрабязнага азнаямлення са зробленым учынкам. За гэты час другія работніцы зрабілі яшчэ рад пакраж, а камісія ўсё яшчэ «абследуе». Вось як у арцелі вядзецца барацьба з крадзяжамі, як рэагуюць своечасова на сігналы друку.

Рэдактар газеты тав. **Астрахан** працуе ўжо больш двух год. Два гады не было перавыбараў рэдкалегіі. Даклада рэдактара аб рабоце газеты ніхто не заслухоўваў. Адсюль зразумела, што работа газеты пастаўлена надзвычай дрэнна.

«Пролетарый» — буйнейшая швэйная арцель. Аднак і тут работа нізавога друку не наладжана. Паасобныя істужкі арцелі сістэматычна не выконваюць промфінплана. Тут мы сустракаемся з вялікай колькасцю прагулаў, прастояў, перарobак. Аднак, на гэта ніхто не рэагуе. План паасобным істужкамі выконваецца на 58-60 і 22 проц.

У арцелі «Пролетарый» фактычна створаны рэдкалегіі. Ад часу да часу выпускаюцца газеты, аднак, ніякай карысці яны не даюць. Чаму гэта так? На гэта мы знаходзім адказ у сістэме самой работы. Возьмем істужку Левінай. Тут выходзіць насценгазета, якую рэдагуе работніца **СОСКІНА** ўжо тры год. Яна сама выкрывае недахопы, сама фактычна выпускае газету і вельмі рэдка пару заметак напішуць другія два члены рэдкалегіі. Ударнікі-рабкоры не згуртаваны вакол газеты, імі ніхто не кіруе, іх ніхто не прыцягвае да работы. Самому рэдактару таксама не дапа-

магаюць. На заметкі не рэагуюць, і ўсё, што піша газета, астаецца пустой балбатнёй.

Мы прагледзелі нумары гэтай газеты. Амаль у кожным гаворыцца «наогул» аб выкананні промфінплана, аб недапушчэнні яго зрыву і т. д. Гэтым, між іншым, характэрны газеты амаль усіх арцелей. Яны не паказваюць канкрэтных носьбітаў зла. Усё пішацца так:

> **«Заўважаецца вялікі шум, частыя разгаворы...»**

Хто шуміць, хто падрывае дысцыпліну? Гэтага ў газетах няма. Ёсць толькі «мы павінны, мы абавязаны... Патрэбна знізіць, узняць, умацаваць, знішчыць»...

У адным з нумароў газеты арцелі «Пролетарый» рэдкалегія пісала, што патрэбна змагацца за выкананне плана так,

> **«Каб не астацца дзяржаве вінаваты больш, чым на 50 проц. выпускаемай прадукцыі».**

Значыць дзяржаве можна і недадаць прадукцыі, але не больш як на 50 проц.! Так арыентуе газета. І ўсё гэта праходзіць міма парторгаў, міма кіраўніцтва арцелей, міма Белсампромсовета.

З такім становішчам нізавога друку ў сістэме саматужна-прамысловага саюза трэба раз назаўсёды пакончыць. Саматужна-прамысловыя арцелі маюць асабліва значэнне ў разгортванні работы мясцовай прамысловасці, забеспячэнні рабочых прадметамі шырспажыву. Яны павінны мець баявыя апэратыўныя газеты, моцную армію рабкораў, якія маглі-б па-сапраўднаму змагацца супроць тых, хто зрывае промфінплан, хто перашкаджае арцелям ісці ў нагу з перадавымі прадпрыемствамі. Для ўмацавання нізавога друку ў прамысловых арцелях неабходна мець адказных людзей па друку як у сістэме Белсаюза промкааперацыі, так і ў саміх арцелях.

Падрыхтоўка да з'езда рабселькораў па сістэме саматужна-прамысловай кааперацыі павінна ісці ў напрамку перабудовы ўсёй работы нізавога друку. Патрэбна зараз-жа правесці перавыбары рэдкалегій у арцелях, умацаваць іх вытрыманымі работнікамі, лепшымі ўдарнікамі. Неабходна арганізаваць семінар рэдактароў нізавых газет арцелей каб навучыць іх працаваць.

Нізавыя газеты — гэта першыя намочнікі ў рабоце парторгаў. І таму трэба навучыць кіраўнікоў і членаў арцелей паважаць газету. Трэба зрабіць газеты дзейснымі, дабіцца поўнага і хуткага рэагавання на заметкі. Нельга падмяняць адказнасць праўленцаў за рэагаванне на сігналы друку рознымі камісіямі.

А для гэтага перш за ўсё неабходна моцнае партыйнае кіраўніцтва работай нізавога друку ў арцелях. Гэта абавязана ўлічыць партыйная арганізацыя Белсампромсовета.



**Рэдакцыя чэрвеньскай раённай газеты «Калектывіст» арганізавала семінар для рэдактароў і членаў рэдкалегіі насценгазет промарцелей Чэрвеня. На здымку: удзельнікі семінара.**

# Рэдактар ля мікрафона

**(На ўсебеларускай радыёнарадзе рэдактароў газэт)**

Больш двух месяцаў прайшло з часу апублікавання пастановы ЦК КП(б)Б аб скліканні 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў і рэдактароў нізавых газэт. Партыйныя арганізацыі, раённыя і палітаддзельскія газеты, фабрычна-заводскія шматтыражкі мелі даволі часу, каб шырока разгарнуць падрыхтоўку да з'езда, разгарнуць практычную работу па ўмацаванню нізавога друку і кіраўніцтву рабселькорамі.

1-га кастрычніка ЦК КП(б)Б і палітсектар Наркамзема разам з рэдакцыямі «Звязды», журнала «Бальшэвіцкі друк» і газеты «Рабочий» правялі радыёнараду рэдакцый газэт па пытанню падрыхтоўкі да з'езда. 6 рэдактароў газэт выступілі на нарадзе.

Што паказала радыёнарада?

Там, дзе партыйныя арганізацыі, рэдакцыі газэт зразумелі велізарнае палітычнае і практычнае значэнне скліканага з'езда рабселькораў, дзе па-партыйнаму падышлі да справы падрыхтоўкі да з'езда, там ёсць значны зрух у рабоце нізавога друку, у рабоце з рабселькорамі, там значна вырасла палітычная актыўнасць рабселькораў у барацьбе за выраш[э]нне гаспадарча-палітычных задач.

***

Возьмем хоць-бы газету палітаддзела Асвейскай МТС **«Палітаддзельская праўда»**.

26 ліпеня вышаў першы нумар «Палітаддзельскай праўды». І ўжо гэты першы нумар амаль увесь быў прысвечан падрыхтоўцы да з'езда. Рэдактар газеты т. **МАЛІКІН** зразумеў, што без моцнай сеткі калгасных і брыгадных газэт, без моцнага селькораўскага актыва газета палітаддзела не здолее завязаць цесную сувязь з шырокімі масамі калгаснікаў-ударнікаў, не здолее апраўдаць сваю ролю барацьбіта за бальшэвіцкія калгасы, за заможнае, культурнае жыццё калгаснікаў.

Тав. Малікін на радыёнарадзе расказаў, што да стварэння палітаддзельскай газеты з 46 калгасаў, абслугоўваемых МТС, насценгазеты выходзілі толькі ў некалькіх калгасах. І «Палітаддзельская праўда» ўзялася адразу за стварэнне насценгазет у калгасах. Зараз газеты ёсць амаль ва ўсіх калгасах.

У парадку падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў «Палітаддзельская праўда» арганізавала **конкурс-спаборніцтва нізавых калгасных газет на лепшую падрыхтоўку да з'езда.** 28 газет ахоплены конкурсам. Многія газеты, як газеты калгасаў «Бальшэвік», «На варце ленінскага шляху», «Дынама» і інш., сталі больш апэратыўнымі.

Барацьба за датэрміновае і высокаякаснае выкананне плана ільназагатовак —асноўная ўмова конкурса-спаборніцтва нізавых калгасных газет. І газеты гэта зразумелі. Насценгазеты і селькоры правялі вялікую работу па арганізацыі 20 верасня чырвонага абоза з ільнатрастой у гонар III рабселькораўскага з'езда. 100 тон трасты было здана на ільназаводы ў гэты дзень. Селькоры калгасаў «На варце ленінскага шляху», «Трудавік» у часе следавання абоза выпусцілі паходныя насценгазеты.

Па ініцыятыве насценгазеты калгаса «Хлебароб Сталіна» (рэдактар тав. **Бужэнскі)** на 5-е кастрычніка **рыхтуецца другі рабселькораўскі абоз з ільнапрадукцыяй.**

Дзяржаўныя хлебазакупкі—вось другая задача, за якую змагаюцца зараз насценгазеты і селькоры ў калгасах Асвейскай МТС. Гэта пытанне спецыяльна абмяркоўвалася на злётах селькораў. Члены рэдкалегій насценгазет, селькоры прымацаваны да асобных груп калгаснікаў, вядуць з імі гутаркі па пытанню аб дзяржаўных хлебазакупках. І большая частка калгасаў МТС

ужо прадалі шмат хлеба дзяржаве.

На радыё-нарадзе т. **Малікін** расказаў і аб тым, як ён арганізоўвае работу з селькорамі, з рэдактарамі насценных газет. Газета правяла ўжо сельсавецкія злёты селькораў. Праведзен аднадзенны семінар рэдактароў газет. У рэйдзе праверкі падрыхтоўкі калгасаў да зімоўкі жывёлы прымалі ўдзел 30 актыўных селькораў-ударнікаў. Агляды насценгазет, асвятленне ходу падрыхтоўкі да з'езда ў калгасах, паказ знатных людзей, лепшых селькораў—усё гэта практычная работа «Палітаддзельскай праўды» па падрыхтоўцы да з'езда.

А «Палітаддзельская праўда»-ж існуе толькі два месяцы.

***

Узорам таго, як трэба рыхтавацца да ўсебеларускага з'езда рабселькораў, можа паслужыць шматтыражка віцебскай фабрыкі **«Сцяг індустрыялізацыі»**.

Шматтыражцы **«Сцяг індустрыялізацыі»** не трэба было звычайнай для многіх газет «раскачкі». Апублікавана пастанова ЦК аб скліканні з'езда і ў гэты-ж самы дзень газета склікае шырокую нараду рэдактароў і членаў рэдкалегій цэхавых і брыгадных газет і рабселькораўскага актыва. Назаўтра пастанова ЦК абмяркоўвалася ўжо на ўсіх участках. Рабкоры сталінскіх брыгад звярнуліся з спецыяльным пісьмом да ўсіх рабкораў фабрыкі.

Шматтыражка праводзіць тры жывыя агляды цэхавых і брыгадных газет, дакладна абгаварвае з рабкорамі іх работу. Насценгазеты касцюмнага цэха **«За гаспадарчы разрахунак»** і **«За ўдарныя тэмпы»**, бручнага цэха—**«За якасць»**, цэха польтаў—**«Ударнік»** і **«Баявы кліч»** займаюць у выніку агляду першыя месцы ў калоне нізавога фабрычнага друку. За імі пачынаюць падцягвацца адстаючыя.

Разгортваецца спаборніцтва нізавых газет. Лепшая барацьба за выкананне колькасных і якасных паказальнікаў промфінплана, рэгулярны выхад, бальшавіцкі змест і добрае афармленне газет, прыцягненне да ўдзелу ў газеце больш рабкораў-ударнікаў, дзейснасць рабкораўскіх матэрыялаў—вось асноўныя ўмовы конкурса.

Брыгадная газета **«За добрую якасць»** з газетай **«Зотавец»** спаборнічаюць у цэху польтаў; **«За добрую якасць»** з штодзенкай **«Піджачнік»** спаборнічаюць у касцюмным цэху; **«Сталінец»**, газета бручнага цэха, спаборнічае з штодзёнкай цэха польтаў **«За сталінскую брыгаду»** і т. д.

Наперадзе штодзенкі сталінскіх брыгад. Па ініцыятыве рэдактароў гэтых штодзенак тт. **Марозава**, **Эзроха**, **Левіна**, **Шуміна**, **Каган** і інш. арганізаваны ўчастковыя камісіі-журы па ходу спаборніцтва ўчасткаў. Гэта па ініцыятыве штодзенак сталінскіх брыгад на фабрыцы выпушчаны **асаблівай якасці «За гонар фабрычнай маркі»** ў спаборніцтве паміж швейнымі фабрыкамі БССР і Украіны.

Ход спаборніцтва шырока асвятляецца на старонках шматтыражкі і штодзенак, у спецыяльным бюлетэні шматтыражкі **«Чыя марка вышэй»**.

Шмат рацыяналізатарскіх прапаноў унеслі рабкоры фабрыкі ў барацьбе за промфінплан. Шмат эканоміі дала рэалізацыя гэтых прапаноў. І ў якасці прэміі за гэту работу кіраўніцтва фабрыкі перавяло шматтыражцы 1.800 руб.

Побач з гэтай вялікай арганізатарскай, масавай, апаратыўнай работай шматтыражка «Сцяг індустрыялізацыі» не забывае аб вучобе рабкораў, аб падрыхтоўцы кадраў для работы ў фабрычным друку. Штодзенны інструктаж рэдактароў нізавых газет, рабкораўскія нарады — гэта адно. Сур'ёзная вучоба рабкораў — другое. Дзесяць рэдактароў штодзенак прапушчаны праз курсы па тэхніцы газетнай справы. Зараз арганізоўваецца **8-мімесячная рабкораўская школа на 50 чалавек.**

Рабкоры-ўдарнікі павінны быць асноўнай крыніцай фарміравання газетных кадраў. І шматтыражка стала рыхтаваць гэтыя кадры. **Два рэдактары штодзенак —тт. Іванова і Вількіна ўжо вылучаны на работу ў шматтыражку.**

Аб усім гэтым расказаў на радыё-нарадзе рэдактар шматтыражкі тав. **Пляўменбаум.**

Работа прароблена вялікая. І вынікі

не немалыя: 12 новых штодзенак, 80 новых рабкораў за час падрыхтоўкі да з'езда. 97 штодзенак, 1000 рабкораў (а на фабрыцы працуе 3.000 рабочых) — вось з чым сустракае з'езд фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі».

***

Зусім іншае становішча з падрыхтоўкай да з'езда там, дзе гэтай справай не займаюцца ні партыйныя арганізацыі, ні газета.

На радыё-нарадзе выступаў рэдактар пухавіцкай раённай газеты **«За калгасы»** тав. **ПАНКРАТАЎ.** Яго выступленне — узор пустой балбатні, алілуйшчыны. Праўда, т. Панкратаў застрахаваўся: ён пачаў сваё выступленне з «самакрытычнай» заявы: «Падрыхтоўкай да з'езда рабселькораў займаемся слабавата... ...Асноўнымі задачамі падрыхтоўкі да з'езда мы лічым»...

Панкратаў не паспеў пералічыць задач, яго перарвалі, заявілі яму, што задачы вызначаны канкрэтна ў пастанове ЦК КП(б)Б, патрабавалі расказаць, што зрабіла газета для практычнага вырашэння гэтых задач. І тады пайшла дэкларацыйная балбатня: «мяркуем арганізаваць... думаем правесці...» і т. д.

А вось расказаць аб тым, колькі новых брыгадных і калгасных газет створана за апошні час, што робіцца на месцах па падрыхтоўцы да з'езда, гэтага т. Панкратаў не змог. «Дакладнага ўліку няма». А недакладнага ўліку таксама няма.

Выбачайце, недакладны ўлік, «улік са столі» ёсць у рэдакцыі пухавіцкай газеты.

Так, т. Панкратаў заявіў, што ў раёне 340 насценгазет. А селькораў — 356. **356 селькораў на 340 нізавых газет** — ужо гэтыя дзве лічбы прымушаюць не паверыць уліку газеты. Няма 340 насценгазет у Пухавіцкім раёне, выдумаў гэту лічбу т. Панкратаў. Аб гэтым сведчыць хоць-бы тое, што на склі́каную рэдакцыяй нараду рэдактароў нізавых газет з'явіліся толькі 10 чалавек.

Ды адкуль ведаць т. Панкратаву, што робіцца з нізавым друкам у раёне? Агляду нізавых газет газета не арганізавала. Прычына — **«людзей няма, у рэдакцыі два чалавекі».** На старонках газеты ні аднаго агляду насценгазеты, ні аднаго паказу работы селькораў, ходу падрыхтоўкі да з'езда. Прычына тая-ж: «людзей няма».

І вось пры такім становішчы з падрыхтоўкай да з'езда ў раёне ўсё-ж рашылі на 7-е кастрычніка склікаць раённы злёт рабселькораў. Нічым іншым, як казённымі, фармальнымі адносінамі да гэтай важнейшай справы, настроем абы «павіннасць адбыць», злёт правесці, гэтага рашэння назваць нельга. Радыё-нарада ярка паказала, што кіраўніцтва пухавіцкай партыйнай арганізацыі і яго газета нічога не зразумелі з пастановы ЦК КП(б)Б аб скліканні ўсебеларускага з'езда рабселькораў, ігнаруюць дырэктывы ЦК аб падрыхтоўцы да з'езда.

***

Не на многа лепш абстаіць справа і ў Лепельскім раёне. Праўда, там сёетое робіцца. Рэдактар лепельскай райгазеты «Калгасная праўда» т. **БАРОЎСКІ** расказаў на нарадзе, што яшчэ ў жніўні праведзены сельсавецкія нарады селькораў. 19 чалавек з ліку райпартактыва вылучыў райком КП(б)Б для правядзення гэтых нарад.

Раённая і палітаддзельская газеты абвясцілі конкурс на лепшую насценгазету. Газеты калгасаў «Ударнік», імя Комінтэрна, «Вясёлыя горы», «Перамога», «Амосаўка», «Чырвоная Полаччына», «За чэсную працу» ўжо ўключыліся ў конкурс. Гэтыя газеты выходзяць раз у 5-6 дзён.

Але **«Калгасная праўда» вельмі мала паказвае работу насценгазет, вопыт работы лепшых рэдактараў і селькораў.** За час падрыхтоўкі да з'езда газета дала толькі некалькі аглядаў. Паказу знатных людзей — лепшых рэдактароў і селькораў газета не арганізавала. Не арганізавала яна і вучобы рэдактароў нізавых газет і селькораў.

Тав. **Бароўскі** на нарадзе скардзіўся, што пярвічныя партыйныя арганізацыі зусім не займаюцца падрыхтоўкай да з'езда, не кіруюць нізавым друкам і селькорамі. А ці паставіў т. Бароўскі гэта пытанне на старонках газеты, перад партыйным камітэтам, ці выкрыў ён як след хоць аднаго парторга, які

ігнарує ўказанні партыі аб рабоце з рабселькорамі? Гэтага ён не зрабіў. На каго-ж тады скардзіцца рэдакцыя газеты, калі ў першую чаргу яна сама вінавата ў такім становішчы?

**
*

Ля мікрафона рэдактар газеты палітаддзела Аршанскага эксплаатацыйнага аддзялення МББ чыгункі **«Большэвіцкі сігнал» т. ВАСЮТОВІЧ.**

281 насценгазета выходзіць па аддзяленню, 150 рабкораў-ударнікаў прымаюць актыўны ўдзел у «Большэвіцкім сігнале».

Калі паверыць т. Васютовічу, то па аддзяленню ў сувязі з падрыхтоўкай да рабселькораўскага з'езда абвешчан конкурс-спаборніцтва насценгазет; «Большэвіцкі сігнал» даў 4 агляды работы газет; нізавыя газеты «Наш паравоз» (дэпо Орша), «За ўдарныя тэмпы» (Уцільцэх завода імя Мяснікова) разгарнулі вялікую масавую работу па падрыхтоўцы да з'езда; на асенне-зімовы перыяд «Большэвіцкі сігнал» мяркуе (толькі мяркуе) арганізаваць вагон прапаганды для абслугоўвання лінейных станцый і т. д.

Мы свядома напісалі, «калі паверыць т. Васютовічу», бо камплект «Большэвіцкага сігнала» поўнасцю абвяргае запэўніванні т. Васютовіча. Мы ўважліва прагледзелі ўсе нумары газеты з 15-га жніўня па 27-е верасня. У гэтых нумарах ні аднаго слова ў тэксце матэрыялаў, ні адной шапкі, загалоўка аб з'ездзе рабселькораў. На «Большэвіцкаму сігналу» яго чытачы ніяк не могуць даведацца аб тым, што рыхтуецца ўсебеларускі рабселькораўскі з'езд.

Характэрна для пазіцыі, якую займае «Большэвіцкі сігнал» у справе падрыхтоўкі да з'езда, тое, што газета, вядучы ўсесаюзны конкурс на лепшую станцыю, усесаюзнае спаборніцтва паравознікаў, дарожнае спаборніцтва пуцейцаў, шырока асвятляючы ход гэтага спаборніцтва, нідзе ў сваіх матэрыялах не паказвае работы нізавога друку, рабкораў, іх удзелу ў спаборніцтве, нідзе не звязвае гэтай работы з падрыхтоўкай да рабселькораўскага з'езда.

За паўтара месяца ў газеце ёсць толькі адзін паказ насценнай газеты станцыі Менск **«На рэйках»** і яе рэдактара **Ніны Карэньковай.** Вось усё, што ёсць за гэты час у «Б. С.» аб лепшых насценгазетах, лепшых рабкорах —знатных людзях транспарта.

Рэдактар «Большэвіцкага сігнала» т. Васютовіч не зразумеў таго, што хоць «Большэвіцкі сігнал» — газета транспартная, але з'езд рабселькораў — усебеларускі, і таму ўвесь транспартны друк БССР і яго рабкоры абавязаны па-большэвіцку рыхтавацца да гэтага з'езда.

**
*

Падрыхтоўка да III усебеларускага з'езда рабселькораў у большасці раёнаў ідзе нездавальняюча. Выходзячы з гэтага, ЦК КП(б)Б адтэрмінаваў скліканне з'езда да 20-га лістапада. Засталося якіх-небудзь паўтара месяца. Гэты час партыйныя арганізацыі, раённыя, палітаддзельскія, фабрычна-заводскія і транспартныя газеты павінны скарыстаць для шырокага разгортвання сапраўды дзелавой падрыхтоўкі да з'езда. Практычныя ўказанні, дадзеныя ў пастанове ЦК КП(б)Б аб умацаванні нізавога друку, работы з рабселькорамі, вучобы рэдактароў нізавых газет і рабселькораў, павінны быць рэалізаваны.

# Заваяваць перадавое месца
## ў падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў

**(Да вынікаў спецыялізаваных злётаў рабкораў гор. Менска).**

Менгарком КП(б)Б і рэдакцыя журнала «Бальшэвіцкі друк» у парадку падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў правялі спецыялізаваныя злёты рабкораў прадпрыемстваў г. Менска.

Задачамі злётаў былі — праверыць, як ідзе падрыхтоўка да з'езда па прадпрыемствах, абмяняцца вопытам работы, падняць падрыхтоўку да з'езда на адпаведную палітычную вышыню.

Што паказалі праведзеныя злёты?

Падрыхтоўка да з'езда рабселькораў выклікала значнае ажыўленне работы пізавых газет і актывізацыю рабкораў у барацьбе за вырашэнне задач, якія пастаўлены партыяй перад прамысловасцю. Аб гэтым з усёй яснасцю сведчаць выступленні паасобных рабкораў і рэдактароў пізавых газет заводаў імя Варашылава, «Ударнік», фабрыкі «Октябр» і т. д.

Рабкор-ударнік тав. **Свінтаржыцкі** (завод імя Варашылава) у сваім выступленні на злёце рабкораў металаапрацоўчай прамысловасці заявіў:

«У сувязі з падрыхтоўкай да з'езда рабселькораў мы ў нашай брыгадзе ажывілі работу насценнай газеты. Газета зараз рэгулярна выходзіць.

Усе члены брыгады — рабкоры. Мы праверылі ход рамонту кватэр рабочых і падрыхтоўкі да зімы. Устанавілі рабкораўскія пасты для нагляду за апрацоўкай дэталей для нашай брыгады. У выніку гэтага мы дабіліся выканання плана на 180 проц.».

Тав. **Есілеўскі**—рабкор фабрыкі «8-га сакавіка» — гаворыць:

«Наша шматтыражка раней выходзіла раз у тры месяцы. Зараз у сувязі з падрыхтоўкай да ўсебеларускага з'езда рабселькораў газета выходзіць рэгулярна. Учора першы раз займаўся рабкораўскі семінар.

У піджачным цэху брыгада Гародкіна вельмі адставала. Аб гэтым мы пачалі пісаць у сваёй цэхавай газеце, прычым пісалі аб канкрэтных вінаватых, аб тых, хто дрэнна прасуе, хто робіць дрэнную накладку каўнера, хто ўшывае няправільна рукавы ў піджак, паказалі іх памылкі і няўважлівасць да работы. Сігналы газеты моцна дзейнічалі. Людзі сталі працаваць лепш. Зараз брыгада Гародкіна працуе няблага».

Або возьмем выступленне рабкора завода «Ударнік» тав. **Мураўніка:**

«Насценгазета механічнага цэха нашага завода правяла не малую работу — расказвае т. Мураўнік. — Мы пачалі з дробязей, якія маюць, аднак, вялікае значэнне ў барацьбе за выкананне промфінплана. У нас былі сапсаваны рукамыйнікі. Напісалі аб гэтым у цэхавую штодзенку. І рукамыйнікі былі прыведзены ў парадак. Балтарэзкі ў нас былі нікуды не годныя. Аб гэтым таксама напісалі ў газету. І зараз майстар цэха пачаў рабіць новы патрон балтарэзкі. Рабочы Фалей з штамповачнага цэха раней ламаў штамп, дрэнна працаваў. Праз газету мы ўздзейнічалі на яго, указалі яму недахопы ў яго рабоце. Фалей пачаў вучыцца, авалодаў тэхнікай, здаў тэхнічны экзамен і стаў лепшым рабкорам-ударнікам».

Такіх выступленняў рабкораў і рэдактароў пізавых газет было шмат.

Гэта, безумоўна, сведчыць аб умацаванні пізавога друку на радзе прадпрыемстваў горада, аб разгорнутай падрыхтоўцы да з'езда.

І ўсё-ж трэба прама сказаць, што падрыхтоўка да з'езда рабселькораў на большасці прадпрыемстваў г. Менска праходзіць нездавальняюча. Гэта адзначыў менскі гарком КП(б)Б у сваёй пастанове аб ходзе падрыхтоўкі да з'езда. Гэта паказалі і праведзеныя злёты рабкораў. На радзе буйнейшых прадпрыемстваў Менска, як завод «Комунар», завод ланцугоў Галля, швэйная фабрыка імя Крупскай, партарганізацыі і шматтыражкі недаацанілі ўсяго палітычнага і практычнага значэння склікаемага з'езда рабселькораў, не разгарнулі падрыхтоўкі да яго. Характэрна, што на

злёце рабкораў металургічнай прамысловасці рабкораў з завода «Комунар» было надзвычай мала. Тое самае можна сказаць і аб удзеле рабкораў фабрыкі імя Крупскай і «Октябр» у злёце рабкораў швэйнай прамысловасці.

Выключна дрэнна пастаўлена па большасці прадпрыемстваў вучоба рэдактароў нізавых газет і рабкораўскага актыва, масавая работа з рабкорамі. Нават на перадавых па падрыхтоўцы да з'езда, па рабоце нізавога друку прадпрыемствах гэта вучоба яшчэ пе арганізавана.

Аб гэтым ярка сведчыць выступленне т. **Эльтэрмана** з завода імя Варашылава.

«Калі мы святкавалі выхад сотага нумару «Варашылаўца»,—заяўляе т. Эльтэрман,—тады **ўзнялі** пытанне аб арганізацыі рабкораўскага семінара. Калі святкавалі выхад двухсотага нумару, тады **паставілі** пытанне аб арганізацыі семінара, але справа не рухаецца з месца. Семінар і зараз не арганізаваны».

Аб аналагічным становішчы рабкораўскай вучобы, масавай работы з рабкорамі заявіла на злёце рабкораў швэйнікаў і т. **Кузняцова** (фабрыка «Октябр»).

«На нашай фабрыцы, — гаворыць т Кузняцова, — цяпер столькі рабкораў, колькі і два гады назад. Гэта таму, што з рабкорамі не працуюць, не нучаць іх».

Гэтыя і яшчэ рад падобных выступленняў рабкораў і рэдактароў насценных газет на злётах сведчаць аб тым што на радзе прадпрыемстваў адсутнічае штодзённая сур'ёзная работа з нізавым друкам і рабкорамі. Вельмі рэдка, ад выпадку да выпадку, склікаюцца нарады рэдактароў і рабкораў.

Адной з сур'ёзнейшых задач падрыхтоўкі да рабсялькораўскага з'езда ЦК КП(б)Б паставіў: узмацненне дзейснасці рабкораўскіх матэрыялаў, рэагавання па рабкораўскія заметкі і пісьмы рабочых у газеты.

Між тым, становішча з рэагаваннем на допісы, змешчаныя як у фабрычна-заводскіх шматтыражках, так і асабліва ў насценных газетах, надзвычай дрэннае.

На гэта скардзіліся на злётах многія рабкоры і рэдактары нізавых газет. Самі фабрычна-заводскія газеты зусім мала займаюцца пытаннямі рэагавання, зусім недастаткова змагаюцца за дзейснасць рабкораўскіх заметак. Быстрае і аператыўнае рэагаванне на сігналы газеты ва многім залежыць ад самой рэдкалегіі газеты і яе рэдактара. Трэба праяўляць больш настойлівасці, патрабовасці ў адносінах рэагавання на рабкораўскія заметкі, пісьмы рабочых.

Спецыялізаваныя злёты вельмі выразна паказалі, што партыйнае кіраўніцтва работай нізавога друку і рабкораў, асабліва з боку первічных партыйных арганізацый, яшчэ нездавальняючае. Той факт, што на злётах рабкораў прысутнічалі толькі два сакратары паркомаў — тав. **ДЭЙЧ** (завод імя Варашылава) і тав. **Сухаліцкі** (фабрыка «8-га сакавіка»), што на гэтыя злёты не прышоў ні адзін парторг, сведчыць аб недаацэнцы гэтай важнейшай работы з боку значнай часткі партыйных камітэтаў. Аб адсутнасці дапамогі з боку парторгаў гаварылі на нарадзе многія рабкоры.

Безумоўна, ёсць рад паркомаў, якія ў сувязі з падрыхтоўкай да з'езда палепшылі кіраўніцтва заводскім друкам.

Сакратар парткома фабрыкі «8-га сакавіка» тав. Сухаліцкі на злёце рабкораў швэйнай прамысловасці падзяліўся вопытам партыйнага кіраўніцтва фабрычным друкам.

«1-га жніўня — расказвае т. Сухаліцкі—партком слухаў пытанне аб рабоце фабрычнага друку і рабкораў. Пасля гэтага на активе прапрацавалі пытанне падрыхтоўкі да з'езда. Гэта пытанне прапрацавалі на асобных нарадах рэдактароў, а 17 верасня правялі злёт рабкораў. Зараз у сувязі з гэтым работа насценных газет палепшылася, на заметкі пачалі лепш рэагаваць».

Нядрэнна кіруе заводскім друкам партком завода імя Варашылава.

Але на значнай частцы прадпрыемстваў партыйкіраўніцтва работай нізавога друку выяўляецца толькі ў тым, што заслухоўваюць час - ад - часу справаздачы рэдакцый шматтыражкі.

Дрэнна яшчэ дапамагаюць нізавому друку і цэнтральныя газеты. Рабкоры на злётах скардзіліся на тое, што работнікі цэнтральных газет прыходзяць на прадпрыемствы толькі для арганізацыі матэрыялаў, а практычнай дапамогі нізавому друку не аказваюць. Аб гэтым

гаварылі амаль усе рэдактары фабрычна-заводскіх і цэхавых газет.

Многа гаварылі на злётах і аб журнале «Большэвіцкі друк».

Тав. Эльтэрман, Фелер, Кузняцова і інш. адзначылі, што журнал дае нізавому і фабрычна-заводскаму друку каштоўны матэрыял для вучобы і практычнай работы.

Рэдактары газет патрабавалі ад журнала дапамагчы на заводах і фабрыках арганізаваць семінары, вучобу рэдактараў і рабкораў, часцей сустракацца з рабкорамі заводаў, мацней весці барацьбу за дзейнасць рабкораўскіх заметак, больш пісаць у журнале аб вопыце работы фабрычна-заводскіх газет і рабкораў, больш даваць аглядаў фабрычна-заводскага друку. Гэта зусім правільнае патрабаванне рабкораў. Менская наш журнал, безумоўна, улічыць у сваёй рабоце.

Спецыялізаваныя нарады рабкораў менскіх прадпрыемстваў з усёй выразнасцю выявілі слабыя бакі ў падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў. На выпраўленне гэтых недахопаў зараз трэба накіраваць усю ўвагу.

Да з'езда асталося ўжо мала часу. Фабрычныя шматтыражкі і партарганізацыі менскіх прадпрыемстваў павінны неадкладна разгарнуць баявую падрыхтоўку да з'езда. Мы павінны задаволіць імкненне рабкораў узняць свае веды, арганізаваць вучобу рэдактараў нізавых газет і рабкораў. Трэба дабіцца дзейснасці кожнай рабкораўскай заметкі.

Партарганізацыі прадпрыемстваў павінны значна палепшыць кіраўніцтва нізавым друкам, штодзенна займацца паасобнымі пытаннямі работы нізавых газет і рабкораў.

Нізавы друк і рабкоры менскіх прадпрыемстваў маюць усе магчымасці прыйсці да з'езда рабселькораў перадавой калонай. Аб гэтым сведчыць актыўнасць рабкораў на праведзеных злётах і тая работа, якая разгорнута ўжо на радзе прадпрыемстваў. Гэтае месца нізавы друк і рабкоры менскіх прадпрыемстваў павінны заваяваць.

**Я. ЭСТЕРКІН, А. ЦЫПІНА**

# Скаргі рэдактароў

Рэдактар насценгазеты рамонтна-механічнага цэха магілеўскай шаўковай фабрыкі тав. **ІОФЕ** скардзіцца:

> **«Газету прыходзіцца выпускаць аднаму. Ніхто не дапамагае. Рабочыя не пішуць. Партарганізатар цэха тав. Селівестраў дапамагае тым, што піша заметкі ў газету. Ніхто мною не цікавіцца, і я не ведаю, як наладзіць работу. Аб з'ездзе рабселькораў гаварылі, але ніякага зруху няма».**

На шаўковай фабрыцы працуе каля 5 тысяч рабочых. Па недакладных даных рэдакцыі шматтыражкі **«ЧЫРВОНАЕ ВЕРАЦЯНО»** (орган парткома і фабкома фабрыкі) на фабрыцы налічваецца 600 рабкораў. Па карпусах, цэхах і брыгадах выпускаюцца каля 50 насценгазет.

Як працуюць гэтыя газеты? Скаргі рэдактара насценгазеты тав. Іофе не адзінкавы. Такімі-ж скаргамі пранізаны выступленні і іншых рэдактароў насценгазет на нарадзе рэдактароў, скліканай на фабрыцы журналам «Большэвіцкі друк».

Тав. **Заіка** — актыўны рабкор фабрыкі — скардзіцца на тое, што насценгазеты выпускаюць у большасці самі рэдактары. На сераўтальным заводзе пры фабрыцы быў выпадак зрыву насценгазеты, а «Чырвонае верацяно» ні гукам не абмовілася аб гэтым факце.

Тав. **Лабовіч** — рэдактар насценгазеты мацальнага корпуса заяўляе, што на змяшчаемыя ў газетах заметкі ніхто не рэагуе. Аб гэтым-жа гавораць і т. **Балабкоў** і інш. рэдактары.

Аб чым гавораць гэтыя выступленні? Яны гавораць аб тым, што партарганізацыя фабрыкі і газета «Чырвонае верацяно» недаацанілі ролі нізавога друку і работы з рабкорамі, што справа падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў ні парткомам, ні газетай не паднята на належную палітычную вышыню.

Аб усебеларускім з'ездзе рабселькораў «Чырвонае верацяно» паведаміла грамадскасць фабрыкі маленькай інфармацыяй, змешчанай у газеце № 132 ад 8 жніўня.

**«Рабкоры нашай фабрыкі ўзялі на сябе шэраг абавязкаў, сярод якіх:**

**Арганізаваць кароткатэрміновыя семінары для рэдактароў і рабкораў.**

**Рэгулярна выпускаць тэхстаронку.**

**Арганізаваць агульнафабрычны конкурс на лепшую штодзенку.**

**Сістэматычна выпускаць фота і радыёгазеты».**

У наступным нумары газеты змешчаны ўмовы ўнутрызаводскага конкурса на лепшую штодзенку, вызначаны прэміі.

Па думцы работнікаў рэдакцыі «Чырвонага верацяна» усё ў парадку. Самаабавязацельствы ўзяты, конкурс абвешчан, насценгазеты выпускаюцца. Што яшчэ патрэбна? Папытайцеся ў сакратара рэдакцыі «Чырвонага верацяна» тав. **ТАРАСАВА** (рэдактар адсутнічае) або намесніка сакратара парткома т. **ЛАЦАПНЁВА** аб тым, як працуюць насценгазеты? Яны вам адразу адкажуць: «Нічога. Не дрэнна. Змагаюцца за пяршынства».

І на першы погляд так і ёсць: газеты выходзяць, нядрэнна мастацкі афармляюцца.

Зусім іншая справа са зместам большасці газет.

Возьмем насценгазету будаддзела ад 25 верасня. Уся газета складаецца з перадавой на поўгазеты і двух заметак рэдкалегіі. Перадавая прысвечана ленінскаму комсамолу, у ёй пералічваюцца ўсе заваяванні Октября. Канчаецца перадавая словамі за «сусветную рэволюцыю». Або возьмем насценгазету № 2 адбельнага цэха. У газеце змяшчаецца перадавая (наогул усе насценгазеты выходзяць абавязкова з перадавымі па прыкладу цэнтральных газет) «Заваяваць пяршынства». У перадавой напісана:

**«На працягу трох пяцідзёнак жніўня наша брыгада занімала апошняе месца па корпусу і сядзела ў галошы. У апошняй пяцідзёнцы з 25 па 31 жніўня мы перайшлі на аўтамабіль, Але, не гледзячы на гэты зрух да лепшага, мы яшчэ працуем вельмі дрэнна. Дрэнна таму, што знаходзімся пазадзі трэцяй брыгады і дрэнна таму, што з 60 балаў магчымых мы змаглі зарабіць толькі 17,6».**

Чаму брыгада адстае? Якія прычыны? Куды патрэбна накіраваць усю ўвагу?

Аб гэтым ні гука.

Такі змест большасці газет. Агульнасць, неканкрэтнасць, балбатня.

Гэта вынік таго, што рабкоры не прыцягнуты да ўдзелу ў насценгазетах. А калі з'явіцца іншы раз рабкораўская заметка, то абавязкова пад псеўдонімам «Свой», «Бачыўшы», «Вока». На змяшчаемыя допісы ніхто не рэагуе.

Безумоўна, ёсць на фабрыцы і нядрэнныя газеты. Баявая апэратыўная газета **«УДАРНІК ШАЎКОВАЙ»** выходзіць у першай брыгадзе прадзільнага корпуса. Але і гэта газета яшчэ не здолела згрупаваць вакол сябе рабкораўскі актыў, не паказвае лепшых ударнікаў.

Чаму так слаба працуе нізавы друк на шаўковай? Асноўныя прычыны гэтага — адсутнасць кіраўніцтва работай, адсутнасць вучобы рэдактароў і работы з рабкорамі.

Рэдакцыя газеты «Чырвонае верацяно», партком фабрыкі ніколі не збіралі рэдактароў газет, рабкораў. У газеце няма ні аглядаў насценгазет, ні паказу работы паасобных рэдкалегій, рабкораў. Адсутнічае ўсялякая работа з рабкорамі і рэдкалегіямі насценгазет.

Самаабавязацельствы аб арганізацыі семінараў для рэдактароў і рабкораў асталіся пустой балбатнёй.

Адсюль зусім ясна, чаму скардзяцца рэдактары насценгазет, чаму ў газеты ніхто не піша, чаму не рэагуюць на тыя заметкі, якія ўжо змяшчаюцца ў газетах. Зусім ясна, чаму ў апошнім нумары газеты «Чырвонае верацяно», выпушчаным на чатырох паласах, з 17 змешчаных заметак 16 падпісаны рознымі псеўдонімамі: «Свой», «Насоснік», «Пільнае вока» і т. д.

На фабрыцы мела месца запалохванне рабкораў. Так, Драздоў пагражаў забойствам рабкорцы **Чарток** за тое, што яна напісала аб ім заметку ў газету.

«Чырвонае верацяно» прайшло міма гэтага факта, як прайшло міма раду іншых фактаў заціску самакрытыкі.

**
*

**«Каваль соцыялізма»** — шматтыражка магілеўскага завода «Чырвоны ад-

раджэнец» — у № 18 ад 24 жніўня выступае з лозунгам на ўсю першую паласу:

**«Сустрэць усебеларускі і раённы з'езды рабселькораў узмацненнем работы нізавога друку».**

Пад гэтай шапкай змяшчаецца перадавічка «Па-баявому рыхтавацца да з'ездаў».

«Каваль соцыялізма» на фактах работы асобных насценгазет і рабкораў заклікае ўзмацніць работу нізавога друку, узмацніць сувязь друку з масамі, узмацніць дзейснасць рабочых пісем, рашуча палепшыць парткіраўніцтва нізавым друкам.

Пасля гэтага прызыву газеты прайшло паўтара месяцы, але ніякага зруху ў рабоце нізавога друку на заводзе няма. Як і ранейй насценгазеты не выпускаюцца. На змяшчаемыя заметкі ў заводскай газеце не рэагуюць.

У чым тут справа?

Справа ў габінетным уключэнні ў падрыхтоўку да з'езда. Нідзе на сходах не прапрацавана пастанова ЦК КП(б)Б аб скліканні ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Рэдактароў насценгазет ніколі не збіралі, не збіралі таксама і рабкораў.

Партарганізацыя завода нізавым друкам не займаецца. Досыць сказаць, што партком завода нават не абмяркоўваў пытання аб падрыхтоўцы да ўсебеларускага рабселькораўскага з'езда.

«Каваль соцыялізма» не змагаецца за рэалізацыю сваіх-жа прызываў і лозунгаў. Уся работа па падрыхтоўцы да з'езда пушчана на самацёк.

***

У тым, што газеты «Каваль соцыялізма» і «Чырвонае верацяно» не справіліся з задачамі, пастаўленымі перад імі ў сувязі з падрыхтоўкай да ўсебеларускага з'езда рабселькораў, віна ў першую чаргу парткомаў гэтых прадпрыемстваў і магілеўскай райгазеты **«Комунар Магілеўшчыны»**. Рэдактар «Комунара Магілеўшчыны» т. **Іофе** запэўніваў нас, што на шаўковай фабрыцы падрыхтоўка да з'езда разгорнута. Гэта запэўніванне сведчыць аб тым, што рэдакцыя не ведае становішча нізавога друку на прадпрыемствах, не дапамагае яму. Характэрна, што нават на нараду рэдактароў насценгазет шаўковай фабрыкі, скліканую журналам «Большэвіцкі друк», ніхто з работнікаў «К. М.» не з'явіўся.

Завод «Чырвоны адраджэнец» не выключэнне. Такое-ж становішча з нізавым друкам, з падрыхтоўкай да рабселькораўскага з'езда і на трубаліцейным заводзе імя Мяснікова, на сушзаводзе, на хлебакамбінаце, заводзе «Пролетарый», мэблевай фабрыцы. Гэтага не ўтойвае сам «Комунар Магілеўшчыны». Не раз аб гэтым пісалася на яго старонках.

Другая справа, як «К. М.» кіруе і дапамагае рабоце фабрычна-заводскага друку, як сама гэта газета вядзе падрыхтоўку да з'езда.

У 15 нумары «Большэвіцкага друку» быў змешчан агляд «Комунара Магілеўшчыны» па пытанню падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў. У аглядзе былі выразна ўказаны недахопы газеты ў гэтай рабоце.

У аглядзе пісалася:

**«Газета фактычна яшчэ не пачала агляду нізавога друку. Дагэтуль на старонках «К. М.» няма аглядаў, разгорнутага паказу работы асобных шматтыражак, насценгазет, няма паказу жывых рабселькораў, іх барацьбы за месца на раённым злёце і ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў. Не адчуваецца на старонках «К. М.» разгорнутага спаборніцтва нізавых газет і рабселькораў».**

Гэтых указанняў рэдакцыя магілеўскай райгазеты не ўлічыла да гэтага часу, не выправіла сваіх памылак.

За ўвесь верасень «Комунар Магілеўшчыны» даў толькі два агляды насценгазет: газеты калгаса «Комунар Магілеўшчыны» і штодзенкі **«Ўдарнік шаўковай»** (першая брыгада прадзільнага корпуса шаўковай фабрыкі).

Агляд насценгазеты калгаса «Комунар Магілеўшчыны» і невялікая заметка аб рабоце газеты калгаса імя Ланцуцкага — вось усё, што магілеўская газета за цэлы месяц удасужылася даць аб рабоце нізавога калгастоўка да рабселькораўскага з'езда ў нага друку ў раёне. Як ідзе падрыхтоўка да рабселькораўскага з'езда ў сельсоветах, калгасах раёна, як кіруюць гэтай работай пярвічныя партыйныя

арганізацыі. аб гэтым у газеце ні слова.

Не на многа лепш і з паказам гэтай работы па гораду.

28-га жніўня газета пісала аб дрэнным становішчы нізавога друку на трубаліцейным заводзе імя Мяснікова: спыніла выхад насценгазета механічнага цэха; на рабкораўскія заметкі ніхто не рэагуе, парткіраўніцтва работай нізавога друку на заводзе няма.

2 верасня газета зноў выступае з новымі матэрыяламі аб трубаліцейным заводзе: з першага мая не выходзіць заводская газета, не працуе ні адна рэдкалегія насценгазет. І газета дае да гэтага матэрыялу прыпіску ад рэдакцыі:

> «Прыведзеныя ў заметцы факты гавораць аб тым, што і партком і заўком не адчуваюць адказнасці за работу нізавога друку. Больш таго, нізавы друк ігнаруецца. Запытваемся, няўжо рашэнні партыі аб рабоце друку не абавязковы для парткома завода. Мы ўпэўнены, што абавязковы. Калі яшчэ да гэтага часу партком завода гэтай ісціны не зразумеў, то як-жа ён наогул ажыццяўляе партыйнае кіраўніцтва. На гэта пытанне, мы спадзяемся, партком у хуткім часе дасць адказ».

Не будзем ужо гаварыць аб якасці гэтай прыпіскі. Пакінем яе на сумленні рэдактара «Комунара Магілеўшчыны». Але-ж сама рэдакцыя магілеўскай газеты абавязана была папрацаваць на гэтым заводзе, дапамагчы партыйнай арганізацыі наладзіць работу заводскага друку, разгарнуць там падрыхтоўку да з'езда. Прайшоў цэлы месяц, а ў газеце ні слова няма аб тым, што-ж зроблена на заводзе, як там зараз абстаіць справа з падрыхтоўкай да з'езда.

11 верасня «К. М.» выступіў з аналагічным матэрыялам аб заводзе імя Дзімітрава. Лёс гэтага матэрыялу такі-ж, як і аб заводзе імя Мяснікова. Такі-ж лёс напаткаў і матэрыял аб адсутнасці падрыхтоўкі да з'езда на хлебакамбінаце.

Рэдакцыя «К. М.» не зразумела сваіх задач у арганізацыі і кіраўніцтве падрыхтоўкай да з'езда. Яна звяла гэтую работу толькі да выкрыцця недахопаў у падрыхтоўцы да з'езда на асобных прадпрыемствах, нічога не зрабіўшы для таго, каб практычна **на справе дапамагчы** фабрычна-заводскім шматтыражкам разгарнуць гэту работу.

Вучоба рэдактароў нізавых газет, масавая работа з рабселькорамі — гэтыя пытанні зусім выпалі і са старонак і з практычнай работы магілеўскай газеты, таксама як выпалі і спаборніцтва нізавых газет і рабселькораў на права ўдзелу ва ўсебеларускім з'ездзе, як выпаў і паказ знатных людзей, лепшых рабселькораў-ударнікаў.

Так весці падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў, як вядзе яе «Комунар Магілеўшчыны» — вялікая штодзенная газета — недапушчальна. Такая работа — ганьба для газеты. **За становішча нізавога друку і работу з рабселькорамі адказвае ў першую чаргу рэдакцыя газеты.** І гэта павінны, нарэшце, зразумець работнікі магілеўскай газеты і яе рэдактар тав. Іофе і разгарнуць падрыхтоўку да з'езда так, як гэтага патрабаваў у сваёй пастанове аб скліканні з'езда ЦК КП(б)Б.



**РАМАНЧЫК** — актыўны селькор чэрвеньскай раённай газеты «Калектывіст», зараз старшыня Кліноцкага сельсовета.

# Трыбуна прадз'ездаўскай падрыхтоўкі

**ОРША.**

Селькоры **Якаўлевіцкага сельсовета, Аршанскага раёна,** аднымі з першых уключыліся ў падрыхтоўку да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Па сельсовету абвешчан агляд нізавога калгаснага друку. Агляд праходзіць пад лозунгам: кожнаму калгасу — баявую, апаратыўную насценгазету; узмацніць рэагаванне на селькораўскія пісьмы, пашырыць селькораўскія рады за лік ударнікаў сацыялістычных палёў.

У агляд уключыліся настаўнікі вясковых школ. Ва ўсіх 10 калгасах сельсовета створаны брыгады па агляду работы насценгазет.

6 верасня выйшла ў 15 экземплярах сельсовецкая шматтыражка, прысвечаная падрыхтоўцы да сельсовецкага злёта рабселькораў. Селькоры калгаса «Комунар» у парадку падрыхтоўкі да з'езда правялі рэйд праверкі якасці капання бульбы. Селькоры калгаса «Красуліна» і «Х з'езд советаў» арганізавалі рэйд праверкі падрыхтаванасці жывёлагадоўчых ферм да зімы.

Селькоры **Якаўлевіцкага** сельсовета падхапілі ініцыятыву селькораў Какоўчынскага сельсовета аб арганізацыі на кожным мяльна-трапальным пункце селькораўскіх пастоў. Пасты ўжо створаны ў калгасах «Завет Ільіча», «Комунар» і імя Сталіна.

20 верасня на скліканы палітаддзелам Аршанскай МТС селькораўскі злёт сабралася звыш 150 селькораў. Злёт абмеркаваў даклад тав. Галавача аб 1-м усесаюзным з'ездзе совецкіх пісьменнікаў, падагуліў работу нізавых калгасных газет.

**РЭЧЫЦА.**

Рабочыя вяровачнай фабрыкі **«Чырвоны Окцябр»** сустракаюць 3-ці ўсебеларускі з'езд рабселькораў паляпшэннем якасці выпускаемай прадукцыі, штодзенным выкананнем і перавыкананнем промфінплана кожнай брыгадай. Пастанова бюро ЦК КП(б)Б аб з'ездзе рабселькораў абмеркавана на агульным сходзе рабочых, на сходзе рэдактароў насценгазет і рабкораў.

На заводзе створана ўдарная брыгада імя 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Рабкоры актыўна ўключыліся ў падрыхтоўку прадпрыемства і кватэр рабочых да зімы. Кватэры агледжаны спецыяльнай камісіяй, 23 агледжаных кватэры пачалі ўжо рамантаваць.

23 верасня рэдакцыі газет **«Окцябр»** і **«Рэчыцкая праўда»** правялі ў горадзе канферэнцыю рэдактароў насценгазет і рабкораў саматужных арцелей.

**ГАРАДОК**

Палітаддзельская газета «Сталінскі заклік» шырока папулярызуе ініцыятыву перадавых сельсоветаў (Вайханскага, Селішчанскага і Кабінчанскага), якія ў адзнаку 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў арганізуюць чырвоныя абозы па продажу збожжа кааперацыі. Пашыраны пленум Вайханскага сельсовета сумесна з старшынямі калгасаў паставіў задачай прадаць кааперацыі не менш 52 тон зярна. Вайханскі сельсовет выклікаў Селішчанскі. Выклік прыняты. 25 верасня калгаснікі і працоўныя аднаасобнікі Селішчанскага і Кабінчанскага сельсоветаў арганізуюць чырвоны абоз з хлебам для продажу кааперацыі.

**СТАРЫЯ ДАРОГІ**

На злёце селькораў Кармазоўскага і Крываносаўскага сельсоветаў выступілі з перадачай вопыту сваёй работы старыя селькоры і калгаснікі **Пархімовіч, Дзмітрук.** Тав. Пархімовіч расказаў аб ролі насценгазеты ў вытворчых перамогах калгаса «Лена-Маркс», які датэрмінова завяршыў уборку і выканаў свае абавязкі перад дзяржавай па хлебапастаўках.

Раённая газета **«За калектывізацыю»** друкуе вопыт работы лепшых селькораў раёна **Усені і Шэшкі,** якія паставілі перад сабой задачу — рапартаваць усебеларускаму з'езду рабселькораў датэрміновым выкананнем усіх сваіх абавязкаў перад дзяржавай і датэрміновым скančэннем усіх сельска-гаспадарчых работ.

## ГЛУСК

Толькі 16 верасня апублікавана пастанова Бюро РК КП(б)Б і палітаддзела МТС аб падрыхтоўцы да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. Раённай і палітаддзельскай газеце даручана правесці трохдзённыя курсы для рабселькораўскага актыва, склікаць куставыя злёты селькораў, распачаць агляд нізавога друку і пераклічку знатных людзей сельскай гаспадаркі.

На жаль, раённая газета «Сцяг калектывізацыі» вельмі марудна бярэцца за справу. Вопыта работы лепшых насценгазет і селькораў газета яшчэ не паказала.

## СЛУЦК.

**«За тэмпы і якасць»** — палітаддзельская газета Слуцкай МТС — аб'явіла паход за сытую і цёплую зімоўку жывёле. Палітаддзел звярнуўся з заклікам да ўсіх селькораў уключыцца ў гэты паход.

Газета палітаддзела з нумара ў нумар дае матэрыялы аб разгортванні ў калгасах гэтага паходу.

Селькоры калгаса «1 мая» ўзяліся за ацяпленне свінарніка, робяць столь на МТФ і пакрываюць яе саломай.

## ЛЁЗНА

Бюро РК КП(б)Б у пастанове аб ходзе падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў указала на адсутнасць штодзённага партыйнага кіраўніцтва нізавым друкам на фабрыцы імя Карла Маркса, у соўгасе «Адаменкі», у калгасе «Колас».

30 верасня па раёну праводзіцца адзіны партдзень па пытанню падрыхтоўкі да з'езда. Інструктарам райкома партыі і партыйным арганізатарам дано ўказанне ўключыць усіх рабселькораў у сетку партасветы.

## БУДА-КАШАЛЁВА

Раённая і палітаддзельская газеты адзначаюць усебеларускі з'езд рабселькораў арганізацыяй вучобы селькораў. На курсах рэдактароў калгасных насценгазет, дзе займалася 21 чалавек, прапрацаваны такія тэмы: рэйд селькораў і іншыя формы масавай работы насценгазеты, Ленін і Сталін аб большэвіцкім друку, як пісаць заметку, тэхнічнае афармленне насценгазеты, як лепш падрыхтаваць зімоўку жывёле, правілы апрацоўкі ільну.

4-га кастрычніка вышаў 3-ці нумар друкаванага бюлетэня **«За месца на ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў».**

## МЕНСК.

**«За здаровы вагон»** шматтыражка завода імя Мяснікова (Менск) падрыхтоўку да ўсебеларускага з'езда рабселькораў разгортвае пад лозунгам поўнага і добракаснага выканання задання па выпуску вагонаў.

5-га верасня шматтыражка прысвячае з'езду цэлую старонку. У цэхах праведзены гутаркі аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы да з'езда. Па пастанове парткома шматтыражка абвясціла з 15-га верасня па 1 снежня конкурс на лепшую насценгазету і рабкора. Для прэміравання лепшых ударнікаў нізавога друку вызначана 460 рублёў.

## БАБРУЙСК.

Шматтыражка **«За ўдарныя тэмпы»** Бабруйскага лесакамбіната, змясціўшы прапановы рабкораў-ударнікаў, зотаўцаў фабрыкі «Пролетарская перамога», уключылася ў спаборніцтва на лепшую падрыхтоўку да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. На старонках газеты разгортваецца спаборніцтва рэдактароў нізавых газет, абвешчана прадз'ездаўская пераклічка.

Рэдактар насценгазеты неабрэзнага ўчастка біржы піламатэрыялаў **Калеснікаў**, рэдактар штодзенкі 3 групы машыннай залы—**Апанюк Стэфа** перадалі праз шматтыражку вопыт сваёй работы і расказалі, як яны рыхтуюцца да з'езда рабселькораў.

Амаль у кожным нумары друкуецца «Дошка гонару» лепшых рэдактароў нізавых газет і рабкораў камбіната.

## ГОМЕЛЬ.

**«Ударнік»** — шматтыражка гомельскай абутковай фабрыкі **«Праца»** — разгарнуў спаборніцтва паміж рабкорамі на права паездкі на ўсебеларускі з'езд рабселькораў. На фабрыцы арганізуецца семінар для рэдактароў і членаў рэдкалегій. У цэхах праведзены гутаркі з рабочымі па пытанню ўдзелу ў рабоце цэхавых насценгазет і падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў.

## НІЗАВЫ ДРУК НА АГЛЯДЗЕ

**А. МАТУСЕВІЧ**

# „НАШАМУ СЕЛЬКОРУ“ ДЗЕСЯЦЬ ГОД

«У чырвоным кутку невялікі столік, накрыты абрусом. Столік завален камплектамі газет, асобнымі экземплярамі. Камплектаў газет сшытых — 5: «Звязда», «Совецкая Беларусь», «Беларуская вёска», «Новая деревня» і бабруйскі «Комуніст».

Спыткі, выразкі, даведкі.

«Рэдакцыйны партфель» насценнай газеты «Наш селькор», якую рэдагуе Гр. Лапіцкі, прадстаўлен цэлай пачкай рукапісаў па кавалачках паперы, пісаных у большасці алоўкам. Почырк усюды каравы, сялянскі — ад сахі. Гэта ўсё сялянскія карэспандэнцыі ў насценгазеце».

Так 9 год назад — 13 лютага 1925 года пісала **«Звязда»**, адзначаючы нараджэнне адной з першых насценгазет на Бабруйшчыне.

Гэта невялічкі штрых з гісторыі **«Нашага селькора»**, першы нумар якога вышаў у глушы кабанаўскіх хутароў былога Стрэшынскага раёна **«ў панядзелак 15 верасня 1924 года»**, — як потым адзначалася ў радзе дакументаў па справе праследвання першых арганізатараў газеты.

Пачалося гэта праследванне з актыўнага выступлення розных Аўсяннікавых, Дамброўскіх, Лавецкіх супроць насценгазеты. Ім не па густу было нечаканае з'яўленне ў вёсцы небяспечнай «лістоўкі», якая потым даволі смела выступіла супроць цемры, забабонаў, супроць прытаіўшыхся на кабанаўскіх ху-

**Першы рэдактар «Нашага селькора» Рыгор Лапіцкі ў т. СТАЛІНА.**



**У дні першага ўсесаюзнага з'езда рабселькораў у Маскве ў 1925 г. група старэйшых і актыўнейшых селькораў была запрошана да тав. Сталіна. У ліку іншых дэлегатаў быў запрошан і тав. Лапіцкі Рыгор—першы рэдактар насценгазеты «Наш селькор» і дэлегат усесаюзнага з'езда. (Сядзіць поруч з тав. Сталіным, з левага боку).**

тарах астаткаў памешчыкаў і кулакоў.

Першыя нумары насценнай газеты «кабанаўскага гуртка моладзі» канфіскуюць, або, як выражалася ў той час стрэшынскае «кіраўніцтва», «забіраюць у раён». Тлумачэнне простае: гэта, моў, не газета, а «лістоўка», якая «размазана ўсемагчымымі фарбамі, напісана няграматна і бессэнсоўна». Такое тлумачэнне даваў у бабруйскую газету **«Комуніст»** сакратар кабанаўскага райсельсовета **Згурскі.**

Супроць насценгазеты распачалі справу. Першы нумар «Нашага селькора», які заклікаў падпісвацца па газеты, бо «без газеты няма свету», нумар у якім была заметка аб пабудове помніка загінуўшым героям грамадзянскай вайны ды некальки абвестак з «Беларускай вёскі» і гомельскай «Новой деревни» — гэты не вельмі яшчэ зубасты нумар пайшоў «на расследванне» ў райком і ў міліцыю. Там «расследвалі». Расследвалі, чаму першая ў глушы насценгазета «напісана бязграматна і размазана ўсемагчымі фарбамі», вывучалі, «хто гэта асмеліўся павесіць у сельсовеце такую лістоўку».

Віноўнікаў гэтага «смелага ўчынку» — рэдактара першых нумароў насценгазеты т. **Лапіцкага** арыштавалі, завялі ў раённую міліцыю, знялі допыт і пасадзілі. А газету проста сарвалі. Было гэта ў 1924 г. Класава-варожыя сілы павялі арганізаванае наступленне на першую ў раёне нізавую газету, на актывізуючыхся селькораў.

Партыя і совецкая ўлада тады жорстка ўдарылі па стрэшынскіх праследвальніках нізавога друку і селькораў. Справай заняліся «Правда», «Звязда», «Крестьянская газета». Дзесяць дзён цягнуўся ў Менску паказальны працэс. Былы старшыня Жырхаўскага сельсовета Аўсянікаў быў прыгавораны да 10 год пазбаўлення волі, старшыня стрэшынскага РВК Дамброўскі — да 3 год і начальнік міліцыі Лавецкі — да 1 года.

***

Гісторыя росту «Нашага селькора» — адной з першых насценгазет на Бабруйшчыне — адзін з яркіх узораў росту, пад штодзенным партыйным кіраўніцтвам, нізавых вясковых газет Совецкай Беларусі. Ад дробных культурна-

Першы нумар «Нашага селькора» за 15-ае верасня 1924 г.


КАБАНОВСКАЯ СТЕННАЯ ГАЗЕТА № 1.

НАШ СЕЛЬКОР.

Орган Кружка Молод...

Понедельник 15 го сен 1924 г.

БЕЗ ГАЗЕТ — СЕЛЬКОРОВ НЕТ

ПАМЯТИ ПАВШИМ ГЕРОЯМ.

Нужны указатели дор...

Об'явления

М.О.П.Р

От тьмы к свету через газету и книгу

К свету и знанию.

Улучшение стенгазеты за... от самих читателей

Гр-не! шлите в стенгазету зам...

бытавых пытанняў, ад пытанняў выпіскі газет і пастаноўкі спектакляў насценгазета хутка пераходзіць да пытанняў арганізацыі меліярацыйных таварыстваў і сельскагаспадарчых арцелей. Нізавая газета пачынае больш актыўна выкрываць класава-варожых элементаў, кулакоў.

Вось што пісала бабруйская газета **«Комуніст»** у першую гадавіну «Нашага селькора» 16 верасня 1925 года:

> **«15 верасня кабанаўская насценная газета «Наш селькор» святкавала першую гадавіну свайго існавання. Газета пачала выдавацца гуртком селькораў. У першым нумары было ўсяго 5 заметак. У далейшым сяляне пачалі больш актыўна пісаць у газету. Цяпер у газеце змяшчаецца ўжо 20 заметак. Сценкораў налічваецца 27. Як старыя, так і моладзь з вялікай ахвотай чытаюць газету, цікавяцца ёю».**

Прайшло яшчэ два гады. Кабанаўскі селькораўскі гурток ужо не абмяжоўваецца толькі адным выпускам насценгазеты і зборам падпіскі на цэнтральны друк. З Менска з савецкай партыйнай школы прыехалі комуністы **Русанаў** і **Гутман.** Яны на практыцы паказваюць селькорам, як выпускаць аператыўную бальшавіцкую газету. Насценгазета пачынае ўваходзіць і ў другія галіны савецкага будаўніцтва, яе селькоры — удзельнікі раду мерапрыемстваў, праваздзімых партыяй. У трэцюю гадавіну «Нашага селькора» — у 1927 годзе бабруйскі «Комуніст» загаварыў аб масавай рабоце газеты і згуртаваных вакол яе кабанаўскіх селькораў.

> **«15 верасня 1924 года ў насценгазету пісалі ўсяго два селькоры. 5 красавіка ў газеце было ўжо 18 насценкораў і 2 селькоркі, у 1925 годзе — 27 насценкораў, з іх 4 жанчыны і ў лістападзе 1927 года ў газету ўжо піша звыш 60 насценкораў.**
>
> **Селькоры насценгазеты прынялі актыўны ўдзел у праввядзенні розных кампаній: зборы сродкаў на карысць МОПР-а, зборы ў фонд «Наш адказ Чэмберлену», распаўсюджваюць сялянскую пазыку і пазыку індустрыялізацыі».**

Мінула яшчэ 7 год.

Вышла **363 нумары** «Нашага селькора». І вось 15 верасня 1934 г. збіраюцца прадстаўнікі партарганізацыі, селькоры, актыў Кабанаўскага сельсовета, калгаснікі двух калгасаў, арганізаваных на былых кабанаўскіх хутарах. Адзначаюць дзесяцігадовы юбілей сваёй сельсовецкай насценгазеты.

Успамінаюць пройдзеныя дні, дні напружанай работы партыйнай арганізацыі сельсовета і яе органа — «Наш селькор».

— Некалькі год таму назад па ініцыятыве насценгазеты было створана ў сельсовеце меліярацыйнае таварыства, асушаны дзесяткі гектараў балота.

— У 1929 годзе пры актыўным удзеле селькораў і газеты «Наш селькор» у Кабанаўскім сельсовеце арганізуецца калгас «Комуніст».

— Насценгазета рашуча выкрывае манеўры класавых ворагаў. З рэдкалегіі вычышчан кулак Гальмак Нікіфар.

— Па ініцыятыве насценгазеты зняты з работы і аддан пад суд старшыня сельсовета і шкоднік Тарасаў Міхаіл.

— Газета выкрыла злодзея Агеенку Івана, які краў з млына калгасны хлеб. Факты, указаныя газетай, пацвердзіліся. Агеенку судзяць і высылаюць за межы БССР.

— І зусім нядаўна ў дні падрыхтоўкі да свайго дзесяцігадовага юбілея насценгазета дабіваецца ўступлення ў калгас 15 гаспадарак аднаасобнікаў вёскі Таўстыкі і Рудня.

***

У канцылярыі сельсовета вісіць 362-гі нумар органа партыйнай арганізацыі, комсамола і сельсовета — газеты «Наш селькор», якою па-аператыўнаму кіруе парторг тав. **Тарасаў** — яе сёнешні рэдактар.

Яе старонкі стракацяць заметкамі лепшых калгаснікаў-ударнікаў. Заметкі, пісаныя рукамі саміх калгаснікаў, заклікаюць на барацьбу за якасць уборкі, на хуткейшы разлік з дзяржавай па хлебапастаўках, на завяршэнне сіласавання. Яны гавораць аб узорах работы лепшых селькораў.

Селькор **Далгачоў М.** арганізуе кругласутачную малацьбу не толькі ў калгасах, а і ў гумнах працоўных аднаасобнікаў. Селькор **П. Кавалёў,** член

сельсовета, першым разлічваецца з дзяржавай па хлебапастаўках. За ім следуе яго дзесяцідворка.

**Караткевіч Ж.**, які з'яўляецца своеасаблівым «спецкорам» насценгазеты ад свінагадоўчай фермы калгаса «Чырвоная Зара», уцягвае ў работу насценгазеты ўсіх свінарак. Яны падпісваюць дагавор на спаборніцтва: не дапусціць адыходу, поўнасцю захаваць увесь апарос.

**«Учора мы пайшлі на поле да аднаасобніка Я. Вострыкава. Растлумачылі яму выгоднасць калгаса. Выслухаў нас Вострыкаў і на другі дзень уступіў у калгас.**

**Таварышы калгаснікі! Не зазнавайцеся сваім калгасным стажам, не адгароджвайцеся ад аднаасобнікаў, а растлумачце ім выгоднасць калгасаў, арганізуйце прыліў у калгасы».**

Так пішуць у сваю сельсовецкую насценгазету старыя яе ўдзельнікі сялькоры **Лапіцкі і Кавалёў.**

Другая заметка Н. Кавалёва. Ён абавязваецца ў адзнаку падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда «завербаваць 140 падпісчыкаў на газеты». І замест 140 даў 160. Селькор Карпушэнка абавязаўся ўзяцца за сіласаванне. І сёння **«адна яма ўжо засіласавана, напаўняецца зялёнай масай другая яма».**

Газета абвяшчае **мітынг-пераклічку** лепшых майстроў калгаснай вытворчасці.

І, урэшце, **«Наш селькор» завязвае міжнародную сувязь з рабочымі эсперантыстамі Японіі** і атрымлівае ад іх пісьмо да калгаснікаў Кабанаўскага сельсовета.

Такавы справы і дні адной з старэйшых у Жлобінскім раёне сельсовецкай насценгазеты.

# На новых сялібах косарэўцаў

На берагах імклівага Дняпра выраслі новыя сялібы шасці брыгад **калгаса імя Косарэва.** Міма ідуць параходы, плывуць баржы, плыты з дубовым лесам. А на ўзбярэжжы Дняпра высяцца пабудаваныя па ініцыятыве калгаснага актыва вялікі клуб з пакоямі для партыйнай вучобы і работы гурткоў, дзіцячыя яслі, дом кааперацыі, калгасныя свірны. Воддаль гумны, нядаўна пабудаваныя памяшканні калгаснай жывёлагадоўчай фермы.



**ГАНЖУРАЎ—адказны рэдактар насценгазеты «За ўраджай».**

Косарэўцаў ведаюць ва ўсім Жлобінскім раёне. Гэта яны за некалькі дзён пасля вялікага пажару адбудоўваюць калгасную ферму. Гэта косарэўцы датэрмінова разлічваюцца з дзяржавай па зернапастаўках, першымі ў раёне адвозяць дзяржаве бульбу і прадаюць кааперацыі 17 тон хлеба. І ні хто іншы, як косарэўская моладзь, па ініцыятыве селькораў, першая ў раёне арганізавала суботнік і літаральна за тры дні пабудавала вялікі калгасны клуб — дом соцыялістычнай культуры.

Калгас імя Косарэва яшчэ малады. Маладая і яго насценгазета і брыгадныя штодзенкі. Але расце калгас, палепшаецца і работа насценгазеты **«За ўраджай».**

Вакол газеты згуртоўваецца актыў. 45 лепшых ударнікаў-калгаснікаў становяцца актыўнымі ўдзельнікамі сваёй газеты.

Яшчэ ў мінулым годзе калгас складаўся толькі з 50 гаспадарак. Сёння ў калгасе 200 сем'яў, 430 га пахаці, 460 га сенажаці. Калгаснае стада—200 галоў—у два разы павялічылася параўнальна з мінулым годам. І ў гэтым—немалая заслуга калгаснай насценгазеты.

Год таму назад на бурным пашыраным пасяджэнні рэдкалегія выключыла са сваіх радоў былога рэдактара падкулачніка **Н. Камарова.**

**Ганжураў**—стары селькор-актывіст, член праўлення калгаса, комсамолец—быў выбран рэдактарам насценгазеты і старшынёй рэдкалегіі новага складу. З гэтага часу пачынаецца актыўная работа газеты па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгаса. Рабоце газеты пачынае больш аддаваць увагі партторг, да заметак і заўваг газеты часцей прыглядаецца старшыня калгаса.

На дапамогу тав. Ганжураву прыходзяць селькоры-ўдарнікі **Шараеў, Юдзінцоў, Любіч, Дзегцяроў**. Амаль у кожным нумары з'яўляюцца вершаваныя карэспандэнцыі калгаснага паэта **Бернацкага.** Ён бярэ факты з штодзеннага жыцця калгаса і ў форме вершаў бічуе канкрэтныя недахопы і іх вінаўнікаў. Тут і непарадкі на МТФ, і барацьба з псаваннем машын, якія «валяюцца пад дажджом», тут і рэзкае выступленне супроць **В. Гузавай,** якая крала малако з фермы.

***

**Насценгазета калгаса імя Косарэва карыстаецца ў калгаснікаў вялікім аўтарытэтам.** Газета рашыла актыўна ўзяцца за арганізацыю новага прыліву, даказаць сваёй практычнай работай, што з газетай лічацца не толькі косараўцы, а і вакольныя аднаасобнікі. На пашыранай нарадзе сумесна з комсамольцамі калгаса рэдакцыя абмеркавала план работы па арганізацыі прыліву ў калгас. Рашылі кожнага селькора прымацаваць да 5 двароў вакольных аднаасобнікаў. Селькор адказвае перад рэдкалегіяй за выкананне аднаасобнікамі іх абавязацельстваў перад дзяржавай і адначасова вядзе работу па прыліву.

Селькоры пачалі абходзіць хаты аднаасобнікаў, праводзіць гутаркі, на прыкладах росту калгаса імя Косарэва растлумачваць перавагі калгаснага ладу. У выніку **46 былых аднаасобнікаў падалі заявы і прыняты ў калгас.**

Калгас імя Косарэва не меў свайго клуба. Насценная газета пачынае па-гаварваць аб значэнні дамоў соцыялістычнай культуры. «Тут і заняткі гурткоў, і пастаноўкі, і сходы, і гутаркі» Газа-чае імкненне «мець свой клуб» пера-твараецца ў канкрэтную справу. Па ініцыятыве селькораў, комсамольцаў у калгасе арганізуецца «суботнік для па-будовы клуба». Па-ўдарнаму працавала калгасная моладзь, узводзячы сцены новага будынка. Клуб пабудаван. Пры ім пакоі для партыйнай і агратэхнічнай вучобы, спортпляцоўка.

Загадчык дома соцыялістычнай культуры тав. Ганжураў—рэдактар калгаснай насценгазеты. Па яго ініцыятыве моладзь арганізуе ў калгасе суботнік, на зароблены грошы набывае цяпер музычныя інструменты для калгаснага струннага аркестра. А зараз насценная газета ўжо ставіць пытанне аб арганізацыі пры доме соцыялістычнай культуры парку адпачынку, а на Дняпры—лодачнай станцыі. Плошча пад парк ужо адведзена. Асталося яе добра азеляніць, утульна абсталяваць.

***

Дні веснавой сяўбы, гарачая пара ўборкі. У гэтыя дні асабліва працавала насценгазета «За ўраджай» На дапамогу ёй выйшлі брыгадныя штодзёнкі. Яны ўсё больш заваёўвалі аўтарытэт і часамі выходзілі па два разы на дзень.

Дзейснасць заметак насценгазеты велізарная. У рэдкалегію з'яўляецца калгасніца **Н. Гузава.** Яна не ўсвядоміла яшчэ, што рэдактар не з'яўляецца адміністратарам у калгасе. Аднак, яна ведае, што да голасу газеты чула прыслухоўваецца праўленне калгаса. Гузава просіць:

**«Лепш зніміце працадні, аштрафуйце, але не давайце ў газетку, што я ўчора прагуляла».**

Поўнага камплекта, на жаль, рэдкалегія насценгазеты «За ўраджай» не захоўвае. Праглядаем асобныя яе нумары.

Вось нумар, прысвечаны ўборцы бульбы. Па-баявому змагаліся селькоры за хутчэйшую ўборку і паставку бульбы. Да злёта рабселькораў калгас першым у раёне разлічыўся з дзяржавай і па бульбапастаўках.

На ўборцы бульбы быў такі факт дзейнасці нізавога друку. Некалькі селькораў заўважылі, што калгасніцы **Марцэеўская і Касловак** не чыста выбіраюць бульбу. Мала гэтага, вечарам, ідучы дамоў, яны набралі сабе калгаснай бульбы. У насценгазеце паяўляецца аб гэтым заметка, а праз дзень Марцэеўскую і Касловак судзіў таварыскі суд.

Высокая якасць сельска-гаспадарчых работ, своечасовае выкананне калгасам сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай

—вось за што змагаецца газета па працягу ўсёй работы. Аднаго разу на ўборцы ільну было выяўлена, што **Тацяна Камарова** дрэнна ўбірае лён, разам з травой выкідае і сцяблы ільну. У насценгазеце з'яўляецца вершаваная карэспандэнцыя Бернацкага:

> **«Вось інспектар якасці,**
> **Які робіць пакасці.**
> **Яна лёну шмат нарвала**
> **У барозны паскідала».**

Насценгазета ўносіць прапанову: стварыць у калгасе «дружыны якасці». Дружыны створаны, яны сталі актыўнымі памочнікамі інспектарам па якасці.

**
*

Пачалася малацьба. Каля малатарні з'явіўся пост насценнай газеты, а ў самой газеце паявілася заметка:

**«Якасць абмалоту залежыць ад арганізацыі работы. Вось малацілі ў брыгадзе Мірзеўскага. На гумне і ў саломе асталося шмат зярна. Гэта таму, што Тацяна Дзегцярова дрэнна вытрасала салому».**

Газета ўздзейнічала. Заметку прачыталі ў праўленні калгаса, на малацьбу пачаў часцей заходзіць брыгадзір па якасці.

Сёння калгасная насценгазета—актыўны барацьбіт за цёплую і сытую зімоўку калгаснай жывёлы. На чале будаўніцтва новага кароўніка становіцца селькор-ударнік тав. **Гузаў**. Ставіцца пытанне аб тым, «каб пазатыкаць у хлявох усе дзіркі», каб жывёла не адчувала недахопу і ў кармох.

**
*

Рэдкалегія калгаснай насценгазеты «За ўраджай» уключылася ў падрыхтоўку да трэцяга ўсебеларускага з'езда рабсельнкораў. На старонках насценгазеты выступіў парторг калгаса тав. **Любіч.** Ён расказаў аб задачах селькораў у падрыхтоўцы да з'езда. Хутчэйшае сканчэнне ўборкі ўсёй бульбы, завяршэнне сіласавання, зяблівы, разгортванне партыйнай і агратэхнічнай вучобы—канкрэтныя ўчасткі сёнешняй работы селькораў, насценгазеты.

**М. АЛЕМІЧ.**

**Калгас імя Косарэва,**
**Жлобінскага раёна.**

**М. ЧАУСКІ**

Адказны рэдактар газеты палітаддзела 1-ай Менскай МТС.

# Газета моцна ўвайшла ў калгаснае жыццё

У калгасе **«Чырвоны пуцілавец»**, усе добра ведаюць камсамольца **Русаковіча,** рэдактара калгаснай насценгазеты **«За бальшэвіцкі калгас».** Газета моцна ўвайшла ў жыццё калгаса. Пасля кожнага новага нумара насценгазеты ў калгасе — надзвычайнае ажыўленне. Гутараць, абмяркоўваюць заметкі, спрачаюцца.

Газета выходзіць кожную пяцідзёнку і кожны раз — такое ажыўленне. Газета заваявала моцны аўтарытэт, з газетай лічацца, яе паважаюць.

Варта прачытаць некалькі нумароў газеты, каб зразумець, чаму яна карыстаецца такой папулярнасцю. Яна аператыўна асвятляе ўсе пытанні калгаснага жыцця.

Газета з дня ў дзень змагаецца за добрую арганізацыю работы, за своечасовае і добраякаснае выкананне сельскагаспадарчых работ.

Разгортваецца падрыхтоўка да ўборкі. Газета выступае з матэрыяламі, у якіх выкрывае ўсе недахопы падрыхтоўчых работ.

Газета ставіць пытанне аб рамонце інвентара, аб сярпах, аб косах, аб жняярках, аб добрым доглядзе коней. Газета сістэматычна паказвае, як ідзе выкананне сельскагаспадарчых работ.

Яна не абмяжоўваецца толькі тым, што смела і рашуча выкрывае недахопы. На старонках газеты паказваюцца і добрыя прыклады работы. У заметцы «Баявы пачын» газета расказвае аб тым, як піонеры калгаса змагаюцца са стратамі, колькі кожны піонер сабраў каласоў.

Набліжаецца ўборка бульбы. Газета сігналізуе, што падрыхтоўка да ўборкі не разгорнута, што праўленне калгаса не клапоціцца аб гэтай справе. Разам з «лёгкай кавалерыяй» праводзіцца рэйд

па праверцы падрыхтоўкі да ўборкі бульбы. На старонках калгаснай газеты падагульваюцца вынікі рэйда, уносяцца канкрэтныя прапановы.

Насценгазета калгаса «Чырвоны пуцілавец» займаецца не толькі вытворчымі пытаннямі. Яна штодзенна змагаецца за культуру ў калгасе, асвятляе пытанне масавай работы, дабіваецца таго, каб укараніць у калгас кнігу, кіно, радыё. Глыбока, па-дзелавому ўзялася газета за падрыхтоўку да зімы.

Рэдкалегія выпрацавала план падрыхтоўкі да ўсебеларускага злёта рабселькораў. Адным з галоўных пунктаў гэтага плана з'яўляецца арганізацыя паходу за культуру, за чыстату ў калгаснай вёсцы.

Газета пачынае з праўлення калгаса. Праўленне калгаса далёка не дае прыкладу культурнасці. Нават калі заходзіць калгаснік у праўленне, яму няма дзе сесці.

І вось у заметцы «Пастаіш — большы вырасцеш» газета крытыкуе праўленне. Зн'зу пад гэтай заметкай — карыкатура: «Як праўленне засядае, праўленне сядзіць, а калгаснікі — хто на стале, хто на вокнах, хто на печы, а хто па падлозе.

Газета калгаса «Чырвоны пуцілавец» шчыльна ўвайшла ў калгаснае жыццё, у калгасны быт.

## ПЛАН РАБОТЫ РЭДКАЛЕГІІ НАСЦЕНГАЗЕТЫ КАЛГАСА «ЧЫРВОНЫ ПУЦІЛАВЕЦ»—«ЗА БОЛЬШЭВІЦКІ КАЛГАС» З 15 ВЕРАСНЯ ПА 5 КАСТРЫЧНІКА.

1. Вынесці на абгаварэнне праўлення калгаса і схода калгаснікаў матэрыялы, на якія да гэтага часу не рэагавалі. Пасля чаго выступіць у палітаддзельскай газеце аб становішчы самакрытыкі ў калгасе. (Тэрмін выканання 16-га. Выконвае **Русановіч).**

2. З 17 па 20 верасня правесці нараду селькораў калгаса, дзе паставіць пытанне аб падрыхтоўцы да з'езда селькораў і прапрацаваць пытанне падрыхтоўкі да зімоўкі жывёлы і парадак правядзення культпахода. Правесці выбары членаў рэдкалегій брыгадных газет і дапамагчы ім выпусціць газеты. Выбраць дэлегатаў на злёт селькораў МТС (выконваюць **Русановіч,** члены рэдкалегіі: **Позняк** і **Мяснікоўскі).**

3. Выпусціць спецыяльную калгасную газету аб арганізацыі продажу хлеба дзяржаве, арганізаваўшы выступленне калгаснікаў — колькі хлеба яны прадаюць і што яны хацелі-б набыць у кааперацыі (з 17 па 20, выконвае **Русановіч,** а члены рэдкалегіі арганізоўваюць матэрыялы па брыгадах).

4. З 20 па 23 арганізаваць рэйд селькораў і «лёгкай кавалерыі» па праверцы гатоўнасці да зімоўкі жывёлы. Члены рэдкалегіі з'яўляюцца кіраўнікамі рэйда па брыгадах. У кожнай брыгадзе па матэрыялах рэйда выпускаюцца газеты (з 23 па 25) (выконваюць: **Русановіч, Мяснікоўскі, Пазняк, Аляшкевіч),** пасля чаго выпускаецца агульнакалгасная газета з вынікамі рэйда.

27-га брыгада рэйда піша калектыўную карэспандэнцыю аб становішчы падрыхтоўкі да зімоўкі жывёлы ў палітаддзельскую газету **«Ударнік калгасных палёў».**

5. Па дагаворанасці з праўленнем калгаса правесці вытворчыя нарады ў брыгадах, з удзелам членаў рэдкалегіі, аб становішчы засыпкі насенных, кармовых і фуражных фондаў і падрыхтоўкі да размеркавання ўраджаю. Сабраць па гэтаму пытанню прапановы калгаснікаў і выпусціць спецыяльную насценгазету (з 27 па 30—**Русановіч).**

6. Арганізаваць збор прапаноў, выступленне моладзі, піонераў, школьнікаў па культурнаму правядзенню зімы калгаснікамі (культпаход за чыстату ў хаце, на двары, за ўкараненне культуры ў калгаснай хаце).

**МІНКІН**

Рэдактар шматтыражкі «Рабочае вока» (Менск, завод «Большэвік»).

# ПРАВЕРАН КОЖНЫ ЎЧАСТАК

**Вопыт работы рабкораў „Большэвіка" па падрыхтоўцы завода і кватэр рабочых да зімы**

Брыгада рабкораў склада сыравіны завода «Большэвік» **(Куксін, Шпарберг, Люблінерман, Габай і Варановіч)** ўзялася за праверку падрыхтоўкі склада да зімы. Брыгада выявіла: шыбы ў вокнах на 50 проц. выбіты, дзверы дрэнна зачыняюцца, у цэху антысанітарыя і т. д. Напісалі аб гэтым у штодзенку склада сыравіны і шматтыражку завода. Рэдактар цэхавай газеты тав. **Люблінерман** патрабаваў ад адміністрацыі і прафорга неадкладнага рэагавання на змешчаны ў газеце матэрыял. Адміністрацыя цэха (Новасельскі, Шэпелін) на патрабаванне штодзенкі адказала: «Да зімы яшчэ паспеем». Праз пяць дзён у штодзенцы была змешчана заметка, што адміністрацыя сабатуе выкананне прапаноў рэйдавай брыгады. Гэта заметка ўздзейнічала. Дзверы і вокны на складзе адрамантаваны.

Рабкораўская брыгада накіравалася на кватэру к рабочаму Фельдману. Кватэра была не падрыхтавана да зімы. Брыгада пашла да старшыні жакта і прымусіла яго асабіста заглянуць у кватэру т. Фельдмана. У выніку праз пару дзён Фельдман заявіў рэдактару Люблінерману: кватэра мая адрамантавана.

У другім хромавым цэху таксама была арганізавана рабкораўская брыгада. Тт. **Рубінчык, Дабралюбаў, Гурвіч, Каган і Рабіновіч** праверылі падрыхтоўку свайго цэха да зімы. Гэты цэх лічыўся ўжо гатовым. Але рабкоры выкрылі, што дзверы і вокны ў цэху асталіся не адрамантаванымі. Начальнік цэха тав. Душацкі на аснове матэрыялаў брыгады ўзяўся нанава за рамонт і зараз цэх у асноўным да зімы гатоў. У цэху былі ўстаноўлены рабкораўскія пасты, якія сачылі за якасцю рамонту, своечасова сігналізавалі праз газету аб недахопах.

Шматтыражка **«РАБОЧАЕ ВОКА»** ўнесла прапанову адкрыць на заводзе шавецкую і кравецкую майстэрні для рамонту абутку і вопратка рабочых. Прапанову газеты кіраўніцтва завода падтрымала. З 25 жніўня шавецкая майстэрня пачала работу. За першыя шэсць дзён яна адрамантавала 50 пар абутку.

Пад свой кантроль рабкоры ўзялі і падрыхтоўку ЗРК да зімы.

У рэйдзе па праверцы ЗРК прымала ўдзел 25 рабкораў. Яны выкрылі, што склады не падрыхтаваны да прыёмкі гароднiны, дрэнна ідзе рамонт тары, дрэнна праводзіцца загатоўка гуркоў і т. д. Трохкутнік завода разам з праўленнем ЗРК абгаварыў матэрыял рэйдавых брыгад і прыняў канкрэтныя меры. Гароднехавальня змяшчэннем у 218 тон занава адрамантавана, ачышчана і пабелена. Ужо засолены 23 тоны гуркоў, адрамантаваны чаны для капусты.

Па віне старшыні ЗРК тав. Лібкера затрымлівалася выдача рабочым торфу на паліва пад прадлогам адсутнасці скрыні для развозкі торфу. Шматтыражка выпусціла экстраны бюлетэнь з вострай карыкатурай на Лібкера. Праз дзве гадзіны была пачата выдача торфу.

Брыгада рабкораў **(Пятроў, Гефен і Эйдзінаў)** накіравалася ў Наркамлегпром да тав. **БАЛЦІНА** па пытанню дапамогі рабочым у падрыхтоўцы да зімы. Брыгада дабілася ад тав. Балціна водпуску 7 тыс. рублёў, 3 скрынь цвікоў, 50 квадратовых метраў шкла і інш. матэрыялаў для рамонту рабочых кватэр.

13 кватэр рабочых завода ўжо адрамантаваны, 50 рабочым адпушчаны розныя матэрыялы (дошкі, цвікі, бляха), рэалізавана 500 пар дзіцячага абутку. З жактамі №№ 16 і 55 заключан дагавор на рамонт 25 рабочых кватэр. Завод выдзеліў многа будаўнічых матэрыялаў, даў муляра, бляхера і столяра для дапамогі ў рамонце. Палівам завод забяспечан на два з паловай месяцы. І вялікая роля ў гэтых дасягненнях належыць нізавому друку і рабкорам завода, іх барацьбе за падрыхтоўку завода да зімы

## З практыкі работы друку

**ФЕЛЛЕР**
адказны рэдактар шматтыражкі
завода імя Варашылава

# БАЕЦ ЗА АЎЛАДАННЕ ТЭХНІКАЙ

Лепшыя зотаўцы завода імя Варашылава звярнуліся з пісьмом да ўсіх рабочых цяжкай прамысловасці БССР аб скліканні ўсебеларускага злёта зотаўцаў цяжкай прамысловасці. У гэтым пісьме варашылаўцы ўзялі на сябе адказнае абавязацельства: да XVII гадавіны Октябрскай рэволюцыі ператварыць завод у завод суцэльнай тэхнічнай граматнасці.

Барацьба за выкананне гэтага аба-


ВЫПУСК ПЕРШАГА НУМАРА ТЭХГАЗЕТЫ—

**Шматтыражка завода імя Варашылава «Варашылавец за суцэльную тэхпісьменнасць».**

вязацельства з'яўляецца сур'ёзнейшай часткай работы нізавога друку і рабкораў завода імя Варашылава па падрыхтоўцы да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў. І трэба сказаць, што асобныя насценныя газеты паказалі ўжо ўзоры баявой, аператыўнай работы ў барацьбе за аўладанне тэхнікай вытворчасці.

У цэху шырспажыва не праводзіліся заняткі па тэхмінімуму, не было праграмы для тэхгуртка. Цэхавая газета **«Гудок»** выступіла па гэтаму пытанню, выпусціла спецыяльны, па-мастацку аформлены бюлетэнь **«Б'ём па шляпах»** з фотаздымкамі, карыкатурамі, у якім моцна прабрала трыкутнік цэха і тэхпропа завода тав. Казлова.

Выступленне газеты дапамагло. Тэхвучоба ў цэху была арганізавана.

Не было тэхвучобы і ў кузні. І «Гудок» выступае на старонках заводскай шматтыражкі, патрабуе арганізаваць тэхвучобу рабочых кузні. Зараз і ў кузні пачынаюцца заняткі па тэхвучобе.

Нядрэнна змагаецца за аўладанне тэхнікай і газета кацельнага цэха **«Чырвоны молат»** (рэдактар т. **Грынберг).** Дрэнна толькі тое, што трыкутнік цэха недастаткова рэагуе на выступленні газеты.

У двух нумарах падрад «Чырвоны молат» сігналізаваў аб агідным становішчы з тэхвучобай у цэху, аб тым, што заняткі зрываюцца па віне кіраўнікоў гурткоў і т. д. Толькі пасля ўмяшання шматтыражкі справа тэхвучобы некалькі палепшылася.

Не ўсе насценгазеты разгарнулі работу так, як «Гудок». Дрэнна змагаюцца за выкананне ўзятых варашылаўцамі абавязацельстваў газеты **«Вагранка»**—ліцейнага цэха (рэдактар тав. **Зстэркін**), **«Ударнік»**—2-ой групы токараў (рэдактар т. **Грашчэнка**).

На дапамогу нізавым газетам, рабочым завода ў барацьбе за аўладанне тэхнікай вытворчасці прышла шматтыражка. Мы рашылі выпускаць сістэматычна спецыяльную тэхнічную газету **«Варашылавец за суцэльную тэхпісьменнасць».** Намецілі задачы газеты: паказваць лепшы вопыт арганізацыі тэхвучобы, барацьбы за высокую якасць прадукцыі, за высокую прадукцыйнасць працы (выступленні інжынер-

на-тэхнічных работнікаў, майстроў, брыгадзіраў, лепшых зотаўцаў). Змяшчаць матэрыялы навукова-тэхнічнага характару ў дапамогу рабочым, вывучаючым тэхніку вытворчасці; асвятляць навіны навукі і тэхнікі; даваць адказы на пытанні рабочых па тэхніцы, весці кансультацыі і т. д.

Партком завода горача падтрымаў ініцыятыву шматтыражкі, вылучыў рэдактара тэхнічнай газеты—інжынера-камуніста т. **АЙЗМАНА.**

Жыва адгукнуліся на пастанову парткома аб выданні тэхнічнай газеты інжынерна-тэхнічныя работнікі завода. На працягу 3—4 дзён у рэдакцыю паступіла 7 тэхнічных артыкулаў па розных галінах нашай вытворчасці.

20 верасня вышаў першы нумар газеты «Варашылавец за суцэльную тэхпісьменнасць». Змест гэтага нумара самы рознастайны: пачынаючы ад артыкула тэхнічнага дырэктара завода т. **Вяліцкага** «Аб узаемазамяняемасці дэталей і частак машын», інжынераў т. **Валчка** «Што такое тэхнічная норма» і т. **Мінкова** аб матэрыялах, выкарыстоўваемых на нашым заводзе, да артыкула тэхпропа завода т. **Казлова** «Як і чым лепш змазваць станкі і машыны» і артыкула тэхніка т. **Рытэнбанда** для ліцейшчыкаў аб тым, як і якую зямлю лепш падбіраць для фармоўкі.

Да артыкула т. Айзмана аб электразваркі на нашым заводзе былі даны два спецыяльныя чарцяжы, растлумачваючыя змест артыкула. Усе артыкулы напісаны вельмі сцісла, папулярна.

У першым-жа нумары тэхнічнай газеты мы звярнуліся да рабочых з заклікам выказацца па сутнасці зместу і формы падачы матэрыялаў, аб тым, якія пытанні іх цікавяць.

Першыя водгукі паступілі ўжо.

Вось пісьмо слесара-ўдарніка т. **Анісенка:**

«Добрая і каштоўная газета—піша т. Анісенка—вельмі зразумелы артыкул аб прымесах у чыгуне, аб спосабах атрымання лепшай формы».

Тав. Анікееў прапануе ўвесці ў газеце аддзел вынаходстваў і ўдасканаленняў на іншых заводах СССР.

Кацельшчык т. **Красноўскі** прапануе больш асвятляць у газеце справу электразваркі, заняцца пытаннем больш энергічнага ўкаранення электразваркі ў нашу вытворчасць.

Больш шырока пісаць артыкулы, даваць больш ілюстрацый да іх—вось аб чым просяць рабочыя, вітаючы выпуск першага нумара газеты «Варашылавец за суцэльную тэхпісьменнасць».

Гэтыя патрабаванні рабочых «Варашылавец» улічыць пры выпуску чарговых нумароў тэхнічнай газеты, у сваёй барацьбе за тое, каб да 17 гадавіны Кастрычніка ператварыць завод у завод суцэльнай тэхнічнай граматнасці.

**Н. ПУЗІКАЎ**

Рэдактар газеты „Ударнік соўгаса" (соўгас „Бацэвічы", Клічаўскі р-н)

# Клішэ на дрэве

Рысунак і карыкатуры карыстаюцца вялікай увагай у чытачоў нашай палітаддзельскай газеты **«Ўдарнік соўгаса».**

Калі газета выходзіць з рысункамі, то яе чытаюць з асаблівай цікавасцю.

— Каго гэта так разрысавалі?

Кожны спяшаецца хутчэй прачытаць заметку пад рысункам.

Перад намі сур'ёзна стала пытанне дабіцца, каб у кожным нумары газеты былі карыкатуры і рысункі.

Але цынкаграфія знаходзіцца далёка ад соўгаса. Цынку не хапае.

Прышлося вышукваць іншыя шляхі. Вялікую дапамогу нам аказала «Союзфото». Яно пасылае гатовыя клішэ для палітаддзельскіх газет. Сярод гэтых клішэ ёсць рысункі, партрэты і карыкатуры. Клішэ «Союзфото» значна ажывілі газету.

Але агульны стандарт, асабліва карыкатур, не заўсёды падыходзіў да канкрэтнай абстаноўкі нашага соўгаса. Мы адчувалі вострую неабходнасць рабіць уласныя клішэ.

Ліналеума ў нас не знайшлося, мада-

коў таксама не было. За справу ўзяўся аўтар гэтых радкоў.

Я рашыў рабіць клішэ з дрэва. Я выразаў на дрэве загаловак для аднаго ар-

З гравюры ва «Ўдарніку соўгаса»



«Вага па сістэме Блазенкова—поўкасць рук і ніякага машэнства»

тыкула. Загаловак вышаў нішто. Першая спроба прайшла ўдала.

Потым я пачаў вырэзваць карыкатуры і рысункі.

Першы рысунак я вырэзаў да артыкула «Ціхай сапай», у якім выкрываўся злодзей А. Новікаў. Карыкатура трапіла ў цэль. Ёю зацікавіліся ўсе рабочыя соўгаса. Новікаў быў знят з работы.

Клішэ, выразаныя на дрэве, цяпер можна знайсці ў многіх нумарах нашай газеты. У нумары ад 29 жніўня мы змясцілі старонку **«На пяро рабкораў»**, дзе ўвесь матэрыял ілюструецца клішэ.

Як мы робім клішэ?

Перш за ўсё рысуем на паперы, пажадана танчэйшай, патрэбны рысунак неабходнай велічыні.

Калі рысунак зроблен, яго трэба прышпіліць кнопкамі да выразанага і роўна падагнанага кавалачка дрэва. Пад рысунак падкладаецца капірка і ён абводзіцца алоўкам.

Я прымяняў і другі спосаб. Рысунак проста наклейваўся на дрэва і па рысах малюнка канцом вострага перачыннага нажа на дрэве рабіліся выразы.

Дрэва цяжэй паддаецца апрацоўцы, чым лінолеум і таму пры вырэзванні патрабуецца асаблівая асцярожнасць. Для большай устойлівасці клішэ трэба выразаць так, каб аснаванне чорных месц было шырэй, чым чорныя адпячаткі на паперы.

Дзе чорныя месцы размешчаны густа, там для ўстойлівасці клішэ не трэба глыбока выбіраць драўляную масу. І наадварот, дзе на рысунку павінна быць вялікае белае поле, там неабходна глыбей рабіць выбарку драўлянай масы, каб пад націскам валікаў плоскай друкарскай машыны на клішэ не было памарак.

Вельмі трудна вырэзваць на дрэве дробныя літары, між тым подпісы ў рысунках часта неабходны. У такім выпадку мы маленькай пілкай вырэзваем месца, куды ўстаўляецца набраны тэкст.

Карыстаемся мы для вырабу клішэ клёнам і галоўным чынам альхой. Дрэва павінна быць сухім. Лепш за ўсё для вырабу клішэ падходзіць ліпа.

Для выразкі назвы газеты мы выка-

З гравюры ва «Ўдарніку соўгаса»

Лодыр Руло



«Хоць сонца высока, а для мяне ўсё-ж рана»

рысталі граб, як найбольш моцнае дрэва.

Такім чынам мы зрабілі першы крок у справе вырабу ўласных клішэ з дрэва для газеты.

# Абмяркоўваем план работы

## рэдакцыі палітаддзельскай газеты „Ударнік калгасных палёў“

> ✱ Намі атрыман план аператыўна-масавай работы рэдакцыі газеты палітаддзела першай Менскай МТС «Ударнік калгасных палёў» на верасень-кастрычнік.
> ✱ Змяшчаем гэты план на старонках нашага журнала ў парадку абгаварэння.
> ✱ Просім работнікаў раённых і палітаддзельскіх газет выказацца па сутнасці плана на старонках «Бальшавіцкага друку» і адначасова прыслаць нам планы сваёй работы.

## План арганізацыйна-масавай работы рэдакцыі газеты палітаддзела Менскай МТС на верасень і кастрычнік

1. Дэтальна вывучыць, чаму не завершана калектывізацыя на зоне дзейнасці МТС.

а) Выехаць у Гатаўскі сельсовет, правесці сходы аднаасобнікаў.

б) Праверыць практыку выключэння з калгасаў імя Войкава, «Чырвоны партызан», імя Крупскай, «Першае мая», «Чырвоны баец».

в) Сумесна з палітаддзелам паставіць пытанне аб арганізацыі прыліву ў калгасы.

г) Выступіць з разгорнутым матэрыялам і ўскрыць прычыны на аснове выяўленых фактаў.

(Праводзіцца з 11 па 13 верасня. Праводзіць **Чаўскі**).

2. Арганізаваць трыбуну парторгаў і рэдактароў брыгадных штодзенак і калгасных газет аб іх рабоце па падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў.

(Праводзіцца на працягу ўсяго перыяда падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў).

3. Правесці спецыяльную нараду з актывам Падгайскага сельсовета па пытанню ўступлення ў калгас і іх ролі па ўцягненню ў калгасы працоўных аднаасобнікаў.

(14—15 верасня, **Маеўскі**).

4. Арганізаваць выступленні загадчыкаў ферм калгасаў «Чырвоная зорка» і «Чырвоны пуцілавец» аб падрыхтоўцы да зімоўкі жывёлы. Сумесна з імі прапрацаваць наяўнасць і патрэбнасць у кармах і памяшканнях.

(16—18 верасня; праводзіць **Чаускі**).

5. Разгарнуць работу па ўцягненню лепшага беспартыйнага актыва ў групы спачуваючых. Правесці вузкую нараду з асобамі, якія падаюць заявы ў групы спачуваючых: іх пажаданні ў сэнсе арганізацыі вучобы, нясення грамадскіх нагрузак і т. д.

(18—19 верасня; праводзіць **Чаускі**).

6. Арганізаваць выступленне калгасаў аб продажы хлеба дзяржаве. Праверыць ход хлебазакупак, удзел спажыўкааперацыі і атаварванне ў Строчыцкім і Падгайскім сельсоветах.

(20—25 верасня, праводзяць **Чаўскі, Маеўскі**).

7. Арганізаваць месячную завочную нараду па жывёлагадоўлі з выступленнямі ў газеце работнікаў ферм, конюхаў па пытанню ходу выканання пастаноў пленума ЦК аб жывёлагадоўлі.

(Завочную нараду пачаць 26 верасня. Арганізоўваюць **Чаўскі і Маеўскі**).

УВАГА: Завочную жывёлагадоўчую нараду рэдакцыя праводзіць наступным чынам: на працягу месяца ў кожным нумары даюцца разгорнутыя выступленні загадчыкаў і работнікаў ферм. Слова ў спрэчках даецца селькорам. Змяшчаюцца выступленні парторгаў, рэдактароў насценгазет аб разгортванні партыйна-масавай работы на фермах. Праводзіцца работа па знішчэнню недахопаў, адзначаных у газеце і ў нязмешчаных матэрыялах. Праводзіцца рэйд селькораў і «лёгкай кавалерыі» па пытаннях падрыхтоўкі да зімы, удзельнікам рэйда прадастаўляецца слова на завочнай нарадзе. У апошні дзень нарады рэдакцыя бярэ заключнае слова і змяшчае прапановы на аснове матэрыялаў, распрацаваных су-

месна з больш моцнымі загадчыкамі ферм.

8. У парадку падрыхтоўкі да з'езда селькораў правесці пашыраныя пасяджэнні праўленняў калгасаў сумесна з членамі рэдкалегій калгасных і брыгадных газет і ўсім актывам калгасаў з пытаннямі: становішча з разгортваннем самакрытыкі ў калгасе, рэагаванне на допісы і далейшыя мерапрыемствы па разгортванню нізавога друку.

(З 27 верасня па 3 кастрычніка, праводзяць **Маеўскі** ў Падгайскім і Гатаўскім сельсоветах, **Чаускі**—у Строчыцкімі і Самахвалавіцкім сельсоветах).

У гэты-ж перыяд праводзяцца перавыбары членаў рэдкалегій брыгадных і калгасных газет.

9. У парадку падрыхтоўкі да з'езда селькораў правесці нарады селькораў на ўсіх сельсоветах зоны дзейнасці МТС наступным парадкам:

У першы вечар прадстаўнік рэдакцыі склікае ўсіх селькораў, прапрацоўвае з імі два пытанні: а) падрыхтоўка да зімоўкі жывёлы і б) размеркаванне ўраджаю.

На заўтра праводзіцца рэйд селькораў і «лёгкай кавалерыі» па двух пытаннях: а) ход выканання пастаноў апошніх пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, б) засыпка насенных, страхавых і фуражных фондаў, якасць іх захавання і падрыхтоўка да размеркавання ўраджаю.

На аснове выяўленых фактаў распрацоўваюцца мерапрыемствы па знішчэнню заўважаных недахопаў, выпускаюцца спецыяльныя насценгазеты па рэйдаўскіх матэрыялах.

УВАГА: Перад пачаткам рэйда газета распрацоўвае пісьмо да ўсіх селькораў і членаў рэдкалегій і памятку рэйда, рассылае гэта спецыяльным выпускам газеты, надрукаванай на ратататары.

(Праводзіцца з 1 па 5 кастрычніка. Праводзяць: **Чаўскі, Маеўскі, работнікі палітаддзела і прадстаўнікі шэфскіх арганізацый).**

10. Злёт селькораў раёна дзейнасці МТС. Выстаўка насценных газет. Кансультацыя па пытанню форм і метадаў работы нізавога друку.

(Праводзіцца 7 кастрычніка).

11. Разгарнуць выступленні комсамольскіх арганізацый аб культурным і вясёлым правядзенні зімы моладдзю, арганізаваць на старонках газеты культпаход калгаснікаў за чыстую хату, двор, за ўкараненне культуры ў быт калгаснікаў.

(З 10 па 15 кастрычніка; праводзяць Чаўскі, Маеўскі).

12. Праверыць гатоўнасць да агразоатэхнічнай вучобы і партасветы, наяўнасць выкладчыкаў, памяшканняў і абсталявання. Арганізаваць выступленні асобных членаў партыі, парторгаў, беспартыйнага актыва з іх пажаданнямі аб арганізацыі вучобы.

(З 15 па 20 кастрычніка; праводзяць **Загаранскі** ў Грычыне і Самахвалавічах, **Маеўскі** ў Сенніцы і Падгаях).

13. Нарада загадчыкаў буйных ферм па распрацоўцы прапаноў па матэрыялах завочнай нарады.

(21 кастрычніка; праводзіць Чаўскі).

14. Дэтальная праверка вынікаў работы трактарнага парка і падрыхтоўку да рамонту трактароў.

(22 па 25 кастрычніка; **Маеўскі, Крывашэін, Крываносаў).**

15. Рэдакцыя сумесна з дырэкцыяй МТС склікае нараду агратэхнічнага персанала па пытанню арганізацыі агратэхнічнага кутка ў газеце і ўдзеле аграномаў.

(26 кастрычніка; праводзіць Чаўскі).

16. Сумесна з газетай **«Варашылавец»** арганізаваць сустрэчу лепшых ударнікаў калгасаў імя Фалько і «Другая пяцігодка» з ударнікамі завода імя Варашылава па пытаннях барацьбы калгаснікаў-ударнікаў за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, барацьбы ўдарнікаў завода за промфінплан.

УВАГА: Рэдакцыя намячае пасля сустрэчы на заводзе арганізаваць сустрэчу і на кватэрах рабочых з тым, каб калгаснік па прыкладу рабочых змог-бы ў сябе дома перабудаваць свой хатні дабрабыт.

(Праводзіцца 28 кастрычніка, праводзяць **Фэллер і Чаускі).**

**Адказны рэдактар газеты палітаддзела Менскай МТС ЧАУСКІ.**

[illegible] рэдактара

# Пісьмо да таварышоў

## Да выхаду органа партыйнай большасці.

ПІСЬМО В. І. ЛЕНІНА АБ ГАЗЕЦЕ «ВПЕРЕД».

Дарагія таварышы! Сёння на сходзе цеснага кола замежных большэвікоў канчаткова вырашана пытанне, даўно ўжо вырашанае ў прынцыпе, аб заснаванні перыядычнага партыйнага органа, прысвечанага адстойванню і развіццю прынцыпаў большасці ў барацьбе са смутай арганізацыйнай і тактычнай, унесенай у партыю меншасцю, і абслугоўванню дадатнай работы рускіх арганізацый, супроць якіх вядзецца цяпер ледзь не ўсюды на ўсёй Расіі такая жорсткая барацьба з боку агентаў меншасці, барацьба, страшэнна дэзарганізуючая партыю ў такі важны гістарычны момант, барацьба, якая цалкам вядзецца самымі бессаромнымі сродкамі і прыёмамі расколу пры двуліцым аплакванні расколу ў так званым ЦО партыі. Мы зрабілі ўсё магчымае, каб правесці барацьбу партыйным шляхам, мы са студзеня месяца змагаемся за з'езд, як адзіны дастойны партыйны выхад з немагчымага становішча. Цяпер яснен яснага ўжо стала, што амаль уся дзейнасць перабегшага да меншасці ЦК прысвечана адчайнай барацьбе супроць з'езда, што Совет ідзе на ўсе самыя немагчымыя і недазваляльныя прадзелкі для адцягвання з'езда. Совет проста зрывае з'езд: хто не пераканаўся яшчэ ў гэтым з чытання яго апошніх пастаноў у дадатку да №№ 73—74 «Искры», той убачыць гэта з нашай (вышаўшай на днях) брашуры Орлоўскага: «Совет супроць партыі». Цяпер ясней яснага стала, што без аб'яднання і адпору нашым так званым цэнтральным установам большасць не можа адстаяць сваёй пазіцыі, адстаяць партыйнасць у яе барацьбе з гуртко-ўшчынай. Аб'яднанне рускіх большэвікоў ужо даўно пастаўлена імі на парадак дня. Прыпомніце аграмаднае спачуванне, якім была спаткана праграмная (ў сэнсе праграмы нашай унутрыпартыйнай барацьбы) рэзалюцыя 22-х; прыпомніце выданую друкавана Маскоўскім камітэтам (кастрычнік 1904 года) пракламацыю 19-ці; урэшце, амаль усім камітэтам партыі вядома, што ў самы апошні час адбыўся і часткова яшчэ адбываецца рад прыватных канферэнцый паміж камітэтамі большасці, робяцца самыя энергічныя і пэўныя спробы моцнага згуртавання паміж сабою камітэтаў большасці для адпору зарваўшымся банапартыстам у Совеце, ЦО і ЦК.

Мы спадзяемся, што вельмі ў недалёкім будучым гэтыя спробы (вярней, гэтыя крокі) будуць агалошаны да ўсеагульнага ведама, калі рэзультаты іх дазволяць выказацца пэўна аб тым, што ўжо дасягнута. Без асобага выдавецтва самаабарона большасці была, разумеецца, зусім немагчыма. Новы ЦК, як вы, можа быць, ужо ведаеце з нашай партыйнай літаратуры, проста выгнаў нашы брашуры (і нават вокладкі ўжо набраных брашур) з партыйнай друкарні,ператварыўшы яе такім чынам у гуртковую друкарню і адхіліў прамыя прапановы з замежнай большасці і рускіх камітэтаў, напр.: Рыжскага аб дастаўцы ў Расію літаратуры большасці. Падробка грамадскай думкі партыі вырысавалася зусім акрэслена, як сістэматычная тактыка новага ЦК. Неабходнасць пашыраць сваё выдавецтва, арганізаваць свой транспарт насунулася на нас немінуча. Камітэты, парваўшыя з рэдакцыяй ЦО таварыскія адносіны (гл. прызнанне Дана ў справаздачы аб сходзе ў Жэневе 2-ІХ—1904—цікавая брашура), не маглі і не могуць абыходзіцца без перыядычнага органа. Партыя без органа, орган без партыі! Гэты сумны факт яшчэ ў жніўні адзначаны большасцю, нязмольна вёў да адзінага выха-

цу—да заснавання свайго органа. Маладыя літаратурныя сілы, прыбываўшыя з-за граніцы для падтрымання кроўнай справы большасці рускіх работнікаў, патрабуюць сабе прыкладання. Рад рускіх партыйных літаратараў таксама настойліва патрабуюць органа.

Аспоўваючы такі орган, пад назвай, магчыма, «Вперед», мы дзейнічаем у поўнай згодзе з масай рускіх большэвікоў, у поўнай згодзе з нашымі паводзінамі ў партыйнай барацьбе. Мы ўзяліся за гэту зброю, выпрабаваўшы на працягу года усе, абсалютна ўсе больш простыя, больш эканомныя для партыі, больш адпавядаючыя інтарэсам рабочага руху, шляхі. Мы ні ў якім разе не пакідаем барацьбы за з'езд і, наадварот, хочам расшырыць, абагуліць і падтрымаць гэту барацьбу, хочам дапамагчы камітэтам вырашыць паўстаючае перад імі новае пытанне аб з'ездзе паміма Совета і ЦК,—супроць волі Совета і ЦК,—пытанне, якое патрабуе ўсебаковага сур'ёзнага абгаварэння. Мы выступаем адкрыта ў імя поглядаў і задач, даўно ўжо ў радзе брашур выкладаных перад усёй партыяй. Мы змагаемся і будзем змагацца за вытрыманы рэволюцыйны кірунак супроць смуты і хістанняў у пытаннях і арганізацыйных і тактычных (гл. страшэнна блытанае пісьмо «Новой Искры» да партыйных арганізацый, надрукаванае толькі для членаў партыі і скрытае ад вачэй свету). Аб'ява аб выхадзе новага органа выйдзе, мабыць, праз тыдзень або каля таго. Першы нумар чысла 1—10 студзеня новага стыля. У рэдакцыйнай калегіі прымуць удзел усе высунуўшыеся да гэтага часу літаратары большасці (Радавы, Галерка, Ленін, Орлоўскі, працаваўшы рэгулярна ў «Искре» з 46—51 нумара, калі яе вялі Ленін і Плеханаў, і яшчэ вельмі цэнныя маладыя літаратурныя сілы). Калегія практычнага кіраўніцтва і арганізацыі складанай справы распаўсюджання, агентуры і інш. і інш. складзецца (часткова склалася ўжо) на аснове прамога даручэння пэўных функцый паўным таварышам, цэлым радам рускіх камітэтаў (Одэскі, Екацерынаслаўскі, Нікалаеўскі, 4 Каўказскіх камітэты і некалькі паўночных, аб якіх вы хутка даведаецеся грунтоўна). Мы звараемся цяпер да ўсіх таварышоў з просьбай аб усякім падтрыманні. Мы будзем весці орган пры ўмове, каб ён быў, органам рускага руху, а ні ў якім разе не загранічнага гуртка. Для гэтага неабходна перш за ўсё і больш за ўсё самае энергічнае «літаратурнае» падтрыманне, больш правільна літаратурны ўдзел з Расіі. Я падкрэсліваю, і стаўлю ў двукоссі слова «літаратурнае», каб звярнуць адразу ўвагу на асобы сэнс яго і перасцерагчы ад непаразумення, вельмі звычайнага і страшэнна шкоднага для справы. Гэта непаразуменне, што нібы іменна літаратары і толькі літаратары (у прафесіянальным сэнсе гэтага слова) здольны з поспехам удзельнічаць у органе; наадварот, орган будзе жывым і жыццёвым тады, калі на пяток кіруючых і настаянна пішучых літаратараў—пяцьсот і пяць тысяч работнікаў не літаратараў. Адзін з недахопаў старой «Искры», ад якога я заўсёды стараўся яе пазбавіць (і які вырас у страшэнныя размеры ў новай «Искре»), гэта—слабая работа над ёй з Расіі. Мы друкавалі, бывала, заўсёды амаль без выключэння ўсё прысылаемае з Расіі. Орган сапраўды жывы павінен друкаваць 1/10 прысылаемага, утылізуючы астатняе для інфармацыі і ўказання літаратарам. Неабходна, каб з намі перапісваўся як можна большы лік партыйных работнікаў, іменна «перапісваўся» ў звычайным значэнні, у не літаратурным значэнні гэтага слова.

Адчужанасць ад Расіі, захапляючая атмасфера праклятага загранічнага балота да таго давяць тут, што адзіны ратунак—жывыя зносіны з Расіяй. Няхай не забываюць гэтага тыя, хто не на словах толькі, а на справе хоча лічыць (і хоча **зрабіць**) наш орган—органам усёй «большасці», органам масы рускіх работнікаў. Няхай усякі, хто лічыць гэты орган сваім і хто ўсведамляе абавязкі соцыял-дэмакрата—члена партыі, адмовіцца раз назаўсёды ад буржуазнай прывычкі думаць і дзейнічаць так, як гэта прынята ў адносінах да легальных газет: моў, іх справа напісаць, а наша прачытаць. Над с.-д. газетай павінны працаваць усе соцыял-дэмакраты. Мы просім карэспандаваць усіх, а асабліва рабочых. Давайце шырэй магчымасць рабочым пісаць у нашу газету, пісаць аб усім абсалютна, пісаць як можна больш аб будзённым сваім жыцці, інтарэсах і рабоце—без гэтага матэрыялу грош будзе цана соцыял-дэмакратычнаму органу, і ён не будзе заслугоўваць

назвы соцыял-дэмакратычнага. Мы просім пісаць апрача таго, для **перапіскі,** заўсёды ма не карэспандэнцыі, г. зн. не для друку, а для таварыскіх зносін з рэдакцыяй і асведамлення яе, асведамлення не толькі аб фактах, падзеях, але і аб настроях і аб будзённай «не цікавай», звычайнай, рутыннай старане руху. Не пабываўшы за граніцай, вы ўявіць сабе не можаце, як патрэбны нам такія пісьмы (і канспірацыйнага ў іх няма роўна нічога, і напісаць раз у тыдзень, два разы ў тыдзень такое не шыфраванае пісьмо, сапраўды ў поўнай меры магчыма нават для самага занятага чалавека). Пішыце-ж нам аб гутарках на рабочых гуртках, аб характары гэтых гутарак, аб тэме заняткаў, аб запросах рабочых, аб пастаноўцы прапаганды і агітацыі, аб сувязях у грамадстве, у войску і моладзі, пішыце больш за ўсё аб незадаволенні намі, соцыял-дэмакратамі, сярод рабочых, аб іх недаўменнях, запросах, пратэстах і т. д. Пытанні практычнай пастаноўкі справы асабліва цяпер цікавы, і няма іншага сродку азнаёміць рэдакцыю з гэтымі пытаннямі, апрача ажыўленай перапіскі не-карэспандэнцкага характару, а проста таварыскай уласцівасці; зразумела, не ва ўсякага ёсць уменне і ахвота пісаць, але... не гавары не магу, а гавары не хачу; заўсёды, калі захацець, у любым гуртку, у кожнай нават найдрабнейшай, нават другараднейшай групе (другарадныя часта асабліва цікавы, бо яны часамі робяць найбольш важную, хоць і непрыкметную частку справы) можна знайсці аднаго, двух таварышоў, якія-б маглі пісаць. Тут мы паставілі сакратарства адразу на шырокіх пачатках, карыстаючыся вопытам старой «Искры», а вас просім мець на ўвазе, што **кожны,** без выключэння кожны, хто з цярплівасцю і энергіяй возьмецца за справу, даб'ецца без цяжкасці, каб усе яго пісьмы, або 9/10 даходзілі. Гавару гэта на падставе трохгадовага вопыта старой «Искры», меўшай не аднаго такога карэспандэнта-прыяцеля (часта незнаёмага ні з кім з рэдакцыі), веўшага акуратнейшую перапіску. Паліцыя даўно ўжо абсалютна не здольна перахватваць заграгічныя пісьмы (толькі выпадкова бяруць іх пры экстраардынарнай неахайнасці адправіцеля), і гіганцкая доля матэрыялу старой «Искры» заўсёды прыходзіла самым звычайным шляхам у звычайных пісьмах па нашых адрасах. Асабліва перасцерагчы хацелі-б мы ад прыёму канцэнтрацыі перапіскі толькі ў камітэце і толькі ў сакратароў. Няма нічога шкодней такой манаполіі. Наколькі абавязкова адзінства ў дзеянні, у вырашэнні, настолькі яно неверна ў агульным інфармаванні, у перапісцы. Вельмі і вельмі часта бывае, што асабліва цікавыя пісьмы параўнальна «староннiх» (аддаленых ад камітэтаў) людзей, больш **свежа** ўспрымаючых многае такое, што вельмі прывычна і ўпускаецца з-пад увагі вопытным старым работнікам. Давайце пабольш магчымасці пісаць да нас маладым работнікам: і моладзі, і работнікам, і «цэнтралістам», і арганізатарам, і простым радавым членам «лятучак» і «масовак».

Толькі тады і толькі пры ўмове такой шырокай перапіскі можам мы ўсе разам зрабіць нашу газету—сапраўдным органам **рабочага руху ў Расії.** Шчыра просім прачытаць гэта пісьмо ва ўсіх і ўсякіх сходах, гуртках, падгрупах і інш. і інш. як можна шырэй, а нам напісаць, як рабочыя сустрэлі гэты заклік. Да ідэі аддзялення рабочага («папулярнага») органа і агульнага—кіруючага—інтэлігенцкага мы адносімся вельмі скептычна: мы хацелі-б, каб с.-д. газета была органам усяго руху, каб рабочая газета і с.-д. газета зліліся ў адзін орган. Удацца гэта можа толькі пры актыўнейшым падтрыманні рабочага класа.

З таварыскім прывітаннем **Н. Ленін.**

Напісана 12 снежня (29 лістапада) 1904 г.

Надрукавана асобным лістком у снежні 1904 г. Берлінскай Групай Садзейнічання Партыі.

Крытычныя заметкі

П. ЧЫКУН

# МАЙСТРЫ АД ХАЛТУРЫ

Раённая газета **«Большэвік Барысаўшчыны»** сістэматычна частуе свайго чытача «фельетонамі» і «маленькімі фельетонамі» **Сям. Знаёмага.** Пад гэтым псеўдонімам практыкуецца на шырокіх паласах «Большэвіка Барысаўшчыны» адзін з рэдакцыйных работнікаў.

Разгледзім творчасць маладога фельетаніста, якому барысаўская газета ахвотна адводзіць шмат месца на сваіх старонках.

Перад намі пяць вялікіх артыкулаў з адзнакай рэдакцыі. што гэта — проста фельетоны і «маленькія фельетоны». Разглядаць кожны паасобку няма ніякай патрэбы, бо яны, як дзве кроплі, падобны адзін да другога, напісаны аднолькавым, з дазволу сказаць, «штылем».

**«Прапануецца тэрмінова тчк»** — так называецца адзін з «маленькіх фельетонаў» Сям. Знаёмага. Аўтар пачынае з параўнання:

> **«Галава неабходна чалавеку, як паветра, вада, сямейнае шчасце, чарга у Белхарчгандлі за атрыманнем макарон».**

Значыць чарга — рэч неабходная. А калі сказаць наадварот, то разам з чаргой чалавеку не патрэбна і галава, бо аўтар паставіў паміж імі знак роўнасці.

У фельетоне **«Санітарыя і правілы»** аўтар заяўляе, што ён мае «моцнае жаданне пісаць, тварыць, вылучацца». І вось ён «творыць»:

> **«Няма выключэнняў без правіла».**

На думку аўтара, такое скажэнне вядомага афарызма павінна прымусіць чытача смяяцца, а не злаваць. Прыкрая памылка і самога фельетаніста і рэдактара газеты.

> **«У адзін прыгожы дзень года тысяча дзевяцьсот трыццаць чацвертага, месяца верасня, дня сёмага работнікі аддзела загатовак Барысаўскага райвыканкома, як падабае асобам іхняга становішча, сядзелі ў сваім габінеце і абмяркоўвалі пытанне вялікай важнасці. Скажам прама — аб вывазцы памольнага збору з млыноў.**
>
> **Не прытрымліваючыся правілаў, устаноўленых кодэксам законаў аб канцылярска - папярова - чарнільна - бюракратычным вядзенні ўсякіх спраў, ніякія даклады не былі заслуханы, спрэчкі не пачыналіся і не канчаліся, рэзалюцыі не прымаліся і вада ў графіне асталася нявыпітай».**

Не будзем гаварыць пра стыль. Непісьменнасць, неахайнасць, настолькі відавочны, што прыходзіцца толькі дзівіцца той лёгкадумнасці, з якой рэдактар газеты ўхваляе адсябяціну бойкага фельетаніста.

Поводам для фельетона паслужыла адна тэлеграма, памылкова пасланая райвыканкомам у Баранскі сельсовет. У сельсовеце няма млына, а барысаўскі райвыканком тэлеграфна прапанаваў вывезці памольны збор. Аб гэтым можна было сказаць проста і ясна.

Навошта-ж сюсюкаць пра «кодэкс законаў аб канцылярска-папярова-чарнільна-бюракратычным вядзенні ўсякіх спраў»?

А вось другі, з дазволу сказаць, «маленькі фельетон»: **«Санітарыя і правілы».** Тут Сям. Знаёмы недвусэнсоўна сазнаецца:

> **«У некаторых людзей з'яўляецца жаданне пісаць. Моцнае жаданне па меры сваіх сіл і магчымасцей ствараць творы, вартыя нашай вялікай эпохі».**

І вось «па меры сваіх сіл і магчымасцей» ён разбівае пашпэнт наступныя санітарныя правілы, складзеныя сашпунктам для сталовых і інтэрнатаў:

> **«Ачысціць паліцы, скрыні буфета, не заграмаджаць іх пустым начыннем і непатрэбнымі рэчамі. Не курыць. Не пляваць на падлогу».**

Як бачыце, правілы, здаецца, нядрэн-

ныя. Што-ж прымусіла Знаёмага выступіць супроць іх? Ды проста нічога. Аўтару проста захацелася «стварыць твор».

Або ўзяць фельетон **«Дурылава»**. Ён напісан выключна таму, што ў загадчыцы бальніцы прозвішча Дурылава. Гэта не фельетон, а галавацяпскае шальмаванне чалавека, прозвішча якога не па густу фельетаніста.

Кожны «фельетон», акрамя яго беспрынцыпнасці і нікчэмнасці старанна дапаўняецца проста пашлясцінай, парнаграфіяй, накшталт:

> **«Прыглядаемся — у яго ногі вышэй, у яе ніжэй. Што за чорт?» («Парк і культура»).**
>
> **«— Доктара, доктара, — пачулася з другой палаты,—я, я прашу пастав...**
>
> **— Не магу. Свету няма. А ў цемры самі ведаеце — пападзеш не туды, куды трэба». («Дурылава»).**

**Міхаіл Кальцоў**, бічуючы безадказнасць і халтуру некаторых гора-фельетонаў (**«Случай с фельетоном»**, «Правда». 18 верасня 1934 г.) пісаў:

«Па думцы тав. Манькоўскага (як і многіх іншых) для фельетоннага твору патрэбна перш за ўсё і галоўным чынам — ліхая, хлёсткая славеснасць. Набор рэзвых выразаў і, калі можна, астрот. І яшчэ, калі можна, — вытрымак і гуллівых вершыкаў.

Совецкі журналіст ва ўсіх выпадках абавязан выконваць дзве абавязковыя ўмовы:

Па-першае — не хлусіць. Па-другое — пісаць зразумела».

Вось што цвёрда трэба памятаць работнікам і рэдактару барысаўскай газеты

# „МЫ НЕ ПРЫХІЛЬНІКІ СУРОВЫХ МЕР"

Падмайстру комсамольскага камплекта фабрыкі **«Дняпроўская мануфактура»**. **Цёмкіну** было вельмі весела на ўрачыстым вечары ў дзень XX МЮД'а. Ён крычаў, хуліганіў. Карацей кажучы, Цёмкін прышоў на вечар п'яным.

Гэтаму выпадку фабрычная шматтыражка **«ЗА ПРОМФІНПЛАН»** прысвяціла 4 верасня спецыяльны артыкул.

Аказваецца, што Цёмкін 1-га верасня самачынна пакінуў работу на фабрыцы— зрабіў прагул. Газета і аб гэтым напісала. Вы думаеце, яна з усёй рашучасцю абрушылася на зрыўшчыка працоўнай дысцыпліны, на прагульшчыка Цёмкіна? Не. Гэта не ў характары рэдактара газеты тав. **РАБІНОВІЧА**. Ён рашыў, што гэта зробяць самі фабрычныя арганізацыі.

> **«Зразумела, што адміністрацыя цэха прыцягне Цёмкіна да адказнасці. Гэта будзе па яго заслугах. Але зусім не гэтага мы жадаем. Мы не прыхільнікі строгіх мер спагнання».**

Бачыце, газета «За промфінплан» хоча ад Цёмкіна толькі простага і яснага адказу:

> **«Куды яго цягне? Ці к старому, ганебнаму мінуламу, ці к новаму, радаснаму, светламу. Другіх адказаў нам не трэба».**

І калі-б Цёмкін рабіў і далей прагулы, але заявіў-бы пры гэтым, што яго цягне імення к новаму, радаснаму, тады ўсё было-б у парадку. Шматтыражцы «За промфінплан» другіх адказаў не трэба, яна і не «прыхільнік суровых мер» спагнання да прагульшчыкаў, лодыраў, зрыўшчыкаў работы на фабрыцы.




# „Вялікі ураджаи зайца“

Трудна паверыць, каб у рэдакцыі газеты **«Калгаснік Беларусі»** не разумелі, што азначае слова «ураджай». Мы не дапускаем такой думкі. Людзі, безумоўна, разумеюць. На ўсе, так сказаць, сто процантаў. Але, вядомая ісціна, веды трэба прымяняць на практыцы. І вось рэдакцыя газеты «Калгаснік Беларусі» прымяняе.

> **«Суражскі раён багат пушным звяром. У гэтым годзе чакаецца вялікі ўраджай яго».**

І так у Суражскім раёне—«вялікі ўраджай пушнога звера». Гэта цытата ўзята з **«Лістка паляўнічага»**, які выдаецца газетай «Калгаснік Беларусі». Ну, хіба можна сумнявацца ў тым, што рэдакцыя не прымяняе сваіх шырокіх ведаў на практыцы. Скептыкаў мы абяззброім цытатамі з артыкулу **«ВІДЫ НА ЎРАДЖАЙ ПУШНОГА ЗВЕРА»** (глядзі ўсё той-жа «Лісток паляўнічага» № 3 за 30 верасня). Гэты артыкул пачынаецца са слоў:

> **«... Чакаецца вялікі ўраджай пушнага звера, асабліва лісіцы і зайца».**

«Асабліва вялікі ўраджай лісіцы»! Трудна сказаць, што яшчэ пасля гэтага аб'явіць рэдакцыя газеты «Калгаснік Беларусі». Можа вялікі ўраджай на непісьменных рэдакцыйных работнікаў, якім рэдактар «Калгасніка Беларусі» аддаў у поўнае і бескантрольнае распараджэнне «Лісток паляўнічага».

Усё можа быць. Мы, асабіста, напрыклад, чакаем, што ў недалёкім будучым «Калгаснік Беларусі» ўзаконіць такія, з дазволу сказаць, тэрміны, як, напрыклад, «каровамаладняк», «кошкамаладняк», «качкамаладняк» і т. д..

Гэта не фантазія, а меркаванне, якое зыходзіць з грунтоўных падстаў. У тым-жа самым «Лістку паляўнічага» рэдакцыя не толькі ў тэксце, але і ў загалоўку некалькі раз гаворыць пра **«трусамаладняк»** (глядзі артыкул **«Спыніць безадказнае забойства трусамаладняка»).**

Хіба-ж нельга чакаць пасля гэтага, што наступны артыкул будзе прысвечан «кошкамаладняку», або «качкамаладняку».

Ды ці толькі гэта бывае ў «Калгасніку Беларусі?

Артыкул старшыні ЦВК СССР і БССР т. **Чэрвякова «Вышэй сцяг советаў»** рэдакцыя «Калгасніка Беларусі» надрукавала ў двух варыянтах. На першай паласе пачатак артыкула насіў загаловак «Вышэй сцяг сельсоветаў». На другой паласе змяшчаецца працяг таго-ж самага артыкула, але ўжо з іншым загалоўкам («Шырэй сцяг сельсоветаў»). Як бачыце рэдакцыя забыла аб тым, што сама-ж пісала на першай паласе. І толькі праз дзень рэдакцыя схамянулася; дала папраўку, што загаловак трэба чытаць «Вышэй сцяг советаў».

Бывае і так. У газеце змяшчаецца тэлеграма ТАСС аб выступленні міністра аднэй капіталістычнай дзяржавы. Рэдакцыя-ж усюды, дзе ідзе гутарка аб міністры, устаўляе слова «таварыш». Таварыш міністр адным словам... Чаму таварыш? З якога часу так трэба называць міністра капіталістычнай дзяржавы?

Што і гаварыць, усяго можна чакаць ад газеты, рэдакцыя якой прадракае **«асабліва багаты ўраджай лісіцы».**

## Пра якасці бульбы „сваеасабістыя характары бытавога жыцця“ і „цялежку на лёгкім хаду“

Абрыдла работнікам сенненскай райгазеты з нумара ў нумар даваць «шапкі» аб настаўках бульбы дзяржаве. Задумаліся яны над тым, што такое бульба наогул, якія ў ёй якасці.

Бульба—неабходнейшы прадукт харчавання—гэта першае. Бульба—каштоўнейшая кармовая культура—гэта другое. Нарэшце, з бульбы робяць крухмал і т. д. і т. д.

І дадумаліся: важна не бульба сама па сабе, а яе якасці. І ў выніку 11 верасня ў сенненскім **«Комунары»** з'яўляецца такая парада:

> **«Па-баявому разгарнуць уборку бульбы, накіраванне яе самай лепшай якасці проста з поля на здатачныя пункты».**

Бульба, моў, хай паляжыць, а якасці яе адпраўляйце на здатачныя пункты. І коням лягчэй, і вагонаў менш патрабуецца.

Здольнасці аўтара прыведзеных слоў, бляднеюць перад здольнасцямі і фантазіяй аўтара змешчанага ў гэтым-жа нумары «Комунара» артыкула: «Партызанская марка і прыбыткавая крыніца чатырох». Мы не ў сілах перадаць сваімі словамі ўсю «вобразнасць» і «прыгожасць» гэтага артыкула. Дамо лепш слова самому аўтару.

> **«Іх сваеасабістыя характары бытавога жыцця штодзённыя мары аб сваім бюджэце кропля ў кроплю паходзяць адзін на аднаго, не ўзабаве яны загаманілі адной мовай і саставілі цялежку на лёгкім хаду к дадатковай крыніцы павелічэння сваіх бюджэтаў».**

Здзіўляемся мы ўсё-ж лёгкадумнасці і бесклапотнасці рэдактара «Комунара», які змяшчае ў газеце такія артыкулы.

## Малатарня не вытрымала

> **«Малатарням патрэбен быў вялікі рамонт, а на самай справе яны зусім у рамонце не былі. І ў выніку малатарня ў калгасе «Перамога», які толькі распачалі на ёй малаціць, зараз-жа рассыпалася і тады толькі яе пачалі рамантаваць».**

Так піша клімавіцкая газета **«Комуна»** (нумар за 13 верасня).



Яшчэ-б не рассыпалася малатарня, калі замест збожжа на ёй пачынаюць малаціць... калгас. Вы-б яшчэ цэлы сельсовет з усімі яго будынкамі, зямлёй, жывёлай уздумалі змалаціць. Не прыстасаваны да такой работы нашы малатарні, тав. **Кулінковіч.** Удасканаліць іх трэба крыху, тады можа і вытрымаюць такую нагрузку, не будуць рассыпацца. Дый калгасаў шкада, не трэба іх малаціць.

# Ініцыятыва практыка вопыт

◆ **«Варашылавец за суцэльную тэхпісьменнасць»**—новая друкаваная шматтыражка пачала выдавацца менскім чырвонасцяжным заводам імя Варашылава. Выданне спецыяльнай газеты, прысвечанай барацьбе за аўладанне рабочымі тэхнікай сваёй вытворчасці—каштоўны ўклад у справу падрыхтоўкі да ўсебеларускай канферэнцыі зотаўцаў цяжкай прамысловасці.

◆ **«Дзень рабкора» на Бярэзінскім камбінаце правяла** рэдкалегія шматтыражкі камбіната **«Чырвоны бярэзінец»** пры актыўным удзеле 23 цэхавых і брыгадных насценгазет. За час падрыхтоўкі да «дня рабкора» на камбінаце створана 5 новых насценгазет, праведзен конкурс на лепшую насценгазету.

У «дзень рабкора» газета паказала тых рабочых камбіната, якія пасля канкрэтнай і дзелавой крытыкі іх недахопаў выправіліся і занесены цяпер на чырвоную дошку.

◆ **«Што было 8 верасня на кватэры Камянецкай»**—пад такім аншлагам шматтыражка барысаўскага дрэваапрацоўчага камбіната **«Комінтэрн»** друкуе справаздачу аб праведзенай на кватэры работніцы Камянецкай гутарцы па пытанню ўсесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў. У гутарцы прымала ўдзел 27 старэйшых рабочых, ударнікаў камбіната. Яны абмеркавалі даклад на з'ездзе Максіма Горкага, параўналі на канкрэтных прыкладах сёнешнюю моладзь, якая прагна цягнецца да літаратуры, з дарэвалюцыйнай моладдзю, губіўшай малыя годы ў папойках, хуліганстве.

Гутарка на кватэры Камянецкай—пачатак абвешчанага шматтыражкай **«Ударнік»** паходу за аўладанне літаратурным мінімумам кожным рабочым камбіната.

◆ **4-хдзенныя курсы, арганізаваныя шматтыражкай чэрвеньскага леспрамгаса «Ударнік леса»** для рэдактароў і рабкораў нізавых газет на лесапрацоўках скончылі сваю работу. У дзень завяршэння работы курсаў рэдактары звярнуліся да ўсіх рэдкалегій нізавых газет і рабкораў з заклікам уключыцца ў работу на хлебазакупках. Некалькі леснікоў участка ў гэты-ж дзень адказалі на заклік рабкораў продажам дзяржаве звыш 3 цэнтнераў зярна.



ЮНЫ СТАЛІНЕЦ

22 ... 1934 года

№ 1

Орган ... Пухавіцкай МТС БССР

Больш увагі да нас—да піонэраў і вучняў

Слова да піонераў і вучняў

Вынікі не працуе

Здравиі мегосеи

**— «ЮНЫ СТАЛІНЕЦ» — дзіцячую газету пачаў выдаваць днямі палітаддзел Пухавіцкай МТС.**

⦿

◆ **Новая «Літаратурная газета»**—орган паркома, прафкома і дырэкцыі КІЖ'а БССР—паказальнік разгортвання масавага літаратурнага руху. У газеце, першы нумар якой вышаў 29 верасня, змешчан рад апавяданняў, вершаў былых рабселькораў-ударнікаў, работнікаў раённага і цэнтральнага друку, а сёння студэнтаў Комуністычнага інстытута журналістыкі.

Выданне «Літаратурнай газеты»—ініцыятыўнае пачынанне шматтыражкі КІЖ'а—**«КІЖАВЕЦ»**.

◆ **«Соцыялістычная перамога»**—чарыкаўская раённая газета—арганізавала і выдала спецыяльны друкаваны бюлетэнь, прысвечаны прызыву ў РСЧА. Бюлетэнь друкуе адказ прызыўнікоў Вепранскага сельсовета на выклік мірагошчанцаў. Вепранскія прызыўнікі адказалі мірагошчанцам продажам кааперацыі паўтара цэнтнера хлеба.

◆ **Перапіску чырвонаармейцаў са сваімі калгасамі** арганізавала на старонках газеты рэдакцыя **«Большэвіка Барысаўшчыны»**. У перапіску ўцягваюцца і прызыўнікі 1912 г. нараджэння.

◆ У калгасе **«Шлях комуны»**, **Хатавіцкага сельсовета, Плешчаніцкага раёна**, рэгулярна выдаецца **фота-насценгазета**. Сваімі вострымі карыкатурамі газета трапна б'е па прагульшчыках і лодырах, усіх тых, хто нядобрасумленна адносяцца да аховы калгаснага ўраджаю. Жывымі зарысоўкамі фота-газета папулярызуе лепшых ударнікаў, праз малюнкі і кароценькія подпісы да іх паказвае метады ўдарнай работы лепшых калгаснікаў.

◆ **У паход за сытую, цёплую зімоўку жывёле** выступіла газета палітаддзела Полацкай МТС **«Палітаддзельская праўда»**. У парадку падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабсელькораў рэдакцыя газеты з удзелам селькораўскага актыва правяла ў 19 МТФ рэйд па праверцы падрыхтаванасці калгасных ферм да зімоўкі. Рэйдавымі брыгадамі праверана становішча маладняка на фермах, становішча вадапояў, выкананне плана сіласавання, якасць догляду жывёлы і забеспячэнне яе кармамі на зіму. Асаблівую ўвагу брыгады звярнулі на сканчэнне будаўніцтва і рамонту хлявоў, на ацяпленне іх.

Удзельнікі рэйда папулярызавалі сярод работнікаў ферм новыя спосабы гатавання саломы на корм жывёле, расказалі аб значэнні загатовак торфу, моху і лісця на подсціл жывёле.

◆ **Абсталёўваюць уласныя друкарні** ў бліжэйшы час рэдакцыі рагачоўскай і асвейскай палітаддзельскіх газет.

◆ **У парадку падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў** палітсектар МТС запрапанаваў усім палітаддзельскім газетам **распачаць на сваіх старонках абмен вопытам работы калгасных і брыгадных насценгазет.**

**ДА УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА РАБСЕЛЬКОРАЎ ДАЦЬ 2000 ПАДПІСЧЫКАЎ НА ЖУРНАЛ „БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК“**

# Выклік чэрвеньскага „Калектывіста“

У сувязі з падрыхтоўкай да 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў і ўсё большым ахопам рабселькораў вучобай чэрвеньская раённая газета «Калектывіст» паставіла перад сабой задачу прасунуць журнал «Большэвіцкі друк» у масы рабселькораў.

У выніку праведзенай работы распаўсюджана па раёну сярод рэдкалегій насценгазет і рабселькораў 52 экземпляры журнала «Большэвіцкі друк» на розныя тэрміны. Заданне па раёну ў 15 экземп. перавыканана ў тры з лішкам разы.

Выклікаю на поўнае выкананне заданняў па падпісцы на журнал «Большэвіцкі друк» рэдактароў **«Большэвіка Барысаўшчыны»**, **«Чырвонай Лагойшчыны»**, **«Рэчыцкай праўды»**, **«Ленінскага шляху»** (Слуцак), і рэдактара жлобінскай раённай газеты **«Шлях соцыялізма»**.

**Адказны рэдактар чэрвеньскай раённай газеты «Калектывіст» ПЫКО.**

***

Калектыў работнікаў шматтыражкі чэрвеньскага леспрамгаса **«Ударнік лесу»** выпісвае 7 экземпляраў журнала «Большэвіцкі друк» да канца года. З выпісаных 2 экземпляры ідуць рэдактарам лесных насценгазет на лесаўчастках.

Выклікаем наследаваць нашаму прыкладу газеты ўсіх леспрамгасаў і торфзаводаў БССР.

**Адказны рэдактар шматтыражкі «УДАРНІК ЛЕСУ» КАЦ.**

***

Раённы злёт рабселькораў Жлобіншчыны ў прынятых самаабавязацельствах запісаў: «Мы лічым, што кожны селькор павінен быць падпісчыкам кіруючага журнала «Большэвіцкі друк», а рэдактары насценгазет павінны выпісаць гэты журнал у абавязковым парадку».

Я першым адгукаюся на гэту пастанову злёта і выпісваю журнал «Большэвіцкі друк» да канца года. Выклікаю наследаваць майму прыкладу тт. **Фалеяна** і **Мілейку** з калгаса «Рассвет-пераможца», **Ганжурава**—рэдактара насценгазеты калгаса імя Косарэва, **Корбута** — рэдактара насценгазеты калгаса «Чырвоны завод» Чацвярнянскага сельсовета, **Гузава Ігната** — селькора вылучэнца на работу ў МТС.

**Адказны рэдактар насценгазеты калгаса «Серп і молат», Мормальскага сельсовета, А. САМУСЕВІЧ.**

Менск, друкарня «Звязды». Горліт № 5653.